ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

13 студзеня 1995 г. № 2 (3774) Кошт 200 руб.

## У ІМЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

***Ніл ГІЛЕВІЧ: "Адзіная сіла, якая магла б хоць у нейкай меры аб'яднаць разнамасных і рознагалосых, — гэта беларуская нацыянальная ідэя, ідэя адраджэння Беларусі як незалежнай дзяржавы — са сваім уласным абліччам, уласнай мовай і культурай, уласнай, самастойнай унутранай і міжнароднай палітыкай. Праз гэта абавязкова праходзілі ўсе дзяржавы, якія вырываліся з-пад апекі магутных дабрадзеяў і якія сёння маюць высокі аўтарытэт".***

**3**

## ЧЫМ ЖЫВЕШ, ЧАЛАВЕК?

***Бліц-апытанне "ЛіМа"***

**4**

## "МЫ ШУКАЕМ НОВЫ, СВЕТЛЫ ВОБРАЗ САМІХ СЯБЕ..."

***Алесь АНЦІПЕНКА: "За мной стаяць мае продкі, і я не выпадковая істота на гэтай зямлі, а вынік перадачы жыцця ад адной генерацыі да другой. Як мы не выбіраем зямлю, дзе нарадзіліся, бацькоў, гэтак жа мы не выбіраем і веру, бо за нас гэта зрабілі бацькі. Ёсць рэчы, на якія чалавек не мае права выбару".***

**5, 12**



## МАЙСТЭРСТВА І ФАНТАЗІЯ

Выстаўка "Калядныя ўзоры" адкрылася ў Мінску. Яе арганізаваў Саюз майстроў народнай творчасці Беларусі і Нацыянальны музей гісторыі і культуры.

Сапраўды невычарпная творчая фантазія майстроў. Яны паказалі мноства новых работ у тэхніцы саломапляцення, разьбы і роспісу па дрэве, ткацтва, керамікі. Зноў прадэманстравалі сваё майстэрства Вера Салдатава і Вольга Іванова, Наталля і Юрый Мацвеевы, Наталля Багдановіч і Вольга Ерафеева.

У выстаўцы ўдзельнічаюць і цэлыя сямейныя калектывы. А гэта значыць, што традыцыі нацыянальнага народнага мастацтва жывуць і маюць бліскучы працяг.

*На здымак: на выстаўцы "Калядныя ўзоры"; калядныя песні выконвае фальклорны ансамбль "Агмень".*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ*



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

Паважаныя прыхільнікі "ЛіМа"!

Падпісацца на наш тыднёвік — ніколі не позна.

Калі вы падчас хуткацечнай падпісной кампаніі не паспелі выпісаць "ЛіМ" — зрабіце гэта цяпер. Падпісацца на тыднёвік можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі ўжо сёння. І пачынаючы з сакавіка "ЛіМ" сам будзе прыходзіць да вас.

Падпісны кошт на адзін месяц — *500 рублёў*, гэта значна танней, чымсьці набываць штораз тыднёвік у шапіках "Саюздруку".

*Наш індэкс — 63856*

# КОЛА ДЗЁН

***Чарада святаў сёлета прайшла на Беларусі амаль незаўважна: трапіліся яны на выхадныя дні і калядныя канікулы справілі толькі на тых прадпрыемствах, якія не паспеў прэзідэнт "запусціць" да 1 студзеня. А такіх аказалася нямала... Калі прэзідэнт і надалей будзе працаваць гэтак, як і раней — прыгадайма, па бавоўну для Баранавіцкага камбіната ён асабіста ездзіў ва Узбекістан, то давядзецца яму аб'ехаць паўсвету. Паэт казаў: "Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць..." Так што прэзідэнцкае акружэнне павінна быць пільным: як бы гэткія ваяжы па сыравіну не ператварыліся для прэзідэнта ў ваяжы па Беларусь...***

## ЗМОВА ТЫДНЯ?

6 студзеня ўрадавыя дэлегацыі Беларусі і Расіі падпісалі восем пагадненняў, якія, па словах М. Чыгіра, стануць асновай для заключэння дагавора аб дружбе, супрацоўніцтве і добрасуседскіх адносінах паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй. Члены "ценявога" кабінета міністраў, створанага БНФ, са свайго боку, лічаць, што падпісанне пагадненняў аб устанаўленні мытнага саюза паміж Расіяй і Беларуссю, аб асноўных прыступках стварэння фінансава-прамысловых груп і інш. вядзе "да ліквідацыі незалежнасці дзяржавы, да поўнай галечы беларускага народа, да велізарных страт, непапраўнага глуму і вынішчэння нацыянальнага, матэрыяльнага і культурнага дабра". Словы З. Пазняка пра тое, што за спіною ў першага беларускага прэзідэнта стаіць расійская мафія, якая прывяла яго да перамогі на выбарах, набываюць канкрэтны змест?

## ЗДЗЕК ТЫДНЯ

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб павелічэнні з 1 студзеня мінімальнае заработнае платы да 30 тысяч рублёў. У савецкія часы мінімальная заработная плата была ў прыбіральшчыц і складала 70 рублёў. Цяпер жа, з улікам "кампенсацыі", прыбіральшчыца будзе атрымліваць недзе 50 тысяч рублёў, якіх хопіць на 3—5 кілаграмаў варанай кілбасы. І то — сёння. Бо ўрад ужо "прадугледзеў", што ў студзені цэны на малако будуць павялічаны ў 2,7 раза, масла — у 2 разы, мясныя прадукты — у 1,7 раза, а ў цэлым па прадуктах харчавання — у 1,6 раза. Дзякуй ураду і прэзідэнту за павелічэнне заробку ў 1,5 раза. (Дарэчы, цэны на праезд у гарадскім транспарце ў сувязі з павелічэннем заробку вырастуць у 2,5 раза, цэны на электрычнасць — у 2 разы, а ў колькі разоў вырастуць "вольныя" цэны на адзенне і інш. — адзін Бог ведае.)

## ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Вадзіцелі мінскіх гарадскіх аўтобусаў заявілі, што калі не будуць выкананы іх патрабаванні аб даплатах і аб не прыцягненні да адказнасці ўдзельнікаў папярэджальнай забастоўкі, то яны пакідаюць за сабою права правесці 31 студзеня аднадзённую забастоўку. Гэта азначае, што аўтатранспарт у гэты дзень хадзіць не будзе зусім. Удар, як кажуць, ніжэй пояса, адказаць на які адмыслова гарвыканкаму амаль немагчыма. Мы з разуменнем і прыхільна ставімся да таго, што рабочы клас ядначацца і адваёўвае свае правы. Але ў каго? І якія? А што калі забастоўкі настаўнікі альбо ўрачы — таксама бюджэтнікі, якія, дарэчы, атрымліваюць заробак у 5—10 разоў меншы, чымсьці вадзіцелі аўтобусаў? Аўтара гэтых радкоў здзівіла аб'ява, якую ён убачыў на сваім прыпынку: аўтапарку нумар 5 патрабуюцца вадзіцелі, і тут жа, як рэклама — сярэдні заробак у снежні склаў 900 тысяч рублёў... Адзін з рэдактараў аддзела "ЛіМа", які ў снежні атрымаў 150 тысяч, сказаў: "Калі б меў правы, кінуў бы работу, нягледзячы на 5 гадоў універсітэта і 20 гадоў газетнага стажу і пайшоў бы ў вадзіцелі..." Пытанне прэзідэнту: няўжо і сапраўды дзеля таго, каб вы зразумелі, як несправядліва цяжка жывуць сёння настаўнікі, медыкі, творчая інтэлігенцыя — нам трэба аб'ядноўвацца і баставаць? І яшчэ: калі нарэшце будуць аднолены парушэння прапорцыі паміж высокакваліфікаванай разумовай працай і фізічнай? "Вячэрні Мінск" 9 студзеня надрукаваў параўнаўчы заробак некаторых катэгорый працаўнікоў у Германіі. Дык вось, у пераводзе на нашыя грошы, вадзіцель аўтобуса там атрымлівае 25,1 млн. рулёў, настаўнік сярэдняй школы — 33,6 млн. рублёў, прыбіральшчыца — 7,2 млн. руб., галоўурач — 53,3 млн. руб., рабочы на аўтаканвееры — 16,8 млн. руб., прафесар — 54,7 млн. рублёў... Падумайце, спадар прэзідэнт і спадар прэм'ер-міністр.

## НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ

З усіх відаў мастацтва на Беларусі найважнейшым стала — эстрада. Да безлічы розных конкурсаў, фестываляў і проста прэмій сёлета дадаліся яшчэ "Фаварыты года" і, з вялікай доляй іроніі, можна залічыць сюды і "Неферціці", бо найбольшая колькасць намінацый была "занята" якраз эстрадай. Можна спрачацца з заснавальнікамі прэмій і журы наконт лаўрэатаў у некаторых галінах творчасці (напрыклад — у журналістыцы), аднак не будзем гэтага рабіць. Выкажам толькі здзіўленне тым, што былі адзначаны лепшыя рэжысёр, мастак, акцёр, душпастыр і г. д., але не знайшлося месца сярод лепшых ніводнаму літаратару. Быццам не з'явілася летась цікавых паэтычных альбо празаічных кніг... Заўважым, што ў той жа Расіі сочаць не толькі за развіццём эстрады ці поп-музыкі. Там ужо колькі гадоў існуюць і прэстыжныя літаратурныя прэміі: той жа "Трыумф", той жа Букер... Няўжо няма ў нас сапраўдных мецэнатаў?

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Беларусь дэманструе прыклад вельмі дастойных міжнацыянальных адносін. У нас не існуе праблем рускамоўных, хутчэй за ўсё, мае месца праблема беларускамоўнага насельніцтва, якую неабходна вырашаць. Працэс жа нахабнай русіфікацыі працягваецца: на сённяшні дзень на 94 асобнікі рускамоўнай перыёдыкі прыпадае толькі 6 беларускамоўных. Думаю, што ў тэле- і радыёэфіры суадносіны яшчэ горшыя, г. зн. існуе яўнае, адкрытае супрацьдзеянне адраджэнню беларускае самасвядомасці і таго менталітэту, які нашмат больш гарманіруе з гэтай зямлёю, з гэтым краем, чым прывазны".

*(З гутаркі карэспандэнта "Знамя юности" са Станіславам Шушкевічам. "ЗЮ", 10 студзеня г. г.)*

## КАНФУЗ ТЫДНЯ

Некаторы час назад Яўген Шапавікоў у родных Баранавічах паступіў у музычную вучэльню, але быў адлічаны з яе на другім курсе, бо наведваў толькі спецдысцыпліны і ігнараваў заняткі па астатніх прадметах. Пасля "падарожжаў" па былым Саюзе Яўген аказаўся ў Адэсе, дзе ажаніўся на адэсітцы і ў рэшце рэшт эміграваў у Ізраіль. Там яго адразу залічылі на трэці курс Акадэміі мастацтваў у Тэль-Авіве. Як паведаміў РІД, нядаўна 26-гадовы Яўген Шапавікоў прызнаны лепшым тэнарам Ізраіля. Канцэрты саліста мясцовага опернага тэатра Я. Шапавікова распісаны цяпер на год наперад... Як кажуць, няма прарока ў сваёй Айчыне.



# ГРАМАДЗЯНАМ ГАРАНТУЕЦЦА СВАБОДА СЛОВА...

## З СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

Будучы гісторык, які выбера для сябе прадметам даследавання нашу краіну канца васьмідзесятых — пачатку дзевяностых гадоў, не праміне, відаць, адзначыць, што найбольш яркай прыкметай дэмакратычных перамен у тагачасным грамадстве сталі сродкі масавай інфармацыі. Менавіта яны паказалі народу, заняволенаму дзесяцігоддзямі камуністычнага ўладарання, што ўяўляюць сабой сапраўдныя дэмакратычныя каштоўнасці — права на свабоду асобы, свабоду слова і інфармацыі, што прыйшлі на змену "свабодзе" прапаганды і агітацыі" — непазбежных спадарожнікаў усякага таталітарнага рэжыму.

Здаецца, Вальтэру належыць наступная сентэнцыя: ён гатовы ахвяраваць сваім жыццём дзеля таго, каб яго праціўнікі заўсёды мелі права выказваць свае думкі. Сентэнцыя, якая два з нечым стагоддзі нібы лакмусавая паперка вызначала стан грамадства любой краіны. Першая прыкмета наступу рэакцыі, таталітарызму — гэта спроба накінуць удаўку на сродкі масавай інфармацыі (прадбачачы верагодныя папрокі наконт агітацыі за "усёдазволенасць" прэсы, адзначу, што маю на ўвазе яе дзейнасць у цывілізаваных, канстытуцыйных рамках, начыста адвяргаючы прапаганду фашызму, насілля, нацыянальнай варожасці).

Сведчаннем таго, якой яшчэ хісткай, нетрывалай адчувае сябе дэмакратыя ў нашай краіне, з'явіліся вядомыя падзеі апошніх тыдняў, падзеі, што не засталіся незаўважанымі бадай ва ўсім свабодным свеце. Я кажу пра ўвядзенне прэзідэнцкай адміністрацыяй фактычнай цэнзуры ў сродках масавай інфармацыі, у выніку чаго шэраг газет вымушаны былі выйсці з белымі плямамі.

Праўда, трэба прызнаць, што тады, калі цэнзура хітра хавалася за малазразумелай абрэвіятурай "Галоўліт", і выхад газеты з белымі плямамі быў бы немагчымы. Без візы цэнзара яе б ніхто наогул не стаў друкаваць — ні з "плямамі", ні без "плямаў". Хіба толькі пры ўмове замены "крамольнага" артыкула на іншы (сітуацыя, у якую неадночы трапляў і "ЛіМ").

У першыя дні новага года мы сутыкнуліся з новымі фактамі ўціску ўлад у адносінах да шэрагу газет, якім Беларускі дом друку адмовіў у паліграфічных паслугах, тлумачачы гэта "перагрузкай вытворчых магутнасцей". Але калі мець на ўвазе, якія газеты трапілі ў "чорны" спіс, няцяжка ўбачыць, чые "вушы" тырчаць з-за гэтай забароны, хто зводзіць рахункі з непакорлівай прэсай.

Увядзенне непрыхаванай цэнзуры ў адносінах да сродкаў масавай інфармацыі сёй-той схільны быў вытлумачыць адсутнасцю належнай прававой базы, прававога поля, у межах якога павінна існаваць і дзейнічаць прэса. Сапраўды, вось ужо некалькі гадоў Вярхоўны Савет рэспублікі ніяк не мог "разрадзіцца" законам аб друку.

Але, як кажуць, няма шчасця, дык няшчасце дапамагло. Відаць, нагаданыя вышэй падзеі прымусілі вышэйшы орган заканадаўчай улады фарсіраваць прыняцце гэтага важнага дакумента, унесенага на разгляд парламента камісіяй Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека.

Паартыкульнае абмеркаванне Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" ў аўторак 10 студзеня паказала, што большасць дэпутатаў Вярхоўнага Савета ўсведамляе надзвычайную важнасць і актуальнасць дакумента. Ва ўсякім разе, большасць з пяцідзесяці з нечым артыкулаў закона была прынята.

Калі ж закрануць змест закона, дык наўрад ці прыйдуцца даспадобы наваяўленым цэнзарам такія яго артыкулы, як, да прыкладу, "Свабода друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі" ці "Недапушчальнасць цэнзуры масавай інфармацыі". "Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права бесперашкодна шукаць, атрымліваць, выкарыстоўваць і распаўсюджваць інфармацыю пра дапамозе друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, свабодна выказваць праз іх свае думкі, погляды і меркаванні". "Цэнзура масавай інфармацыі — гэта значыць патрабаванне ад рэдакцыі з боку дзяржаўных органаў, арганізацый, устаноў, грамадскіх аб'яднанняў або службовых асоб папярэдне ўзгадняць паведамленні і матэрыялы — не дапускаецца". Вось так!

Закон фактычна рэгулюе ўсе бакі існавання і дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі. Ад умоў іх заснавання і рэгістрацыі, іх адносін з грамадзянамі, дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі да правоў і абавязкаў журналістаў.

Абмеркаванне паасобных артыкулаў законапраекта не абышлося і без вострых сутычак заканадаўцаў. Так, напрыклад, не прыйшлі да згоды дэпутаты па артыкуле 6: "Мова сродкаў масавай інфармацыі". Палажэнне гэтага артыкула, якое сцвярджае, што "сродкі масавай інфармацыі, адным з заснавальнікаў якіх з'яўляюцца дзяржаўныя органы, ажыццяўляюць сваю дзейнасць на дзяржаўнай мове", было расцэнена шэрагам дэпутатаў як... дыскрымінацыя рускай мовы. Пасля працяглай дыскусіі спрэчны артыкул вырашана было вярнуць камісіі на дапрацоўку.

Спрэчкі выклікаў і артыкул 8, дзе пералічаны магчымыя заснавальнікі сродкаў масавай інфармацыі. Некаторыя дэпутаты ад мікрафонаў аспрэчвалі правамернасць існавання ў гэтым пераліку дзяржаўнага органа, што, на думку некаторых прамоўцаў, супярэчыць міжнародным нормам, — нідзе ў дэмакратычным свеце дзяржаўныя органы, уключаючы і кіраўнікоў краін, не маюць сваіх сродкаў масавай інфармацыі.

Гэта, бадай, і ўсё. Да завяршальнага акорда засталося амаль нічога. Закон аб друку ёсць! З чым і можам сябе павіншаваць.

**М. ЗАМСКІ**

Пошта

# ЦІ МАЮЦЬ НЕМЦЫ РАЦЫЮ?

У кнігарнях Мінска з'явілася цікавая, на мой погляд, кніга А. Басава і І. Куркова "Флагі Беларусі ўчора і сёння". Пра гэту кнігу, дарэчы, ужо паведамляў "ЛіМ". Магчыма, гэтая кніга пераканае тых зацятых дэпутатаў-ветэранаў, што выступаюць супраць нацыянальнага дзяржаўнага сцяга Беларусі. У звязку з гэтым успомнілася мне адна кніжка, якую я пабачыў летам у кнігарнях Германіі. Называецца яна "Das Flaggenbuch", у перакладзе "Кніга пра сцягі". Выдадзена яна такім жа вялікім фарматам, як і наша, але ў цвёрдай люкс-вокладцы ў выглядзе альбома.

У гэтай кнізе паводле лацінскага алфавіта падаюцца сцягі ўсіх краін свету ў каляровым адлюстраванні. Мяне зацікавіла, ці ёсць там сцяг Беларусі. Пад лацінскай літарай "B"-Belarus-сцяга і такой краіны не было. Але амаль у самым канцы кнігі пад літарай "W" я знайшоў наш бел-чырвона-белы сцяг і краіну Weisrusland — так немцы цяпер называюць Беларусь. У перакладзе гэта азначае "Белая Расія" што ўносіць шмат непаразумення ў галовы простых бундэсбюргераў. Шкада, што наш экс-пасол Беларусі ў ФРГ П. Садоўскі, які дасканала валодае нямецкай і беларускай мовамі, не зрабіў своечасовых захадаў, каб пазбегнуць гэтага непаразумення ў сувязі з недакладным перакладам назвы нашай краіны. Можна было прапанаваць немцам неперакладную назву Belarus, растлумачыўшы, што Расія і Русь — гэта не адно і тое самае. Не позна было б зрабіць гэта яшчэ і цяпер.

У кнізе, акрамя сцяга краіны, падаецца яшчэ як кароткія "анкетныя дадзеныя". Так, паведамляецца, якую тэрыторыю яна займае, колькі насельніцтва пражывае там, як называецца сталіца, колькасць яе жыхароў, а напрыканцы падаецца мова краіны. Дык вось што там даслоўна напісана: "Sprachen: russisch, polnisch". Мовы: руская, польская.

Спачатку я здзівіўся, але потым зразумеў, што немцы напісалі ўсё правільна. Яны народ дакладны, практычны, глядзяць на свет рэальна і, напэўна, палічылі, што напісаць "беларуская мова" было б хлуснёй, уводам у зман сваіх грамадзян.

Гэта толькі ў нас можна запісаць у Канстытуцыі, што дзяржаўная мова — беларуская, а карыстацца ў грамадскім і дзяржаўным жыцці мовай суседняй дзяржавы, сваю ж у дадатак яшчэ і ганьбіць.

Ведаючы педантычнасць і (акуратнасць) дакладнасць немцаў ва ўсім, знайшліся б, напэўна, такія чытачы, што паскардзіліся б на выдаўцоў за тое, што іх падманулі, напісаўшы "беларуская мова", бо беларусы не размаўляюць на сваёй мове. А гэта ведаюць цяпер ужо тысячы нямецкіх сем'яў, дзе адпачываюць летам нашы беларускія дзеці. Прыехаўшы да немцаў на аздараўленне ці адпачынак, дзеці, іх выхавальнікі і бацькі называюць сябе "русіш", а краіну, з якой прыехалі, — "Русланд". Гасцінную фраў Эльзу і яе сям'ю нашы суайчыннікі вучаць вітацца па-руску "Здравствуйте", але беспаспяхова, бо слова, якое складаецца амаль з адных зычных гукаў, для фраў Эльзы вымавіць немагчыма. У якасці падарункаў-сувеніраў прывозяць "матрёшкі" і "ложкі", якіх у Беларусі, напэўна, болей, чым у Расіі.

Не за гарамі той дзень, калі наш Прэзідэнт, напэўна ж, наведае з афіцыйным візітам ФРГ. Толькі каб не атрымаўся там канфуз на моўнай глебе. Канцлер Коль мае ўжо непрыемны вопыт з экс-прэзідэнтам Украіны Л. Краўчуком, калі той адмовіўся разумець пераклад з нямецкай мовы на рускую і запатрабаваў, каб перакладалі на дзяржаўную — украінскую мову. Прыйшлося канцлеру Колю тэрмінова шукаць перакладчыка з украінскай мовай. Меўшы ўжо такі моўны досвед з новымі суверэннымі краінамі, канцлер ФРГ напэўна загадзя знойдзе перакладчыка на дзяржаўную мову Беларусі. Толькі невядома, як адрэагуе на гэта наш Прэзідэнт. Ці не прыйдзецца раптам зноў мяняць перакладчыка?

Мова — душа народа. Душамі беларускіх вернікаў займаюцца праваслаўная царква і каталіцкі касцёл. Не, не памыліліся немцы. Варта зайсці падчас набажэнства ў царкву ці ў касцёл, каб пераканацца, што Sprachen: russisch, polnisch.

**П. ЛУБОЎСКІ**

*г. Мінск*

# БДУ — БЕЛАРУСКУЮ МОВУ!

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ВУЧОНАЙ РАДЗЕ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА МІНІСТЭРСТВУ АДУКАЦЫІ І НАВУКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прайшло пяць гадоў, як у Беларусі былў уведзены ў дзеянне "Закон аб мовах", чацвёрты год — як Беларусь абвешчана незалежнай дзяржавай, прынята першая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Паводле гэтых фундаментальных законаў беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. І гэтыя законы абавязковыя для выканання як прэм'ер-міністрам, так і прэзідэнтам краіны, як загадчыцай дзіцячага садка, так і рэктарам універсітэта. Таму мы патрабуем ад рэктара і ўсяго прафесарска-выкладчыцкага складу БДУ поўнага выканання "Закона аб мовах" і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Патрабуем з 1 верасня 1995 года перавесці БДУ цалкам на беларускую мову навучання. БДУ можа і павінен стаць першынцам і флагманам адраджэння сістэмы нацыянальнай адукацыі — сапраўды Беларускім Нацыянальным Універсітэтам.

Сёлета 14000 вучняў сярэдніх школ заканчваюць беларускую школу. Дайце ім магчымасць прадоўжыць навучанне ў Беларускім універсітэце на роднай мове.

Беларускі Нацыянальны Універсітэт — гэта сапраўдны падмурак Беларускай Дзяржавы.

**Каардынацыйны Камітэт па абароне беларускай мовы**

Навагоднія

Рыгор БАРАДУЛІН

# ДУРНОТЫ

### ЧУЛЫ ЛІРЫК

**Па табе,**
**Як і па вершу,**
**Я журуся між алей.**
**Я табе "ліхтар" падвешу,**
**Каб ісці было святлей.**

### НЕ КАЖУЦЬ

**Смяецца прыкмета,**
**Сабе паверыўшы:**
**У доме паэта**
**Не кажуць пра вершы.**

### АПАЛЬНЫЯ

**Не елі, не пілі, не спалі,**
**Гнеў вылівалі да цурка.**
**Яны былі ў такой апале —**
**Аж сталі**
**Членамі ЦК.**

### СІМВАЛ

**З'ездзіўшыся зусім, вол**
**Ператварыўся ў сімвал.**
**Хоць сімвал**
**Багаты ў змесце,**
**На ім ні араць, ні везці.**

### ДЗЕ КРЫЖ?

**Любую газету, часопіс біры ж —**
**Зусюль вытыркаецца абавязкова**
**Пытанне: дзе крыж Еўфрасінні?**
**Дзе крыж?**
**І ўрэшце даўмеешся —**
**Крыж у Арлова!**

### РЭЖЫСЁР

**Пажадны пал ахвотна ятрыў**
**І самалюбства цуглі грыз.**
**Тым і трымаўся**
**У тэатры,**
**Што знаў,**
**За што трымаць актрыс.**

### ЯШЧЭ ЖЫВАЯ

**Хоць і ў сваё вароты мяч**
**Забіць**
**Тута яшчэ жывая,**
**Калі заслужаны стукач**
**Паэмна стукача ўшчувае.**

### КУДЫ?

**Куды падзець свае вочы й вушы,**
**Калі,**
**Збіраючы слёзы ў падол,**
**Пачынаюць Госпада масліць**
**Клікушы —**
**Выпускнікі**
**Вышэйшых партыйных школ.**

### РАЗНАВІДНАСЦІ

**Нялёгка тэму за рогі ўхапіць,**
**Як і тура,**
**І думка ўцякае**
**апуджанай птушкаю.**
**Лягчэй падзяляецца літаратура**
**На элітарную, паўлітарную**
**Ды чацвяртушкавую.**

### БЫЛА

**Аж крычыць парторг-расстрыга,**
**Што была яшчэ й тады**
**У яго ў кішэні фіга,**
**У застойныя гады.**

### САМААКУПНЕЙ

**Два літаратурныя Іваны,**
**Каб не змыўся з іх цэкоўскі глей,**
**Са свайго ж дзярма**
**прымаюць ванны —**
**І самаакупней, і цяплей!**

### ДВАРАНІН

**Ён лічыць сябе вялікім,**
**Як і падплецены лыкам**
**Свой кожны твор.**
**З дваранства вядзе радавод,**
**На бліскучасці лысіны**
**засярођжаны.**
**Ён сапраўды дваранін,**
**Бо бегаў за вугал на двор,**
**З-за клопату рэвалюцыі**
**незагароджаны.**

### ДАЕШЫ!

**Ах, доля наша, доля**
**Такая-прыскрая.**
**Яе не перайначыш,**
**Хоць усхваляй, хоць гань.**
**Спадар Пазьняк**
**Ваконца ў Еўропу прасякае,**
**Таварыш Лукашэнка:**
**— Даешь Тмутаракань!**

### КУМІР

**Як пачынае ехаць дах,**
**А з дахам заадно й падлога,**
**Няцяжка стаць,**
**Згубіўшы страх,**
**Кумірам у сябе самога.**



Інтэрв'ю

# У ІМЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

***Чытач ведае Ніла Гілевіча як аднаго з самых слынных майстроў слова сучаснай Беларусі, народнага паэта рэспублікі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Мабыць, не менш знакаміты і аўтарытэтны ён і як перакладчык паэзіі, асабліва балгарскай, некаторых іншых народаў славянскіх краін, збіральнік і даследчык нацыянальнага фальклору. На творчым рахунку мастака шэраг літаратуразнаўчых, крытычных і публіцыстычных прац...***

***Апошнім часам свае навуковыя і літаратурна-творчыя пошукі Ніл Сымонавіч паспяхова спалучае з актыўнай грамадскай і дзяржаўнай дзейнасцю. Няма чаго й казаць, наколькі важная, пачэсная і адказная ў нас, беларусаў, — народа з невысокім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці і культуры, місія старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, якую цягам апошніх гадоў выконвае Н. Гілевіч. Нам дужа пашанцавала, што лёсавызначальная на дадзеным этапе заканатворчая праца ў гэтай сферы жыццядзейнасці нацыі вядзецца пад кіраўніцтвам сапраўднага патрыёта Бацькаўшчыны, цвёрдага прыхільніка прынцыпаў незалежнага і самастойнага развіцця Беларусі, чалавека, які і раней, як мала хто іншы, мужна і ахвярна бараніў родную мову і культуру, засцерагаючы беларускі народ ад духоўнага вымірання.***

***Улічваючы гэта, а таксама тое, што асоба Ніла Сымонавіча, акрамя ўсяго, з'яўляецца носьбітам зайздросных чалавечых якасцей, мяркую, чытача зацікавяць наступныя старонкі нашай з ім гутаркі.***

**— Ніл Сымонавіч, вы з'яўляецеся адным з тых, хто сёння фарміруе палітыку нашай дзяржавы на ўзроўні органаў Вярхоўнага Савета. Скажыце, калі ласка, якой вам бачыцца палітычная і грамадска-культурная сітуацыя ў грамадстве адтуль?**

— Паглыбляецца грамадска-палітычны разлад, абвастраецца канфрантацыя. Гэта — небяспечна; калі працэс не стрымаць — ні да чаго добрага ён не прывядзе. Хто ці што можа ўтаймаваць жарсці, што ўсё больш распаляюцца, — не ведаю. Верх бяруць эмоцыі, палітычныя і асабістыя амбіцыі, прага дарвацца да ўлады і ўсесціся ў высокія дзяржаўныя крэслы. Дзеля ўласных выгад, вядома. Вось дзе яно вылазіць знутры накопленае за дзесяцігоддзі гадства!

Адзіная сіла, якая магла б хоць у нейкай меры аб'яднаць разнамасных і рознагалосых, — гэта беларуская нацыянальная ідэя, ідэя адраджэння Беларусі як незалежнай дзяржавы — са сваім уласным абліччам, уласнай мовай і культурай, уласнай, самастойнай унутранай і міжнароднай палітыкай. Праз гэта абавязкова праходзілі ўсе дзяржавы, якія вырываліся з-пад алекі магутных дабрадзеяў і якія сёння маюць высокі аўтарытэт. У нас павінен перамагчы курс на ўсенароднае ўсведамленне гэтай ісціны, на ўсеахопную беларусізацыю душ і сэрцаў мільёнаў "тутэйшых", бо толькі свядомыя патрыёты Беларусі зробяць сваю краіну сапраўды свабоднай, багатай і ўтульнай для сумленнага працоўнага чалавека. Арханаўцы і тарбахваты — не зробяць. Але такі магістральны курс, на вялікі жаль, у нас яшчэ не ўзяты, яшчэ не абвешчаны тымі, у каго сёння ўлада. Здаецца, яшчэ і не збіраюцца яго абвяшчаць. Значыць, выкараскванне з прорвы сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага хаосу будзе і вельмі доўгім, і вельмі пакутлівым.

**— Дык што ж ёсць палітыка, Ніл Сымонавіч?**

— Палітыка? Гэта тое, што ўсе з божай ласкі паэты і мастакі павінны, на добры лад, абыходзіць за сто вёрст збоку. І толькі боль за няшчасную долю Бацькаўшчыны прымушае іх займацца гэтай дзейнасцю. Так было ў часы Купалы, Гаруна, Гарэцкага, так ёсць і цяпер. Амбітныя, прагавітыя да ўлады, грошай і славы невукі, цынікі і хамы стараюцца заквэцаць брудам імёны шчырых рупліўцаў нашага нацыянальнага адраджэння, а галоўнае, — задушыць іх грамадскія ідэалы і памкненні. Бачыць і адчуваць гэта — і горка, і балюча, і агідна. Шчаслівыя народы тых краін, дзе палітыку вызначаюць людзі сумленныя, культурныя, інтэлігентныя і з такім пачуццём уласнай годнасці, што нават пры выпадковай, ненаўмыснай праўпіннасці тут жа падаюць у адстаўку. А ў нас... толькі выціраюць падлоб'е доўгім рукавом ды прамаўляюць: "Раса божая!.."

**— На ваш погляд, наколькі сумяшчальны паняцці: камерцыя і культура?**

— Камерцыя сама павінна быць культурнай. Калі камерцыя будзе ў руках людзей культурных — г. зн. сумленных, сціплых, маральна выхаваных — тады яна не будзе дзікай, грубай, брыдкай, і будзе спрыяць развіццю культуры мастацкай, духоўнай. У прынцыпе не лічу неспалучальным — камерсант і ён жа шчыры аматар музыкі, паэзіі, мастацтва, адным словам — чалавек з высокімі духоўнымі запатрабаваннямі. Іншая рэч — наша сённяшняя "камерцыйна-культурная" рэальнасць. І камерцыя — дзікая, вульгарная, і культура ўсё больш дзічэе...

**— Прафесар універсітэта, першы сакратар Саюза пісьменнікаў, народны дэпутат, старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета... У чым набліжанасць і своеадметнасць гэтых духоўна-грамадзянскіх місій? У якой ступені ўплывалі і ўплываюць яны на вашы пісьменніцкія вышукі?**

— Яшчэ з першых гадоў працы ва універсітэце я пачаў марыць аб тым, што аднойчы — і досыць скора — вызвалюся ад гэтых штодзённых-будзённых клопатаў і стану вольным літаратарам. Цалкам аддамся паэзіі! Да канца жыцця буду займацца толькі творчай працай! Во буду шчаслівым чалавекам! Я быў амаль упэўнены, што станецца менавіта так, бо — так наканавана ад роду, бо — найвялікшую радасць прыносіла мне бясконцае калдаванне над паэтычнымі радкамі. У няпоўных шасцацць я быў удзельнікам рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў, аўтарам некалькіх апублікаваных і безлічы неапублікаваных вершаў, і ўжо тады прадчуваў, дзе мой сапраўдны лёс, маё найпершае і адзінае прызванне, — хоць, можа, і не прызнаваўся сабе ў гэтым. Ну, а прыйшлося ў жыцці рабіць большасцю нешта іншае — вучыць студэнтаў (звыш чвэрці веку), збіраць і выдаваць фальклор, пісаць навуковыя манаграфіі і публіцыстычныя артыкулы, кіраваць Саюзам пісьменнікаў (кожны раз скаланаюся, успомніўшы), займацца дэпутацкімі справамі і заканатворчай дзейнасцю ў Камісіі Вярхоўнага Савета... Столькі жыцця пайшло на ўсё гэта, столькі сіл і здароўя пакладзена, што іншы раз, у хвіліну роздуму, вельмі цяжка на душы робіцца. Ад пранізлівага ўсведамлення, што не здзейснена галоўнае: не абышоў і не агледзеў усю нашу зямельку родную, усе яе куткі-закутачкі, і не напісаў тое, пра што марылася...

А як мае працоўныя будні і грамадскія клопаты ўплывалі на творчыя пошукі? Дык гэта, мабыць, відно па кнігах. Думаю, што не проста ўплывалі, а — у значнай меры вызначалі іх. Прынамсі, ва ўсім, што выказана вершамі, майго жыццёвага лёсу, майго біяграфічнага нашмат-нашмат больш, чым пра гэта пісалі мае шаноўныя крытыкі.

**— Ніл Сымонавіч, што б вы маглі сказаць пра развіццё беларускай літаратуры, у прыватнасці паэзіі, у сённяшні постканіністычны перыяд? Наколькі задавальняе вас наша маладая літаратура?**

— Чакаў і чакаю большага, мацнейшага, ярчэйшага, чым тое, што паяўляецца ў друку. Чаму? Таму што кожным сумленным пісьменнікам і паэтам за апошнія гады перажыта вельмі шмат поўных драматызму падзей — падзей гістарычнага маштабу і значэння, падзей і велічных, і ганебных, і радасных, і трывожных... Не магло ж усё гэта прайсці міма сэрца мастака слова! Сур'ёзны, сапраўды таленавіты творца ў такія гістарычныя эпохі праходзіць праз моцны катарсіс, зведвае вялікія душэўныя ўзрушэнні, выпрабаванні і пакуты, цяжкія пакаянні, горкія расчараванні і балючыя прарывы да новага, да лепшага, да чысцейшага і святлейшага на далягляздзе. Але ж гэта — незаменны, найлепшы і найудзячны "матэрыял" для вершаў і паэм, для апавяданняў і раманаў, для драм і камедый! Думаю, неўзабаве такія — добрыя і выдатныя — творы паявяцца. Талентаў жа не бракуе!..

Што да сённяшняй маладой літаратуры... Задавальняе яна мяне ці не — гаварыць пра гэта сэнсу і карысці мала. Што з таго, што я хацеў бы, каб яна была іншай? Яна ёсць такая, якая ёсць. Адбівае, наколькі можа, тое, чым сёння жыве і як распараджаецца сваім жыццём моладзь. І што з таго, што, на мой погляд, многія маладыя людзі, у тым ліку — і з творчымі задаткамі, распараджаюцца сваім жыццём, мякка кажучы, бяздарна? У гэтым менш за ўсё іх уласная віна: "бацькі і дзяды" — тыя, што былі пры ўладзе, і тыя, што пры ўладзе сёння, — давілі маладых да такога стану, прымусілі іх бязглузда і цынічна прадаваць свае душы д'яблу. І што з таго, што я напомню ісціну: "маральная пачвара таленавітай паэзіі ці прозы не творыць"? Сапраўдны паэт ці пісьменнік і не можа быць маральнай пачварай.

Зычу маладым сябрам часцей думаць менавіта пра гэта.

**Гутарку вёў**
**Мікола МІКУЛІЧ**

# ЧЫМ ЖЫВЕШ, ЧАЛАВЕК?

## БЛІЦ-АПЫТАННЕ "ЛіМа"

***Памятаеце славутае брэжнеўскае — "Будзе хлеб — будзе і песня"? Мы, газетчыкі, досыць часта згадваючы тады гэтае "мудрае правадырскае" выслоўе, усё ж пасміхваліся і з яго, і з "правадыра". А між тым яно, само па сабе, дык і слушнае, бадай. Вядома, выводзіць душэўнае здароўе народа з ягонага матэрыяльнага становішча рызыкоўна, тут часта бывае, так бы мовіць, і наадварот, аднак жа заможнае, багатае грамадства мае магчымасць ствараць спрыяльныя варункі і для ўзбагачэння душы чалавечае. Ну, а жабрачае грамадства? Што яно выдаткоўвае на здароўе гэтай самай душы?***

***Наша сённяшняе грамадства безумоўна жабрачае. І гэта таксама адзін з самых шматлікіх парадоксаў. Жылі мы калісь хай і не надта багата, але — забяспечана, надзейна, пра так званы чорны дзень не задумваліся. Ды аказалася, што забяспечанасць гэтая была ўсё ж прывідная. Досыць было нейкіх двух-трох рэформна-пераходных гадоў, каб пераважная бальшыня людзей ператварылася ў самую што ні ёсць галоту. Адбылося імгненнае пераразмеркаванне грамадскага багацця. Ранейшы (хоць, вядома ж, адносны) прынцып сацыяльнай справядлівасці (лепш — сацыялістычнай ураўнілаўкі) быў тут жа адкінуты — узніклі невялічкія выспачкі багацеяў і суцэльнае мора народнай галечы. І сярод самых бедных — поруч з пенсіянерамі, інвалідамі, шматдзетнымі сем'ямі — апынуліся настаўнікі, урачы, работнікі культуры і мастацтва.***

***Пра гэта красамоўна сведчыць і прапануемае вашай увазе лімаўскае апытанне сяго-таго з названых катэгорый нашых падпісчыкаў і чытачоў. Мы папрасілі іх адказаць на пытанне, як яны задавальняюць сёння свае духоўныя запатрабаванні — у прыватнасці, расказаць аб тым, што яны сёння выдаткоўваюць са сваіх сямейных бюджэтаў на набыццё кніг і газетна-часопісную падпіску.***

***Вось што давялося пачуць ад нашых тэлефонных рэспандэнтаў.***

**Фаіна ВАДАНОСАВА**, загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзела музея Янкі Купалы:

— Магчымасці купіць патрэбную кнігу — няма. Хіба з заробкам 112 тысяч рублёў можна сабе дазволіць набыць тое, што хочаш? Але ж — набываю. Абмяжоўваю сябе мінімумам у гастраноме, але кнігу М. Цвятаевай у перакладзе В. Аколавай — купіла. І без слоўнікаў-даведнікаў абысціся не магу, бо ў хаце ёсць яшчэ дачка-студэнтка. А як можна было не купіць зборнік Янкі Купалы "Жыве Беларусь" (укладальнік — В. Рагойша)?! Усе нашы супрацоўнікі яго набылі, ён дапамагае асэнсаваць наша жыццё, зразумець творчасць песняра, зразумець сябе: хто мы, адкуль і куды ідзём. Але — купляю толькі тое, што аніяк не магу не купіць. А многае — не па кішэні. Скажам, у кнігарнях нямала цудоўных дзіцячых кніжак, ды толькі яны страшэнна дарагія і таму не трапляюць да мяне на паліцу.

І падпісацца на ўсё, што выпісвала раней, не магу. "ЛіМ", "Народную газету", "Культуру", нават "Литературную газету" — выпісала. Цікавы культуралагічны часопіс "Крыніца" — купляю.

Без газеты, часопіса, цікавай кніжкі жыць не магу, гэта — як глыток чыстага паветра, як праменьчык святла ў цемры. Таму і ахвярую: не даем, а куплю...

**Тамара ВАРФАЛАМЕЕВА**, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства:

— Мы ўсё жыццё сябе абмяжоўвалі, раскошы не ведалі, таму і сёння, як кажуць, не прывыкаць. Вядома ж, каб цяпер набыць новую кнігу, трэба дзесяць разоў узважыць, ці вельмі яна табе патрэбна, ці варта аддаваць зусім не лішнія грошы. Калі раней набывала кнігі не толькі па спецыяльнасці, але і па тых галінах ведаў, якімі цікавілася, у прыватнасці, паходжанне жыцця на зямлі, чалавек, космас, жывёльны і раслінны свет, псіхалогія, дык сёння набываю толькі тое, што неабходна для работы. Шчыра кажучы, каб зводзіць канцы з канцамі, мусіш працаваць па сумяшчальніцтве, круціцца, як уюн на патэльні.

Але ёсць такія рэчы, дзе кошт не мае значэння. Напрыклад, тэатр. Мы з дачкою заўсёды бяром білеты ў партэр: каб было добра відаць і чуваць.

Цяпер — наконт падпіскі. Раней я выпісвала мінімум тры-чатыры часопісы, сёння ж — толькі "Спадчыну", астатнія чытаю ў бібліятэцы. З газет выпісваю "ЛіМ", "Культуру", "Народную газету" і "Аргументы и факты". І то, каб выпісаць іх, давялося адмовіцца ад набыцця не менш патрэбных жаночых прычындалаў.

**Валянціна ДРОЗД**, урач-гінеколаг паліклінікі N 7 г. Мінска:

— Я працую на паўтары стаўкі. Зарабіла за апошні месяц 150 тысяч "зайчыкаў". Іх не хапае і на задавальненне матэрыяльных патрэб. Але ж — не хлебам адзіным жыве чалавек. Я даўно забыла, калі была ў кіно, тэатры, калі купляла цікавую кнігу. Сёння папаўняць хатнюю бібліятэку мастацкай літаратурай проста немагчыма — кнігі страшэнна дарагія. Гэта не азначае, што я анічога не чытаю. Ёсць сябры, знаёмыя, вось і абменьваемся адно з адным. Выкручваюся, каб хоць неяк набываць тое, без чаго нельга — новыя даведнікі, энцыклапедыі па медыцыне.

А што тычыцца падпіскі, дык тут таксама давялося сябе вельмі і вельмі абмежаваць. Жывём мы тры сям'і ў адной двухпакаёвай кватэры (сястра з мужам таксама ўрачы). І раней мы выпісвалі 7—8, а то і больш выданняў, а сёння абмяжоўваемся "Народнай газетай" і "7 днями". Часам сёе-тое купляе ў кіёсках муж...

**Наталля СЦЕПАНЦОВА**, старшы выкладчык Беларускай акадэміі музыкі:

— Я на сваю зарплату абсалютна нічога не магу купіць, акрамя мінімума прадуктаў харчавання. Ні пра якія кніжкі, ні пра што іншае і гаварыць не прыходзіцца. Я люблю сваю работу, аддаю ёй усю сваю душу, усе сілы, аднак у нашай абсурднай дзяржаве гэта анікому непатрэбна. Работа настаўніка, выкладчыка, прафесара, дыпламаванага артыста абясцэнена. Работнікам КДБ і МУС аклады павялічаны, а мы апынуліся ля разбітых начовак. Прафесар кансерваторыі мае аклад 160 тысяч рублёў. Нашы студэнты, якія актыўна займаюцца камерцыяй, смяюцца з нас і шкадуюць нас. Многія адкрыта заяўляюць, што музыка — гэта занятак для душы, яна не можа сёння быць прафесіяй, бо з такой прафесіяй чалавек сям'ю не пракорміць. Раней са стыпендыі мы маглі купіць і кніжку, і пласцінку, і нават на сукенку за дватры месяцы сабраць.

А падпісацца сёлета змагла толькі на "Народную газету" — больш не магу дазволіць сабе анічога.

**Барыс ШАБАНОВІЧ**, дырэктар школы N 65 г. Мінска:

— Сямейны бюджэт у дырэктара такі, што — хоць плач. Зойдзеш у кнігарню — столькі кніг! Вочы разбягаюцца. Пастаіш, паглядзіш, пагартаеш, патрымаеш у руках і — на паліцу паставіш. Рэдка што-небудзь купіш.

Тое ж і з падпіскай. Раней я выпісваў 12 і больш выданняў. А цяпер разам з жонкай выпісваем толькі тры: "Настаўніцкую газету", "Рэспубліку" і "Комсомолку" — апошнюю для сына-студэнта. Кампенсую недахоп прэсы тым, што праглядаю, чытаю газеты і часопісы, якія ідуць на школу: дзяржава нейкія грошы на падпіску дае, а часцей звяртаемся да бацькоў, яны дапамагаюць.

Вось так і перабіваемся, як кажуць, з хлеба на квас. А ўсё ж веры не страчваем, спадзяёмся на паляпшэнне жыцця...

**Галіна ТЫЧКА**, крытык, супрацоўніца часопіса "Полымя":

— Хатнюю бібліятэку мы папаўняем рэгулярна. Ёсць такія кнігі, без якіх нам не абысціся. А вось мастацкай літаратурай мы ўжо сябе абмяжоўваем, нават дзіцячая не ўся па кішэні.

Падпісалася на "ЛіМ", "Полымя", "Нашу Ніву", "Свабоду", "Наша слова", "Народную газету". Хачу выпісаць новую "Крыніцу", "Першацвет", "Нёман", "Маладосць", але, шчыра кажучы, у многім даводзіцца сабе адмаўляць. Не магу падпісацца на выданні расійскія, польскія — няма грошай.

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**, пісьменнік, супрацоўнік часопіса "Нёман":

— Сёння дазваляю сабе купляць тое, што вельмі і вельмі патрэбна, без чаго не магу абысціся. І то не з зарплаты, а з ганарара, калі ён надараецца. Класіку ў асноўным я паспеў набыць раней, навінкі мастацкай літаратуры купляю цяпер намнога менш, чым раней. Цікаўлюся гістарычнай, дзіцячай літаратурай. Але і тут сітуацыя навучыла абыходзіцца мінімумам.

На сёлетні год выпісаў "ЛіМ", "Спадчыну", "Беларускую мінуўшчыну", "Вясёлку", "Народную газету". На большае не магу замахнуцца...

**Сумна і горка было ўсё гэта слухаць. Людзі інтэлектуальнай працы не могуць сабе дазволіць выпісаць патрэбныя перыядычныя выданні, набыць неабходную кнігу... І ў голасе кожнага суразмоўцы — ноткі скрухі і нейкай мяккай, сарамлівай прабачальнасці: маўляў, выбачайце, што мы сёння вось такія... Міжволі і ў мяне ўзнікала гэтае пачуццё ніякаватасці, і хацелася папрасіць прабачэння ў іх саміх, тых, што былі на другім канцы дроту...**

**Званіць яшчэ каму-небудзь і расхацелася, і не выпадала. Усе мы сёння, у тым ліку і мае калегі-лімаўцы, сказалі б, пэўна, тое самае. І заклапочаны мы ўсе адным і тым жа: абмяжоўваем сябе ва ўсім, абмяжоўваем і абмяжоўваем...**

**Марыя ГІЛЕВІЧ**

## НА ПОМНІК ДЗЕЦЯМ

**Набліжаецца 50-годдзе Перамогі над фашызмам. Як бы мы ні ставіліся да тагачасных падзей, адно не выклікае сумнення: мільёны людзей са зброяй у руках змагаліся з ворагам, рабілі ўсё ад іх магчымае (а часам і немагчымае!), каб выгнаць з роднай зямлі чужынцаў.**

**Вайна не шкадавала і дзяцей. У прыватнасці, у вёсцы Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна фашысты здзейснілі адно з самых антычалавечых сваіх злачынстваў. На тэрыторыю цяперашняга Чырвонабярэжскага саўгаса-тэхнікума існаваў так званы лагер дзяцей-донараў. Каля дзвюх тысяч беларускіх дзяцей служылі жывымі донарамі для нямецкіх ваяк, аддавалі ім сваю кроў. Большасць з гэтых дзяцей загінула...**

**У свой час, каб увекавечыць іх памяць, на ўрадавым узроўні было прынята рашэнне аб узвядзенні ў вёсцы Чырвоны Бераг помніка малалетнім ахвярам вайны. На сённяшні дзень зроблены ўжо неабходныя земляныя работы, але на большае не хапае сродкаў. Тым не менш, разумеючы сваю маральную адказнасць перад ахвярамі фашызму і будучымі пакаленнямі, над стварэннем аб'екта працягваюць працаваць (па сутнасці, бясплатна) мастакі і будаўнікі, каб паспець да вызначанага тэрміну — 50-годдзя Перамогі над фашызмам.**

**У гэтай сітуацыі толькі агульнымі намаганнямі можна вырашыць праблему.**

**Навуковы савет Жлобінскага гісторыка-краязнаўчага музея прыняў Зварот да ўладных структур, вытворцаў, прадпрымальнікаў, арганізацый і аб'яднанняў, грамадскасці Беларусі з заклікам дапамагчы грашовымі сродкамі.**

**Няхай ахвяраванні кожнага з нас, нават лічаныя рублі, шматлікімі ручайкамі ўвальюцца ў паўнаводную раку дабрачыннасці. Памяць загінуўшых дзяцей патрабуе гэтага. Імёны ўсіх без выключэння, хто адгукнецца на голас сваёй душы і сумлення, будуць занесены ў спецыяльную ганаровую кнігу.**

Грашовыя ахвяраванні неабходна пералічваць на спецрахунак: N 000131426, код 151501766, Жылсацбанк г. Жлобіна з прыпіскай: гарадскі аддзел культуры, "Памяць".

## З ЛЁГКАЙ РУКІ "ЮНАЦТВА"

**У 1992 годзе выдавецтва "Юнацтва" ў серыі "Бібліятэка прыгод і фантастыкі" выпусціла кнігу маладога беларускага пісьменніка Сяргея Трусава, змест якой склалі фантастычныя апавяданні. Яны зацікавілі італьянскіх кнігавыдаўцоў. Напрыканцы мінулага года ў выдавецтве "Аўтунно" выйшаў зборнік лепшых твораў маладых літаратараў Еўропы, у якім апавяданнем "Экзамен па неверагоднасці" прадстаўлены і С. Трусаў. У далейшым плануецца выданне аўтарскай кнігі гэтага беларускага фантаста.**

**М. ЗАБРОДСКІ**

## ЯШЧЭ АДНА КНІГА ЭМІГРАНТА

**Дзякуючы Алене і Лявону Юрэвічам у Беларускім інстытуце навукі і мастацтва, што знаходзіцца, як вядома, у Нью-Йорку, пабачыла свет кніга Уладзіміра Дудзіцкага (друкарня Міколы Прускага) "На пярэймы жаданням".**

**У. Дудзіцкі нарадзіўся 8 студзеня 1911 года на Чэрвеньшчыне, вучыўся ў Белпедтэхнікуме. У 1933 годзе быў арыштаваны, правёў тры гады ў сталінскіх лагерах і год высылкі ў Казахстане. У 1944 годзе выехаў у Германію, некаторы час жыў у ЗША, потым у Венесуэле. Вершы пачаў пісаць яшчэ да вайны...**

**Прэзентацыя кнігі прайшла ў Фундацыі П. Крэчэўскага. Пра творчасць і жыццё У. Дудзіцкага прысутным расказалі Я. Запруднік, А. Шукелойць і іншыя.**

## КАЛЯНДАР — ПАШУКАЦЬ...

**Унікальны каляндар выпусціла Беларускае выдавецкае таварыства "Хата" — "Радавод Полацкіх і вялікіх Беларускіх (Літоўскіх) князёў". На вялікім папяровым палотнішчы пазначаны тыя, хто ўмацоўваў беларускую дзяржаву, пачынаючы ад Рагвалода і канчаючы Жыгімонтам ІІІ Аўгустам. Па распрацоўках Міколы Ермаловіча радавод склаў Анатоль Белы, намаляваў Алесь Цыркуноў. Наклад календара — 20 тысяч экзэмпляраў, а разлічаны ён на два гады — 1995 і 1996. Фундатар выдання — акцыянерны камерцыйны банк "Сервіс-Банк".**

Марцін КОЎЗКІ

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Кепскае жыццё за рубяжом (бачанђе, браце, не пачутае), вельмі невыгодна з плацяжом — за ўсё разлічвайся валютаю. Кожная машына — іншамарка, я не супраць, каб шыкоўна жыць, дык няма ж ніводнае са звалкі, а як трэба танную набыць? З раніцы ў іх там паштальён пісьмы не разносіць, а развозіць. Вось ідзе, таўшчэзны, быццам наш, усміхаецца, ківае галавой, ну, загамані на "беларашн", — не, гергеча нешта на сваёй. Цяжка, браце, мецца за мяжой.

●

Ліфты спыняюцца, тэлефоны змаўкаюць — медзь раскрадаюць, медзь раскрадаюць. Міліцыя носіцца туды і сюды, складае акты, вымярае сляды, а медзь раскрадаюць, медзь раскрадаюць. Аднаго дасюль не магу зразумець, калі паўсюль раскрадаюць медзь, дык нехта ж яе збірае разам, вывозіць з краю, парушае граніцу, куды ж тады глядзіць міліцыя, ці і яе раз'ядае зараза? Баюся за міліцэйскіх камандзіраў, за медныя гузікі на генеральскіх мундзірах.

●

Не асядаць пад дубінаю, не ўступаць ні ў чым! Чалавек плаціць спінаю за права хадзіць прамым.

●

Трапіў у прэстыжны інстытут, нема ў вачах чытаў штодня: па чыёй пратэкцыі ты тут, хто твая ўладная радня?

●

— Дэмакратыю, — сказаў салдафон, — параўнаю хіба што з цудам, скажам, бяжыць ад мяне ахламон, а я яму крычу ўздагон: "Стой, страляць не буду!"

●

Прыдбанае ў моўны гурт не пападае без утрускі. Чаму ж кіргізскае "манкурт" адразу стала беларускім?

## АДЗІН ВЕЧАР З БАРАДУЛІНЫМ

Толькі адзін вечар з народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным змаглі правесці тыя, хто завітаў гэтым разам у Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Ладзілася чарговая вечарына для тых, хто набыў абанемент "Тайна знічнага святла", ці проста завітаў на гасцінны агеньчык бібліятэкі. І адразу ж прысутныя акунуліся ў своеасаблівы спектакль-сустрэчу, назву якому далі хрэстаматыйныя барадулінскія радкі "Трэба дома бываць не госцем...". Канечне ж, у цэнтры ўвагі быў сам Рыгор Іванавіч. Як заўсёды — шчыры і адкрыты, даверлівы і ўлюбёны. І ў саму паэзію, і... ва ўсіх прысутных. Што ж, такая ўжо душа ў паэтаў, а Р. Барадулін жа — паэт сапраўдны, з талентам — Богам дадзеным.

Выступаў сам Рыгор Іванавіч. Пранікнёныя словы гаварыў яго малодшы калега па пяры і сябра С. Законнікаў. І, канечне ж, душой вечарыны стала Г. Дзягілева, а падобныя вечары ў Нацыянальнай бібліятэцы і ладзяцца па ініцыятыве Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч", які набыў жыццё дзякуючы ёй.

Ва ўтульнай зале гаспадарыла паэзія Р. Барадуліна. Ды не толькі... Знайшлося месца і паэзіі неўміручага Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, які, дзякуючы Рыгору Іванавічу, загаварыў па-беларуску. І зусім не лішнімі былі вершы М. Багдановіча. Творы гэтых волатаў двух — рускай і беларускай — літаратур сталі старонкамі монаспектакля "Ціха на небе, зямлі і на сэрцы".

Ціха было і ў зале. Але цішыня раз-пораз перарывалася воплескамі, што сведчылі: сапраўдную паэзію ў нас любяць і ўмеюць цаніць.

А. М.

## НАДЗЕЯ НА МАЛАДЫХ

Секцыя крытыкі Саюза пісьменнікаў прысвяціла сваё пасяджэнне маладым. Старшыня секцыі М. Мушынскі ва ўступным слове адзначыў, што мяняецца грамадскі клімат і сістэма каштоўнасцей, з-за чаго замаўчалі многія са старэйшых даследчыкаў, што стан сучаснай літаратурнай крытыкі нікога сёння не задавальняе.

А. Бяляцкі зрабіў агляд крытычнай прадукцыі года, пры гэтым прагучалі імёны Галіны Тычкі, Вольгі Шынкарэнкі, Ганны Кісліцынай, Алеся Бельскага, Міколы Мікуліча, Людмілы Корань, Юрася Залоскі, былі адзначаны моцныя і слабыя бакі іх артыкулаў, рэцэнзій, эсэ.

Л. Корань дапоўніла гэты спіс іншымі імёнамі. "Не хочаце быць правінцыйнымі — не будзьце імі", — гаварыла яна, заклікаючы да патрабавальнасці і адэкватнай самаацэнкі. У цэнтры ўвагі крытыка павінен быць літаратурны тэкст, а не метад даследавання яго.

З. Санюк лічыць, што супроцьстаянне "старой" крытыцы — з'ява непазбежная. "Маладая крытыка шакіруе, як і маладое мастацтва", — падкрэсліў ён, маючы, мабыць, на ўвазе ананімных рэцэнзентаў "Нашай Нівы".

У. Конан станоўча паставіўся да часопіса "Першацвет" і да існавання ў ім аддзела крытычнай думкі. Выказаліся і супрацоўніцы часопіса Ірына Шаўлякова і Юля Алесніна.

Неактыўнасць, абыякавасць сталых майстроў крытычнага цэха заўважны былі і па тым, колькі іх прыйшло на пасяджэнне. Пагодзімся з М. Мушынскім: надзея сапраўды толькі на маладзейшых.

НАШ КАР.

## ЗАВЯРШЫЎ ГОД

часопіс "Тэатральная Беларусь". У шостым нумары друкуюцца п'есы І. Сідарука "Збавіцель", Г. Багданавай "Рамантычнае падарожжа на той свет", публіцыстычны роздум Я. Міклашэўскага "Элітарнасць і масавасць".

А. Сабалеўскі дзеліцца ўражаннямі ад Міжнароднага фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы" ("Зноў у Гомелі фестываль"). А. Новікава ("Хочаш быць шчаслівым — будзь") знаёміць са справамі рэжысёраў полацкіх народных тэатраў "Гармонія" і "Пілігрым". Л. Маленка ("Гартаючы жыцця старонкі") расказвае пра народнага мастака Беларусі П. Масленнікава.

Змешчаны артыкулы А. Жураўскага "Мова ў гістарычнай драматургіі", У. Няфёда "Уладзімір Карпаў — тэатральны крытык", успаміны пра яго Я. Рамановіча; нарыс М. Берната "Мацей Радзівіл", рэпартаж Я. Адамовіча з другіх мінскіх каляд "Ой, калядачкі — бліны, ладачкі", рэцэнзія А. Марціновіча на кнігу П. Васючэнкі "Драматургічная спадчына Янкі Купалы".

Крытыка

# ПОГЛЯД З ПРАВІНЦЫІ, альбо НЕВЯСЁЛЫЯ НАТАТКІ ПАСЛЯ ЮБІЛЕЮ

## "БЯРОЗКА" ВАЧАМІ НАСТАЎНІЦЫ

"Жанчына як крытык не больш чым белетрыст. У іх ад прыроды не крытычная логіка, яна ў іх мацярынская, а значыць, суб'ектыўная", — так выказаўся аднойчы на старонках "ЛіМа" Леанід Галубовіч. Узброіўшыся гэтым выказваннем, я села за пісьмовы стол. А перцым штуршком да разважанняў над старонкамі часопіса "Бярозка" з'явілася ўпартае нежаданне маіх вучняў у мінулым годзе падпісвацца на гэтае выданне. Заўважце: не бацькоў па меркантыльных прычынах, а тых самых падлеткаў, для якіх часопіс прызначаны. Аргумент быў адзіны і катэгарычны: нецікава. З трох шостых класаў знайшлося толькі двое падпісчыкаў. Іх я настойліва прасіла прыносіць у клас кожны свежы нумар "Бярозкі" і, хаця ніхто мяне на гэта не ўпаўнаважваў, абараняла, рэкламавала і прапагандавала знаёмы мне з дзяцінства часопіс як магла. Думаю, гэтым я зарабіла права на суб'ектыўныя, можа, але бясспрэчна мацярынскія заўвагі з нагоды пэўных матэрыялаў, надрукаваных у "Бярозцы" на працягу паўтара-двух апошніх год.

Хаця што такое ўвогуле аб'ектыўнасць у крытыцы? У сэнсе філасофскім крытыка заўсёды суб'ектыўная: колькі людзей, столькі і густаў. Аб'ектыўнасць тут хутчэй катэгорыя этычная. Яна патрабуе ад рэцэнзента індыферэнтных адносін да асобы творцы ва ўсім ахопе яе чалавечых праяў, поўнай адсутнасці кан'юнктурных меркаванняў і гэткай жа поўнай абгрунтаванасці ацэнак.

Усе, хто мае дачыненне да фарміравання асобы дзіцяці сродкамі мастацкага слова, павінны ясна ўсведамляць, што яны працуюць на будучыню і нават у нейкай ступені на вечнасць. А самая першая прыступачка да гэтага — фарміраванне добрага чытацкага густу. Бясспрэчна, што перш за ўсё гэтаму спрыяе чытанне класічных твораў. І "Бярозка" аддае належную ўвагу творам класікаў, пераважна паэтычным: Паўлюк Трус, Якуб Колас, Уладзімір Караткевіч... Хаця, падбіраючы класічныя творы, асабліва для рубрыкі "Вучым на памяць", пажадана выбіраць вершы больш простыя, хрэстаматыйныя ў лепшым сэнсе слова, што выяўляюць асобу мастака, яго ўнутраны свет. Так, я ніколькі не сумняваюся ў мастацкіх вартасцях верша У. Караткевіча "Бахайская чарапаха", аднак цвёрда ўпэўнена, што ён павінен чытацца, як кажуць, у іншым месцы і ў іншы час, а інакш ён можа, наадварот, адштурхнуць падлетка ад караткевічаўскай паэзіі. І паколькі ўжо гутарка ідзе пра паэзію, яшчэ адно пажаданне рэдактарам: будзьце больш патрабавальнымі да вершаў, дасылаемых юнымі аўтарамі. Безумоўна, іх цяпер нямнога, бо час не для паэтаў, але няхай і нешматлікія абраннікі музы разумеюць, што паэзія — не толькі зарыфмаваныя радкі і рытмічная мова.

Вельмі шырока знаёміць свайго чытача "Бярозка" і з творамі замежных класікаў, пераважна празаікаў. Сярод іх імёны самыя розныя: ад братоў Грым да Артура Конан Дойла і Рэя Брэдберы. І гэта добрая адзнака часу, таго, што рухнула жалезная заслона і ў літаратуры. Гэтыя творы пашыраюць кругагляд падлеткаў, даюць уяўленне аб тым, што беларуская літаратура развіваецца не адасоблена ад іншых, а ў сусветным рэчышчы. Сярод твораў замежных класікаў шмат прыгодніцкіх і дэтэктыўных апавяданняў, але, думаецца, не варта лічыць гэта звужэннем жанравых рамак выдання. Па-першае, дзяцей і падлеткаў цікавяць творы прыгодніцка-дэтэктыўныя, па-другое, я, як і незабыўны Караткевіч, "апошнія лічу карыснымі, бо яны ўбіваюць людзям, асабліва маладым, параграфы кодэксу ў даступнай і займальнай форме. А гэта істотна: марожанае ў шакаладзе мы ямо куды ахвотней, чым калі б яно было загорнута, да прыкладу, у салому".

Чытаючы апавяданне Ярослава Гашака "Бацькі і дзеці", міжволі згадваеш, што сфера гумару і дасціпнасці — істотная сфера чалавечай творчасці. Само паняцце "дасціпнасць" (остроумие) мае на ўвазе перш за ўсё высокі інтэлектуальны ўзровень. Дасціпнымі не нараджаюцца, імі становяцца. Пры гэтым трэба многа чытаць, аналізаваць, параўноўваць. Той, хто здольны да гэтага, не ўспрымае "чорнага гумару", які робіць душы слепаглухімі, калі дзеці губляюць імунітэт да цынізму і качаюцца ад смеху там, дзе варта плакаць. Што гэтаму супрацьпаставіць? Толькі добрую літаратуру і жыццесцвярджальны гумар. Хочацца спадзявацца, што "Бярозка" задаволіць дзіцячую патрэбу ў ім надалей больш поўна, чым назіралася дагэтуль.

Дзяцей і падлеткаў цікавяць і рамантычныя творы, творы са шматгранным адлюстраваннем жыцця. Таму яны з задавальненнем прачытаюць як "Першае каханне" Брэдберы, так і "Каменьчык бурштыну" У. Сцяпана, і "Тры лілеі..." У. Сіўчыкава. Унутраны свет аднагодкаў, першае пачуццё, якое не спраўдзілася, а таму, менавіта, і памяць аб ім засталася — асноўныя матывы гэтых апавяданняў. Маладыя аўтары "Бярозкі", пэўна, яшчэ самі добра памятаюць уласную падлеткавую цягу да не заўсёды бяспечных забаў, аб якіх яны перакануча і шчыра расказваюць (У. Сцяпан — "А", С. Шкадзінскі — "Як я быў шпіёнам", М. Клімковіч — "Забаўкі").

Цікавым ва ўсіх адносінах стаў нумар, прысвечаны Дацкаму каралеўству і таму, хто яго перш за ўсё ў дзіцячых вачах праславіў — Хансу Крысціяну Андэрсену. Гэта доўгае і радаснае падарожжа ў краіну Казкі, у краіну вялікага казачніка. Уласна "Снежная каралева", пераказаная Максімам Лукісам па-беларуску, крышку паўнейшы за звыклы для чытачоў варыянт; асабістая версія казкі Вольгі Колас, юнай аўтаркі; нарэшце, "Снежная каралева. Гісторыя апошняя" Алеся Дуброўскага і ягоны ж верш "Кай". А Алесь Астраўцоў прапануе зрабіць падарожжа на радзіму Кая і Герды, у "Горад зялёных дахаў".

Аднак ёсць мясціны, у якія наўрад ці захочацца трапляць юнаму чытачу пасля "экскурсіі" на старонках "Бярозкі". Наўрад ці будзе марыць ён аб узбярэжжы, дзе адзін пісьменнік "убачыў матрацы. Яны сушыліся на плоце і здалёк нагадвалі дзяржаўныя штандары розных краін... Падышоўшы, зглядзеў на матрацах вялізныя бурштынавыя плямы ад сікуноў... Падумалася, а ці не прапанаваць крымчукоўскай рэспубліцы (вядома, калі дазволіць прэзідэнт Украіны Краўчук) узяць за ўзор свайго сцяга абсіканы матрац колеру марской хвалі з малаком" (1993 г., N 10).

Прачытаўшы, падумала: што дадуць розуму і сэрцу чалавека, асоба якога толькі фарміруецца, такія "дарожныя" нататкі? Узбагацяць інтэлектуальна? Ці, можа, духоўна? Ну, ці хаця б зробяць больш абазнаным у геральдыцы? "Крымчукі", — сцвярджае аўтар, — абяруць за свой сімвал бляшаны труп чайкі..." Праўда, адразу ж спахопліваецца: "Не... Сам разумею недарэчнасць прапановы".

Але справа зроблена, і напісанае, як кажуць, застаецца. А кажуць яшчэ і так: ідучы да свайго, не тапчы чужога. Гэтая думка не пакідае і тады, калі чытаеш "кароткую, не зусім вясёлую аповесць пра піянерскі лагер" таго ж аўтара з жахлівай назвай "Архіпелаг Артэк", якая дапаўняе карціну крымскіх уражанняў. Аблічча ворага яскрава паўстае з разважанняў героя аповесці, але ён змагаецца з гэтым ворагам сродкамі, нічым за варожыя не лепшымі. А ці дастойна гэта чалавека, які, здавалася б, моцна сябе паважае і высока нясе ўласную годнасць?

Увогуле, застаецца толькі пашкадаваць героя твораў Адама Глобуса (менавіта аб іх зараз гаворка) за тое, што яму яўна не пашанцавала ў дзяцінстве на сяброў, на настаўнікаў, што яму недадалі ўвагі і дабрыні. Гэта выразна адчувае педагог са стажам і маці, ваша пакорная служка, а падлетак наўрад ці зразумее гэтую глыбока схаваную прычыну і возьме на ўзбраенне тое, што ляжыць на паверхні: "старажытнарымскую ўрачыстасць і злоснасць", кажучы словамі аўтара, а калі працей, то ўвогуле злосць і жорсткасць...

Няхай не створыцца ўражанне, што я адчуваю насталЬгію па часах усеагульнага крывадушша: замест вульгарнага інтэрнацыяналізму мы павінны выхоўваць у моладзі перш за ўсё **здаровае** пачуццё нацыянальнай свядомасці, а тое, што адчуваеш, прачытаўшы "Архіпелаг..." можна мякка назваць хваравітым.

Многія мастацка-публіцыстычныя матэрыялы ў "Бярозцы" стандартна падыходзяць да тэм і сюжэтаў, у іх адчуваецца няшчырасць, спекуляванне так званай гучнай тэмай, якой на

З забыцця

# ПРЫ СВЯТЛЕ СУМЛЕННЯ

## ДА 140-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Мікалая МІНСКАГА



Часта той, хто асабліва імкліва робіцца ўлюбёнцам славы, зведвае вострае пачуццё забыцця. Так здарылася з маладым пецярбургскім адвакатам, нядаўнім залатым медалістам адной з мінскіх гімназій Мікалаем Віленкіным, які з патрыятычных пачуццяў да родных мясцін узяў псеўданім "Мінскі". Быў час, калі ўся Расія зачытвалася яго радкамі: "Сны мимолетные, сны беззаботные снятся лишь раз..." Іх перапісвалі ў альбомы, дэкламавалі на балях. Цэнзура забараніла яго першы зборнік "Стихотворения", а І. Рэпін, прачытаўшы ў нелегальнай газеце "Народная воля" паэму М. Мінскага "Апошняя споведзь", напісаў на яе сюжэт палатно "Адмова ад споведзі напярэдадні пакарання смерцю", якое літаральна адразу стала знакамітым. Другі класік, І. Ганчароў, прыйшоў у надзвычайнае хваляванне ад паэмы Мінскага "Сон славяніна", хуценька надрукаваў яе ў "Вестнику Европы", пасля гэтага паэт стаў пастаянным аўтарам часопіса.

З ім сутыкаліся ў спрэчках В. Іваноў і У. Салаўёў. Аб яго паэзіі пісаў выдатны літаратуразнаўца С. Венгераў. Сам Аляксандр Блок ставіў лепшыя творы М. Мінскага побач з вершамі Д. Мережкоўскага, К. Фафанава, З. Гіпіус. Хаця, будзем шчырымі, не абыходзілася тут і без сур'ёзных папрокаў у другаснасці, у спробе выказвацца "някрасаўскай мовай без някрасаўскай моцы", і з'едлівых намёкаў наконт прысутнасці ў мове паэта "няўлоўна нярускіх выказванняў".

Паэта крытыкаваў Г. Пляханаў, не мог дараваць яму непрацяглага супрацоўніцтва з Леніным, калі, захапіўшыся ідэяй рэвалюцыі, паэт здолеў атрымаць у 1905 годзе дазвол на выданне (сумесна з М. Андрэевай) газеты "Новая жизнь", што стала першай легальнай газетай бальшавікоў. Менавіта тут былі ўпершыню надрукаваны ленінскі артыкул "Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура", "Нататкі аб мяшчанстве" М. Горкага, праграма сацыял-дэмакратаў. Сам рэдактар змясціў у газеце свой славуты "Гімн рабочых":

**Пролетарии всех стран, соединяйтесь!**
**Наша сила, наша воля, наша власть.**
**В бой последний, как на праздник, собирайтесь,**
**Кто не с нами, тот наш враг, тот должен пасть.**

Пазней амаль кожны радок гэтага верша, не гаворачы ўжо пра першы, стаў куды больш вядомы, чым яго аўтар.

Але самому М. Мінскаму рэдактарства прынесла адны непрыемнасці. Спроба прымірыць "містычную ісціну" з дактрынамі сацыял-дэмакратыі скончылася арыштам і прыцягненнем да суда. З вялікай цяжкасцю паэт здолеў уцячы за мяжу. Так Мікалай Віленкін трапіў у Парыж.

А да гэтага было захапленне паэзіяй "народнай жальбы", якое перарасло ў тэму "хворага пакалення", раздвоенага паміж прагай барацьбы і няўпэўненасцю ў сабе:

**Нет двух путей добра и зла:**
**Есть два пути добра.**

**Меня свобода привела**
**К распутью в час утра.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Проклятье в том, что не дано**
**Единого пути.**
**Блаженство в том, что все равно,**
**Каким путем идти.**

Пазней, у сярэдзіне 80-х гадоў, у светапоглядзе М. Мінскага адбыўся пералом. Ягоны артыкул "Старажытная спрэчка", які надрукавала кіеўская газета "Заря", з'явіўся першай у рускай літаратуры дэкларацыяй дэкадэнцкай паэзіі. Аўтара хвалявалі ўжо не грамадзянскія рэфлексіі, а "містычныя перажыванні": "Я цепи старые свергаю, молитвы новые пою..."

Пошукі філасофскіх высноў быцця, падмацаваныя захапленнем творчасцю П. Верлена, Ш. Бадлера, Ф. Ніцшэ і А. Шапэнгаўэра, прывялі паэта да напісання ягонай найбольш значнай рэчы — філасофскага трактата "Пры святле сумлення", у якім асновай усяго існага дэкларуецца "абсалютны нябыт" (Мэон), а

сёння з'яўляецца тэма нацыянальная. Хацелася б, каб яна больш выяўлялася ў самабытнасці саміх твораў, а не ў даволі ўжо збрыдлым ківанні на ўсход. Інакш мы не выхаваем сапраўднага грамадзяніна Беларусі, а проста адбудзем чарговую кампанію па выхаванні нацыянальнай самасвядомасці, прычым праведзеную ў лепшых традыцыях праклінаемага намі ж часу: у лоб і кавалерыйскім наскокам.

Па вышэйзгаданых меркаваннях я раіла б сваім выхаванцам адправіцца ў падарожжа ў Нясвіж перш з Алесем Астраўцовым, але пакуль што не з Міраславам Шайбаком; у Вільню — з Сяргеем Дубаўцом ці Максімам Клімковічам, але пакуль што не з Антонам Бакіноўскім. Калі будуць мець час — няхай паблукаюць з Уладзімірам Сіўчыкавым па Менску, але пакуль што ўстрымаюцца ад падарожжа з ім у Жодзіна ці Барысаў. Бо творы для дзяцей павінны быць не толькі высокамастацкімі, але — і дзіцячымі. Пераломны час — не самы спрыяльны для фарміравання юных душ. Давайце спачатку вызначымся самі, не абвальваючы на іх горы смецця і друзу, праблем і супярэчнасцей. "Галоўнае — каб усё тое неяк не зачапіла дзяцей, не апаліла іх бязлітасным сваім крыллем, абышло міма. Пасля, канешне, будзе ўсё, але як падрастуць, хай. А цяпер каб як уберагчы ад благога іх дзецкасць, іх слабыя, недарослыя душы", — шчыра малюся разам са Сцепанідай Багацькай, адчайна клічучы на дапамогу аўтарытэт Быкава... і ўцякаю ў казкі.

Дзякуй богу, стваральнікі "Бярозкі" яшчэ не забыліся пра іх. Казкі, што расказваюць сваім дзеткам матулі з многіх краін свету, загучалі са старонак часопіса па-беларуску, як, напрыклад, дацкая казка "Імя значыць шмат". Дарэчы, і саму мову нашу сярод іншых уславіла казка К. Дуж-Душэўскага "Мова", прычым не "ў лоб", а па-народнаму мудра і стала.

У казках В. Тарасава "Кропелька", А. Паскробышава "Услед за буслámі", У. Цішурава "Вядзьмарка" чытач знойдзе тое, што, канешне ж, магло адбыцца на нашай любай зямлі. Гэта ўдалая, але не адзіная спроба аўтарскага калектыву далучыць маладое пакаленне да першавытокаў. Хочацца адзначыць каштоўнасць такіх матэрыялаў, як гімн — цяжка знайсці больш дакладнае слова — дружнаму святу сялянскай працы (Т. Валодзіна, "Без талакі — як без рукі"). Застаецца выказаць надзею, што шэраг публікацый аб звычаях, абрадах і святах беларусаў будзе мець працяг. Для "Бярозкі" пішуць нямногія аўтары. Хочацца даць ім некалькі сяброўскіх парад: найдаўжэй не губляйце здольнасці глядзець на свет дзіцячымі вачыма; часцей успамінайце светлыя часіны свайго маленства; працягвайце адкрываць чытачу свет, такі вялікі, цікавы і шматфарбны. Але абавязкова пакіньце Таямніцу, прыгожую і загадкавую. Без яе жыццё становіцца шэрым і аднастайным.

**Алена БАРАДЗІНА**

*г. Баранавічы*

**АД РЭДАКЦЫІ. Аддаючы належнае педагагічнаму таленту нашай даўняй аўтаркі, далікатнасці яе тону, мы ўсё ж не разумеем, як можна было "не заўважыць" архаікі правапісу (якая мо здаецца некаму вялікай навацыяй). Ці не тут адна з прычын таго "ўпартага нежадання", пра якое піша А. Барадзіна?**

Віншуем!

# Міколу АЎРАМЧЫКУ — 75

***Заўтра спаўняецца 75 гадоў вядомаму паэту, чалавеку шчырай душы і багатага сэрца Міколу Аўрамчыку. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ён з тых, хто, перажыўшы неймаверныя пакуты, трапіўшы ў палон, не растраціў дабрыні, шчодрасці, душэўнага характва. З днём нараджэння, дарагі Мікола Якаўлевіч! Няхай Вам і надалей хораша жывецца і плённа працуецца!***

# ШЧЫРА І ДАВЕРЛІВА

Часта чуў напеўны, шчыры голас Міколы Аўрамчыка ў студэнцкай аўдыторыі, яго лірычныя вершы, яго расказ пра свае жыццёвыя сцежкі. Сустрэча з ім — гэта заўсёды радасць, гэта заўсёды прыемныя хвіліны. Сціплы, душэўны, добры, абавязковы...

Прыгадваецца такое. Доўгі час Мікола Аўрамчык працаваў рэдактарам аддзела часопіса "Маладосць". Зрэдку я прыносіў яму свае вершы. Ён уважліва чытаў іх, па-сяброўску рабіў свае заўвагі, пасля даставаў з шуфлядкі стала блакнот, ставіў нумар, запісваў маё прозвішча.

— Твае вершы, — казаў ён, — пойдуць тады і тады, у такім та нумары "Маладосці". Як кажуць, па чарзе...

І заўсёды яно так і было. У вызначаны час вершы з'яўляліся ў часопісе.

...Мікалай Якаўлевіч Аўрамчык нарадзіўся 14 студзеня 1920 года ў вёсцы Плёсы на Бабруйшчыне. У 1939 годзе паступіў на філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, адначасова працаваў у рэдакцыі газеты "Піянер Беларусі". Педінстытут Міколу Аўрамчыку скончыць не давялося — пачалася вайна. "Уначы 26 чэрвеня, — піша паэт у сваёй аўтабіяграфіі, — з Міколам Сурначовым мы пакінулі ахоплены полымем Мінск, а назаўтра ў высокай збажыне ўзбоч Бабруйскай шашы хаваліся ад фашысцкіх сцярвятнікаў, якія бамбілі і расстрэльвалі з кулямётаў грамадзянскае насельніцтва".

Мікола Аўрамчык дабраўся да Мсціслаўя, дзе ён трапіў у запасны полк і стаў салдатам Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у баях на Паўночна-Заходнім і Волхаўскім франтах. Аднойчы летам 1942 года, пры акружэнні, ён трапіў у фашысцкі палон і быў вывезены ў Рур, на каменнавугальныя шахты. Там ён перанёс катаржную, нявольніцкую працу ў падземных штольнях, якую рэдка хто вытрымліваў.

Потым у вершы "Сустрэча былых канагонаў" Мікола Аўрамчык напіша:

**Паўзмрочная капальня**
**ў дымным Руры,**
**І ў ёй не я, а сноўдае штодзень**
**Шкілет, які яшчэ**
**абцягнут скурай,**
**Ды на сцяне —**
**чужы сутулы цень.**

Пасля вайны Мікола Аўрамчык працаваў на аднаўленні Данбаса, потым скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у рэдакцыях газет "Чырвоная змена", "Літаратура і мастацтва", у часопісе "Полымя" і, як ужо адзначалася, у часопісе "Маладосць".

Ён даваў дарогу ў жыццё паэзіі Уладзіслава Нядзведскага і Генадзя Кляўко, Івана Калесніка і Хведара Чэрні, Кастуся Цвіркі і Янкі Сіпакова, Казіміра Камейшы і Віктара Гардзея і многіх, многіх іншых паэтаў старэйшага і маладзейшага пакаленняў.

Шырокае прызнанне ў чытачоў заваявала паэзія М. Аўрамчыка. У розныя гады ён выдаў зборнікі лірыкі. Сярод іх — "Пярэдні край", "Шляхамі дружбы", "Ключы жураўліныя", "Сустрэча былых канагонаў", "Універсітэцкі гарадок", "Агледзіны", "Як на далоні", "Дрэва дружбы", "Радовішча", "Выбранае" і іншыя.

Творам Міколы Аўрамчыка характэрны высокая мастацкасць, шчырасць, лірызм. Ён па-майстэрску шліфуе кожны радок, імкнецца да вобразнага ўспрымання наваколля. Самыя светлыя, самыя дарагія словы прысвячае ён роднаму краю, любым сэрцу мясцінам. Так, у вершы "Плёсы" ён піша:

**Плёсы!..**
**І адразу ўявіш завадзі...**
**Праўда,**
**каб не кінуў ты дакор,**
**Мушу я агаварыцца загадзя:**
**Тут няма ні рэчак, ні азёр.**

**Мо таму нявопытнаму воку**
**І не спадабаўся гэты край...**
**А якія месцы тут навокал**
**І жывуць якія людзі тут!**

**Самі за сябе гавораць зноўку**
**Назвы вёсак гэтае зямлі:**
**Красная Дуброва і Дубоўка,**
**Бортнікаў аж двое, Кавалі.**

Праўда жыцця, узаемаадносіны людзей, чалавечнасць і дабрыня — вось што хвалюе паэта, і да гэтых тэм ён часта звяртаецца ў сваёй творчасці. Пра гэта роздум у вершы "Радовішча".

**Якія ж багацці душы**
**захаваны**
**У сэрцы тваім, чалавек,**
**калі ты**
**Знаходзіш паклады ў марах,**
**акіянах,**
**У нетрах пустынь,**
**і ў пластах мерзлаты.**
**Шукаю я іх у цябе безупынку,**
**Шукаю старанна**
**і доўга падчас...**
**Душэўных пакладаў**
**знаходжу крупінку,**
**А ўтойваеш ты іх —**
**бязмежны запас.**

Незагойнай ранай у сэрцы паэта на ўсё жыццё засталіся гады ваеннага ліхалецця, франтавыя шляхі, салдацкія магілы сяброў, што спяць вечным сном пад абеліскамі і без абеліскаў, узбоч дарог і сцяжынак.

**Дзе сябры леглі, як снапы,**
**Так — абеліскі край дарогі,**
**Як на шляху да перамогі**
**Кіламетровыя слупы.**

Вершы Міколы Аўрамчыка — творы высокага грамадзянскага гучання. Ён услаўляе чалавека з вялікай літары, чалавека, у руках якога ўся планета, чалавека, ад якога залежыць усё добрае і дрэннае на зямлі. І заўсёды, у кожным зборніку — вершы пра родную Беларусь, пра сыноўнюю любоў да яе.

**Вось яны, прывольныя**
**прасторы**
**Роднае зямлі спакон вякоў!..**
**Паабапал аржаное мора**
**Ледзь не хлыне**
**на бальшак з бакоў.**

Міколу Якаўлевічу Аўрамчыку — 75 гадоў. Не ўжо, а яшчэ! Пажадаем жа яму добрага здароўя, выдатнага плёну на літаратурнай ніве. Няхай яго паэзія заўсёды будзе шчырай і даверлівай, няхай яго лірыка прыносіць радасць і прыгажосць. Няхай яго вершы гучаць у эфіры і ідуць ад сэрца да сэрца.

**Віктар ШЫМУК**

асновай існавання — любоў да сябе: "Я створаны так, што любіць павінен толькі сябе, але гэтую любоў да сябе я магу праявіць не інакш, як першынствуючы над блізкім сваім, — такім жа, як я, самалюбцам і прагнучым першынства..."

Гэта было свайго роду "Евангелле ад дэкадансу", якое вызначыла філасофска-этычную платформу новага літаратурнага накірунку...

У Парыжы М. Мінскі напісаў драматычную трылогію "Жалезныя прывіды", "Малая спакуса" і "Хаос" — аб уладзе рэчаў над чалавечай свядомасцю.

Вярнуўшыся ў 1913 годзе на кароткі час у Расію, паэт з пачатку першай сусветнай вайны служыў ваенным карэспандэнтам у Францыі. Кастрычніцкай рэвалюцыі М. Мінскі не прыняў, пераехаў жыць у Берлін, потым — у Лондан, урэшце пасяліўся ў Парыжы... Амаль не пісаў.

Аб жыцці М. Мінскага ў эміграцыі вядома мала. Паэт, па сведчанні І. Эрэнбурга, плённа садзейнічаў стварэнню на пачатку дваццатых гадоў у Берліне Дома мастацтваў, які сам і ўзначаліў. Там у кафэ, якое нагадвала Ноеў човен, збіраліся пісьменнікі.

Па трагічнай усмешцы лёсу, трапіўшы ў разрад эмігрантаў, М. Мінскі стаў ахвярай ідэй, якія абвяшчаліся ў некалі надрукаваным ім ленінскім артыкуле. Яго прозвішча, як і прозвішчы іншых пісьменнікаў-эмігрантаў, было выкраслена з гісторыі рускай літаратуры — ніводнага зборніка паэта ў савецкі час так і не пабачыла свету.

Забыты ўсімі паэт сышоў у нябыт 2 ліпеня 1937 года.

І хаця апошнім часам пра М. Мінскага ўсё часцей успамінаюць складальнікі розных анталогій, сучаснае прачытанне гэтага каларытнага паэта, здольнага перакладчыка і арыгінальнага філосафа яшчэ чакае свайго часу.

**Анатоль АЎРУЦІН**

# "БАЦЬКАЎШЧЫНА"! ЯК ШМАТ У ГЭТЫМ ГУКУ...

Трэці раз прыйшоў да чытача (найперш адрасуецца сярэдняму і старэйшаму школьнаму ўзросту) зборнік гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына", што выпускае выдавецтва "Юнацтва". Укладальнік і аўтар прадмовы — С. Панізнік. Менавіта дзякуючы Сяргею Сцяпанавічу, думаецца, акурат з гэтага выпуску "Бацькаўшчыны" і акрэсліўся яе твар. Калі папярэднія, якім таксама нельга адмовіць у цікавасці і пазнавальнасці, усё ж у нечым неслі і прынцып выпадковасці матэрыялаў, дык гэтым разам выразна бачыцца акрэсленасць пазіцыі ўкладальніка.

Сяргей Панізнік вырашыў "адштурхнуцца" ад юбілейных дат, што прыпадаюць акурат на 1994 год, якім пазначана выданне. Наконт гэтага складальнік на завяршэнне прадмовы "Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа..." кажа: "Гэты выпуск "Бацькаўшчыны" складзены так, што дае магчымасць зазірнуць у многія стагоддзі, — і зусім не для юбілейных ушанаванняў падзей, а каб лепш запомніліся яны ў суадносінах з нашым днём, каб мы лепш зразумелі нашых папярэднікаў, іх жыццё і подзвіг у імя Бацькаўшчыны". А трэцяя прычына, бадай, у дадзеным выпадку самая галоўная... "Бацькаўшчына" задумана як штогоднік (перапынак паміж другім і трэцім выпускам узнік з-за фінансавых цяжкасцей выдавецтва), а значыць з кожным годам чытачы будуць прыадкрываць усё новыя і новыя таямніцы нацыянальнай гісторыі. Безумоўна, непасрэдна праз мастацкія творы, як, дарэчы, і ў гэтым выпуску.

Споўнілася 1020 гадоў гораду Віцебску і, калі ласка, прапануецца ўрывак з нарыса У. Караткевіча "Віцебск — месца майстроў". А перад гэтым С. Панізнік расказвае, чым знакаміты горад на Заходняй Дзвіне, нагадвае найбольш важныя падзеі з ягонай гісторыі. Гэтаксама, нагадаўшы пра тое, што 950 гадоў назад пачаў княжыць у Полацку знакаміты Усяслаў Чарадзей, складальнік прапануе затым чытачам "Песню аб паходзе Ігара" ў перакладзе Я. Купалы.

Калі ласка, яшчэ колькі старонак з выбранага беларускай даўніны... 1044 годам пазначаны першыя звесткі пра Наваградак. Нічога не скажаш, мала на нашай зямлі гарадоў, якія б так шмат значылі ў гісторыі Бацькаўшчыны. І С. Панізнік імкнецца сказаць, у чым адметнасць яго. А далей — урывак з нарыса В. Адамчыка "І... назвалі яго Новагародак".

А гэта ўжо філосаф, паэт, прапаведнік, вялікі гуманіст старажытнасці Кірыла Тураўскі. 825 гадоў назад ён быў уведзены ў чын епіскапа на тураўскай кафедры, 810 гадоў назад памёр. "Літаратурная спадчына Кірылы Залатаслова, — сведчыць С. Панізнік, — мела вялікі ўклад у распрацоўку літаратурнае мовы ўсходнеславянскага свету, яго дзейнасць паўплывала на культурныя традыцыі Беларусі. Нездарма ўніклівы Максім Багдановіч зазначаў, што "беларускі народ, цалкам увайшоўшы ў Літоўскае гасударства, развіваўся, як і раней, на старым карані, вытвараючы такім парадкам культуру, незалежную ад культуры вялікарускай і з самага ж пачатку адражняўшуюся ад яе".

Тут жа ў перакладзе А. Мельнікава прадстаўлены "Слова святога Кірылы аб кніжным чытанні і навуцы" і "Кірылы манаха вельмі карыснае павучанне", а таксама напісаная невядомым на сённяшні дзень аўтарам "Памяць святога нашага бацькі Кірылы, епіскапа Тураўскага" і "Тураўская элегія" Я. Сіпакова.

680 гадоў назад (1314) адбылася яшчэ адна важная падзея — войска Давыда Гарадзенскага перамагло пад Наваградкам крыжакоў. Дастаткова пазнаёміцца з апавяданнем В. Іпатавай "Давыд Гарадзенскі", каб адчуць само дыханне тагачасных падзей і ўявіць сабе воблік аднаго са змаганцаў за свабоду і незалежнасць Бацькаўшчыны.

Гэтаксама не абыдзены ўвагай складальніка і такія бітвы, як 8 верасня 1514 года на рэчцы Крапіўнай, паміж Оршай і Дуброўнай (у сувязі з 480-годдзем яе апублікавана народная песня "Ой, у нядзельку параненька..."), і тая, што адбылася 430 гадоў назад над берагамі ракі Улы, калі воіны Вялікага княства Літоўскага на чале з Радзівілам Рудым 26 студзеня 1564 года перамаглі войска Івана Грознага (як нельга да месца тут эсэ У. Арлова "Пішу вам у Масковію", што мае падзагаловак "Грамата з магістрацкага архіва").

Гэтак працягваецца ў зборніку дарога праз стагоддзі — з мінуўшчыны яна набліжаецца да дня сённяшняга. Апошнія дзве падзеі, што прыцягнулі ўвагу С. Панізніка, — 55-годдзе ўз'яднання Беларусі і 50-годдзе вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. У першым выпадку апублікаваны вершы Я. Купалы "Нашай Ніве" (ён у свой час быў заходнебеларускім гімнам), Я. Коласа "Беларускаму люду", І. Дварчаніна "Брату — вучыцелю", В. Таўлая "Ці ж лёгка?", А. Мілюця "Брату", "Моладзі", М. Машары "Я — жабрак у родным краю" і ўрывак з яго рамана "Сонца за кратамі", П. Мядзёлкі "Пад гоман вясёлы...", успаміны Зоські Верас "Як выдаваўся зборнік М. Машары "Малюнкі". У другім — вершы А. Коршака "Ой, бедны народ мой!", П. Пранузы "За цябе, Беларусь" і "Граніца", згадка В. Быкава "Абзац біяграфіі" і яго апавяданне "На ўсходзе сонца".

Зборнік "Бацькаўшчына" выклікае немалую цікавасць чытача: хоць кніга і выйшла нядаўна, але ў многіх кнігарнях яе ўжо не знойдзеш.

**А. М.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ГАВОРЫМ ПРАВІЛЬНА, ПІШАМ ПРАВІЛЬНА...

**Пытанні правільнасці, дакладнасці, лагічнасці, чысціні, багацця, выразнасці роднай мовы (маўлення) як важнага сродку вуснай і пісьмовай камунікацыі паміж жыхарамі Беларусі разглядаюцца ў кнізе М. Абабуркі "Культура беларускай мовы", выпушчанай выдавецтвам "Вышэйшая школа". У гэтым выданні, разлічаным на самае шырокае кола чытачоў, аналізуюцца ўсе тыпы маўленчых памылак, якія магчымы як у вусным маўленні, так і ў пісьме, даюцца рэкамендацыі, як іх пазбегнуць.**

# КАБ НЕ СТРАЦІЦЬ СВАЮ МОВУ

**Важны крок у гэтым кірунку зроблены выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі: пад рэдакцыяй доктара філалагічных навук, прафесара А. Міхневіча тут выпушчана энцыклапедыя "Беларуская мова". Гэты даведнік змяшчае звесткі пра гісторыю беларускай мовы, яе пісьмовыя і друкаваныя помнікі, яе структуру, граматычны лад, паказвае сучасны стан мовы, расказвае пра айчынных і замежных даследчыкаў.**

**Як гаворыцца ў прадмове, напісанай А. Міхневічам, "энцыклапедыя беларускай мовы — першае выданне такога тыпу ў гісторыі нацыянальнай культуры. Яна створана вялікім калектывам навукоўцаў Беларусі — нашых сучаснікаў. Але кніга гэта не стала б явай, калі б не было эстафеты пакаленняў, што жывілі і аберагалі нашу мову, што некалі заклалі падмуркі і будавалі ў нялёгкай працы гмах нашага пісьменства, што на працягу стагоддзяў радок за радком запаўнялі старонкі летапісу беларускай філалагічнай навукі".**

**Далей падкрэсліваецца, што "энцыклапедыя беларускай мовы — частка энцыклапедыі беларусазнаўства, якая ствараецца і яшчэ будзе стварацца археолагамі і этнографамі, фалькларыстамі і гісторыкамі, літаратура- і мастацтвазнаўцамі".**

**Прэзентацыя энцыклапедыі "Беларуская мова" адбылася ў час чарговай выстаўкі "Беларуская кніга-94", якая штомесячна ладзіцца ў Доме кнігі ў Мінску. Пра гэтае унікальнае выданне гаварылі вядучы навуковы рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" Я. Саламевіч, А. Міхневіч, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі А. Падлужны, галоўны спецыяліст Прэзідыума Акадэміі навук В. Шчэрбін.**

# ХТО ЁСЦЬ ХТО Ў СВЕЦЕ

**З горада Нью-Правідэнс штата Нью-Джэрсі Злучаных Штатаў Амерыкі ў выдавецтва "Юнацтва" напярэдадні Новага года прыйшло пісьмо. У ім паведамляецца, што дырэктар выдавецтва, пісьменнік Валянцін Лукша ўключаны ў дванаццатае выданне біяграфічнага даведніка "Хто ёсць хто ў свеце". Вядомае амерыканскае выдавецтва "Маркіз", створанае ў 1899 годзе, працягвае знаёмства чытачоў з людзьмі, "чые дасягненні, пост ці дзейнасць уяўляюць цікавасць для шырокай аўдыторыі". Сярод уключаных у выданне ёсць кіраўнікі дзяржаў, дыпламаты, кіраўнікі міжнацыянальных карпарацый, лідэры розных прафесійных і навуковых аб'яднанняў...**

**У згаданым выданні адзначаецца шматгранная выдавецкая дзейнасць В. Лукшы, яго літаратурная творчасць, удзел у грамадскім жыцці як члена Прэзідыума нацыянальнай секцыі Міжнароднага Савета па дзіцячай і юнацкай літаратуры (ІБВІ — Ай-Бі-Бі-Уай, Масква), члена журы Міжнароднага літаратурнага конкурсу імя Я. Корчака (Варшава), віцэ-прэзідэнта Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў...**

**Гэтым выданнем карыстаюцца буйнейшыя бібліятэкі свету, інфармацыйныя агенцтвы, даследчыкі, чытачы.**

**М. ПАЎЛАЎ**

# БОЛЬШ ЗА 70 ТЫСЯЧ

**тэрмінаў уключае ў сябе "Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі", выпушчаны выдавецтвам "Ураджай". У тым ліку і тых, што тычацца флоры і фаўны. Што ж, зроблены яшчэ адзін крок для таго, каб усе мы нарэшце пачалі ўсведамляць сябе беларусамі.**

Паэзія

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



# І ЎСЁ ПАЎТОРЫЦЦА СПАЧАТКУ...

●

**На востраве душы маёй зіма.
На востраве душы маёй завея.
Нібыта ў ёй даўно мяне няма,
А толькі успаміны, як надзея.**

**На востраве душы маёй снягі,
Халодны лёд растання вечаровы,
Пустыя вочы і пустыя словы,
Не вернутыя некалі даўгі.**

**На востраве душы маёй плячо,
Што выглядае сцішана з-пад коўдры,
І тое шэравокае дзяўчо,
Што мне махнула з цягніка рукою.**

**На востраве душы маёй ліхтар,
Што свеціць праз туман і завіруху,
Якому я прыношу на алтар
Свае памкненні, адзіноту, скруху.**

●

**Дзе магілы маіх дзядоў
З даўняй вяззю незразумелай...
Горад мой, ты сівы і белы,
Ты сатканы з былых часоў.**

**Горад мой, павілясты брук
Тваіх вулак прысніцца раптам,
Я, здаецца, спазнаў характар
І суровых стагоддзяў рух.**

**Каб аднойчы за Палатой,
Там, дзе паляць купалляў кола,
Запаветнай крыві святой
У істоце падслухаць голас.**

**Не, не рысы і не мяжы,
І не гордасці местачковай, —
Продкаў полацкіх на крыжы,
Пылу шэрага на падковах.**

**Тут магілы маіх дзядоў
З даўняй вяззю незразумелай.
І ў скляпеннях былых гадоў
Маладое віно паспела.**

●

**Былі такія халады,
Ды нешта раптам адпусціла.
І зніклі першыя сляды,
Якія з шэрым снегам змыла.**

**І ўсё забылася нібы.
Ды зноў паўторыцца спачатку.
І век, хаваючы свінчатку,
Паглядам меціць нам ілбы.**

●

**Салёны вецер на губах маіх,
Салёны вецер.
Што лёс мой, браце, —
бы кароткі ўздых
Ва ўсім сусвеце.**

**Што дом мой, браце, калі зорак рой
Звініць напята.
І знікне ўсё, нібы за той гарой
Вястун крылаты.**

**Дык што так цяжка, што не спіцца мне
Пакутнай ночкай.
Чаму зноў месяц малады ў вакне
Тугу прарочыць?**

**Чаму так цягне да сваёй зямлі,
Дзе продкаў цені.
Якія, можа, як і я, былі
Адным імгненнем.**

●

**Шэры каменьчык у рукі бяру,
Цёплы і круглы, і лёгкі надзіва,
Бачу ў ім вечар і бачу зару,
Пыл на дарозе і шчодрую ніву.**

**Шэры каменьчык. Густы, як сусвет,
Ты на стале маім з даўняй вандроўкі.
Грукаюць вечнага часу падкоўкі,
Ты ж — як маленечкая з планет.**

**Шэры каменьчык. Самотны, як край,
Дзе парассыпана сейбітам даўнім
Родных братоў тваіх. Быццам гадамі
Нейкі чакалі ад іх ураджай.**

**Сіверны дожджык імжыць за вакном.
Шэры каменьчык душу саграває.
І выпадковым нішто не бывае
Ноччу халоднай ці пахмурным днём.**

●

**Забыты сшытак на вакне,
Дзе лёсу нечага скрыжалі,
Дзе літары, як на вакзале
Чакалі некага. Мяне?**

**Чытаю шчасце і тугу,
Страх, адзіноту і пяшчоту,
Хачу, падцягваючы ноту,
Прадоўжыць спеў. Ды не магу.**

**Бо песня тая не мая.
І на той ноце недапетай
Далёкая, нібы планета,
Якую не пабачу я.**

●

**Раскрыю яблыка сакрэт
У глыбіні сусвету:
Адзін маленечкі ранет —
Як цэлая планета.**

**І нешта дзіўнае ў людзей
Пабачу у паглядзе,
Калі зноў яблык упадзе
У вечаровым садзе.**

●

**Шукаю. Шукаю. Зноў іду шукаць.
Нібы з гульні далёкае дзяцінства
У хованкі. Нібыта трыадзінства,
Нібыта на жыцці маім пячаць.**

**І шанцаў меней, бо гады ідуць,
І ўжо трывога полымем шугае,
Што не паспею ўсё ж, і не знайду
Жаданых скарбаў. Ды іду. Шукаю.**



Проза

*Сыну ВІТАЎТУ*

Цемра наступала імклівa і пераможна.

Аскепкі сонечных промняў яшчэ слізгалі па наваколлі, але адарваныя ад самога сонца, якому ўжо надакучыла свяціць на гэтую зямлю і яно пайшло аглядаць іншыя землі, аскепкі не маглі даць рады з цемрай і паглыналіся ёй. Яны знікалі, а разам з імі знікала і прастора. Свет рабіўся цесны, сонны і лянівы. Жывёла сонна ўздыхала ды зрэдзь рыкала, мэкала, рохкала ў хлявах. Людзі, праверыўшы засовы на дзвярах хлявоў ды свірнаў, запіраліся па хатах.

Край з дзіўнаватаю назваю "Гадара" гатовы быў чарговы раз апусціцца ў сон цяжкі. Цяжкі — таму, што смурод, які тачыўся з кароўнікаў, аўчарняў, свінарнікаў, вісеў у паветры. Разам з пасмамі вечаровага туману ён ахутваў нізкія, а з надыходам цемры яшчэ больш паніжэлыя хаціны. Гадарынцы звыкліся з гэтай задухай. Яна не прыгнятала іх, не забірала сон, не змушала сярод ночы падхопліваццa з ложкаў і кідацца расчыняць вакно. Ды і навошта яго расчыняць, калі смуродная задуха плыве тады ў хату і займае ў ёй усе куты. Сярод ночы міжволі кінуцца да вакна мог хіба што які-небудзь выпадковы заезджы. Але іх тут было мала — усё з прычыны гнойнага смуроду. Таму гадарынцы зазвычай спалі спакойна.

Таго ж вечара яны былі злёгку ўзбуджаныя: здарылася непрыемнасць, можна нават сказаць, няшчасце, якое ўвойдзе ў гісторыю непрыкметнай дагэтуль Гадары. Але гадарынцы цяпер пра гэта не думалі, ды і якія там думкі — нанач. Толькі вось гадарынскім падшыванцам чамусьці ўсё не сядзіцца, нешта ім усё муляе...

* * *

Янка падкаціў тоўстую калоду да высокага сукаватага паркана, узабраўся на яе, учапіўся аберуч за сухія лазовыя кійкі і ўціснуў паміж імі замурзаны твар. Ён глядзеў туды, куды не так даўно схавалася сонца, быццам яшчэ спадзяваўся разгледзець штосьці там, на далягдзе, якога ўжо не было відно. Але воглая цемра рэзала вочы, і з іх неспадзеўна пацяклі дзве слязіны.

— А ты якой халеры там цікуеш? — матчын голас з расчыненых сяней. — Лепш вады прынёс бы, а то ўначы калі хто прымлее — кубка вады не будзе.

Янка шмаргануў па твары рукавом, быццам ягоныя слёзы мог нехта ўбачыць, саскочыў з калоды, выхапіў з матчыных рук вядро і пабег да сажалкі. Гадара мела сваю студню, але яна была далёка, да яе поначы не хадзіць, калі не хочаш успароцца на якую патырчаку. А сажалка — паблізу, адразу за хлявамі. Таму найчасцей бралі ваду з яе, хаця і яна ў спёку на вачах мялела, вычэрпвалася, высыхала.

Сажалка, ахутаная туманам, сустрэла Янку натужлівым жабіным крэканнем. Па патрэсканым глеі ён спусціўся да вады, баўтануў вядром, разганяючы жаб ды слізкую твань, зачэрпнуў і... застыў на месцы. На беразе, зусім побач — як толькі Янка не зачапіў яго — сядзеў чалавек. Янка ўжо гатовы быў даць дзеркача, але пачуў усхліпы — чалавек плакаў. А калі нехта плача — чым ён тады табе нашкодзіць? Янка наблізіўся і пазнаў пастушка Міцьку, таго самага Міцьку, якому сёння перапала — не дай свет.

— Што, баліць? — плёхнуўся Янка побач з Міцькам на вытаптаны хвошч.

— А ты як думаў?

— Я дык уцёк, не змог глядзець, як яны за цябе ўзяліся... Чым білі?

— Хто што меў пад рукой, — заенчыў Міцька. — Дубасілі, як Сідараву казу. А за што? За што? — Міцька сморкаўся, корчыўся і ціха екатаў ад болю і крыўды. — А дома яшчэ гэты... свінапас дадаў...

Раніцай яны з гэткім жа пастушком Гэнькам яшчэ былі свінапасамі. Увечары ж — пабітыя, пашкуматаныя — ужо не мелі ні свайго гурту, ні пугаў. Гурт утапіўся ў возеры, пугі пахадзілі па іхніх спінах, пакідаючы шрамы ды раздзіраючы кашулі. Цяпер Гэнькава маці недзе прыкладвае свайму сыну трыпутнік ды прымочкі, а беднаму Міцьку нават гэтага няма: маці, можа б, і пашкадавала, але Міцькаў айчым — галоўны гадарынскі свінапас — гэтак раз'юшыўся, гэтак шматануў Міцьку круга сябе, што той зачапіўся за вушак ды садраў з яго зёлкі, якія маці заўсёды развешвае ад чараў, злога вока, дрэннага языка ды ўсялякіх іншых ліхоццяў. Маці загаласіла, збіраючы зёлкі: "Авой, бяда ў хату лезе! Трэба ж — зёлкі зляцелі! Ну ж, пачнецца!" Айчым разгубіўся, апусціў рукі — гэта і адратавала Міцьку. Шыбануў з хаты гэтак жа, як удзень нясліся прэч ад Таго, Невядомага іхнія свінні. Ды ў адрозненне ад іх Міцька не бухну-

Ірына ЖАРНАСЕК

# ГАДАРА



АПАВЯДАННЕ

ўся з кручы ў возера і не пайшоў на дно, а сеў на беразе сажалкі і горка-горка заплакаў над сваёй доляй.

Янка ababег сажалку і пакуль шукаў у цемры лапушнік, добра абстрыкаўся крапівой. Ён прыкладваў шырокае лісце да Міцькавай спаласаванай спіны і таксама ціхенька плакаў.

* * *

Усё гэта здарылася днём гэтак хутка, гэтак незразумела хутка, што Янка не паспеў разабрацца, што ж такое здарылася. Дарослыя ўвесь вечар, парадкуючы скаціну, адно толькі і гаварылі пра тое, што адбылося. Пра вялікую страту Гадары — загублены цэлы гурт свіней. Пра Невядомага, якога хто ведае якім ветрам занесла ў Гадару і які нарабіў ім неверагоднае шкоды — патапіў іхніх свіней, па два альбо і па тры хвасты з хаты. Пра іхніх двух шалёных, якія два дні таму сарваліся зноў з ланцугоў, пакінулі іх пры скале і цяпер невядома дзе блукаюць. Праўда, цяпер яны ўжо не шалёныя, і можна ўжо іх не баяцца нават без ланцугоў, але хто яго ведае, хто ведае... І на ўсялякі выпадак кожная гаспадыня падчас захаду сонца курыла хату курыным памётам — ад шалу.

Янка тады сядзеў у едкім дыме і плакаў. Маці думала, што ён плача ад дыму, і нязлосна бурчэла:

— Во дзе шляхотнае стварэнне! І ў каго ты гэткі далікатны ўдаўся?

Маці змусіла ўсіх сваіх пяцярых дзяцей хадзіць вакол патэльні з курадымам і прыгаворваць: "Ляці, шал, на сухі лес, на балотныя вокны, на раку Дунай, плыві, шал, у далёкі край". Малыя смаркаліся, кашлялі, але слухмяна тупалі вакол маці і патэльні. Затым яна нахілілася і пакурыла свой жывот — шостае дзіця. Янка скарыстаў момант і вынырнуў з кола. За ягонай спінай Сонька-зласліўка прапішчэла: "А Янка ўцёк!", але ён паспеў ужо выскачыць на ганак, схапіць свежага паветра, ад якога ажно галава закружылася, і прыліпнуць да шчэлкі ў паркане. Цяпер там, за парканам, абгаворвалася самае цікавае. Гадара ўвогуле славілася сярод суседзяў тым, што ў ёй ніколі і нічога не адбывалася. І вось сёння... Сёння тут нешта адбылося. Янка пакуль яшчэ не мог ніяк уцяміць, што ж такое адбылося, але ягоная душа чула: штосьці важнае.

Каля весніц суседняе хаты стаялі кабеты, падпяразаныя хвартухамі, і гаманілі:

— І адкуль толькі Яго прынесла!..

— І чым мы правініліся, што Яго на нас прынесла?..

— Не было дуды — не было й бяды...

— Але ж толькі падумайце, бабы: якой-такой сілай Ён вылечыў нашых шалёных...

— Ага... вылечыў...

— І што за сіла ў Ім?

— Ану Яго з Ягонай сілай! Прагналі — і добра зрабілі. Свет вялікі — няхай сабе ідзе куды хоча.

— Кажуць, шмат каго Ён вылечыў — ад шалу, паралічу, ліхаманкі...

— Кажуць, нават уваск...

— Ану Яго! Жылі без Яго, пражывём і болей.

— А Тофціна дачка ўжо сем гадоў ляжыць, прыкутая да ложка...

— Казалі, гніць пачала...

— Дык а Сымон... Быў чалавек як чалавек, а цяпер ні з таго ні з сяго як зарагоча іншы раз — ажно мурашы па целе.

— Трэ да яго пільней прыглядзецца ды, можа... Ланцугі на скале яшчэ вісяць...

— Ай, бабы! Што вы, бабы! Рана яго на ланцугі! Ай-ёй-ёй... Што вы такое...

Гэта загаласіла Сымоніха і пабегла прэч. Кабеты прыціхлі. Янка адарваўся ад паркана, пабег на другі яго канец — там, пры камлі раструшчанага перуном колькі гадзін таму і зваленага на зямлю вячыстага дуба дымілі тоўстымі самакруткамі мужчыны:

— Моўчкі пайшоў...

— Ага, каб табе слова!

— А што Яму было казаць? Прагналі...

— Да-а-а...

— Не, ну дык жа і злосць бярэ. Як дзе дык Ён, бачыш, цуды там усялякія чыніць! А тут прыйшоў ды свіней патапіў — наце вам цуд!

— Ён жа не проста патапіў, а дэманаў выгнаў з нашых шалёных ды паслаў іх у свіней.

— Дык шалёных толькі двое, а свіней... о-го-го!..

— А дэманы, кажуць, крычэлі, што іх легіён.

— Легіён?! Во заразы... І адкуль толькі бяруцца? І як яны толькі гэтак плодзяцца?

— А калі падумаць, то чым яны нам і шкодзілі? Жылі на магільніку... Ну, крычэлі... вылі па начах... Але як напрацуешся, як заснеш, дык і не чутна... Няхай сабе якочуць. Ім — сваё, нам — сваё.

— Я таксама доўга не мог прывыкнуць: як завыюць — хоць ты сам услед за імі вый.

— Ага... Сымон ужо таксама пачынае завываць...

— Ды ну?.. Думаеш? Можа, яшчэ...

— Можа... Паглядзім...

— Але надта доўга прыглядацца нечага: ланцугі ёсць, калі што — каваль Піліп новых зробіць.

— Па ланцугах не бедаваць, ланцугоў хопіць... Да-а-а... Але ж Сымон... Хто б мог падумаць...

— А па мне, дык лепей ужо адразу: камень на шыю ды з кручы ў возера.

— Не, лепш за ўсё, вядома, дэманаў выганяць.

— Ага, выганіш. Можа, ты маеш гэткую сілу, як Ён?

Мужчыны засмяяліся. Аднекуль, з боку могілак пачулася напачатку нібы нясмелае, а потым усё мацнейшае і мацнейшае выццё. Людзі прыціхлі. Прыслухаліся. Выццё на момант прыпынілася, а потым узвілося з новай сілай — з пералівамі, усхліпамі, галашэннем, ляскатам.

— Ах жа ты!.. — высокі, жардзісты Карпа падхапіў з-пад ног камень і, віхляючыся ад ягонага цяжару, пабег у бок магільніка. Карпа нядаўна вярнуўся з хаўтураў па дзеду, быў п'яны і таму смелы.

— Добра яму там смаляні! — гукнуў наўздагон Карпу галоўны гадарынскі свінапас, набліжаючыся да мужчын. Ён толькі што выхадзіў свайго прыёмка Міцьку за тое, што той не ўпільнаваў свіней, заадно пераехаў пару разоў па жонцы, аперазаў лейцамі падчарку і цяпер, зрабіўшы ўсю справу, выціраў рукі аб штаны.

Мужчыны расступіліся, прапусцілі свінапаса на сярэдзіну. Свінапас быў быццам і не зусім гадарынскі, адно што яго свойчас прынесла ў прыполе гадарынка Марфа. Але як прынесла, так праз ноч і ўцякла з Гадары — каб не пабілі камянямі. І выйшла ўсё на добрае. Бо каб не ўцякла тады, то, вядомая рэч, каменавалі б і трупы ў балота ўкінулі б. А як уцякла, то выгадаваўся ейны бахур, на дуба вымахаў. Прыйшоў у Гадару, наняўся свіней пасвіць, ды так упадабалі яго гадарынцы, што неўзабаве абралі яго галоўным свінапасам: горла меў добрае, заганяе — будзь здароў. Цяпер жа ён быў галоўны і над свіннямі, і над каровамі, і над асламі, і над авечкамі. А як пойдзе на добрае, шэмрылі па кутах, то абяруць яго і гадарынскім старэйшынам, а што: нораў мае рашучы, рассусольваць надта не любіць, усё ў яго — раз-два і гатова.

— Добра ўсмалі яму там — адразу заткнецца, — паўтарыў свінапас.

— Ці дасць ён адзін рады... — засумняваўся хтосьці.

— А ты нашто? Ідзі ды памажы.

Ад натоўпу аддзяліўся чалавек і нехаця рушыў у бок магільніка.

— Ды не марудзь! Ну!

Чалавек пабег.

Моўчкі чакалі. Выццё спачатку пацішэла, потым разляцелася з новай сілай, потым рэзка сціхла, і праз момант у неба ўзвіўся кароткі адчайны лямант. І — усё. Цішыня.

— Няўжо забілі? — падаў хтосьці нерашучы голас.

— Не забілі, дык заўтра даб'ём, а заразу тут нечага разводзіць, — рашуча прамовіў свінапас.

— Так, лепей адразу.

— А можа, усё ж лепш пакуль ланцугамі... — гэта вымавіла Сымонава сястра, выціраючы хвартухом вочы. Увесь гэты час яна стаяла воддаль мужчын, слухала іх і вось насмелілася ўставіць слова.

Свінапас крутнуўся да яе, і яна шуснула за разгалістую крону дуба, што грувасцілася на зямлі чорнай хмарай.

— Дарадчыкі мне тут, сланова нага на вашы рэбры, — прабурчэў свінапас, але нязлосна, не трацячы дарма голасу.

— А можа, па Невядомага паслаць? Ён бы вылечыў Сымона, і дачку Тофціну вылечыў бы, і дзяцей Юркавых... З усіх бы нячыстую сілу павыганяў, — данёсся з-за дубовай кроны голас Сымонавай сястры. — Ён вылечыў бы, Ён — добры...

— Ах ты!.. Табе ж ужо сказана! — хтосьці з мужчын кінуўся на той бок дуба, але завалтузіўся ў галінах, а Сымонава сястра тым часам адбегла прэч.

Маўчалі. З магільніка больш не даносілася ніякіх гукаў; толькі надрыўна крычэла чаіца, штосьці прадвяшчаючы — добрае ці дрэннае, ніхто не ведаў.

— Надумалася, дурніца, — нязлосна, нават паблажліва зноў зачаў свінапас. — Яго паклікаць! А потым што, зусім без свіней застацца? Яго толькі ўпусці — усё свінства выведзе.

— Ага. Во дурная!

— Ай, што вы з бабы хочаце!

— Дык лепей з нячысцікамі, з пракажонымі жыць? — даляцеў аднекуль з-за кустоў жаночы голас.

— Дайце ёй перцу з імберцам, — раўнадушна і стомлена загадаў свінапас.

Двое мужчын рынуліся ў кусты, завалтузіліся там. Затым адзін гукнуў:

— Дык жа гэта не тая!

— А мне ўсё адно, — рагатнуў свінапас. — А вам што, не? — гукнуў да тых двух, што трашчэлі ў кустах суччам.

Ягоныя словы патанулі ў гучным мужчынскім рогаце. З жаночага гурту таксама данеслася хіхіканне. Жанчына ў кустах войкнула і змоўкла. Гадарынцы рагаталі доўга, выціраючы рукавамі слёзы.

Янка плакаў. Плакаў уголас, бо цяпер мог не баяцца, цяпер яго ніхто за гэтым дзікім рогатам не чуў. А чаго плакаў — сам не ведаў. Па кім ён плакаў: па Сымоне? Па той жанчыне? Па сабе? А можа... Па ім? Янка памятаў, як высіўся Ён над натоўпам, як маўчаў і адно паволі пераводзіў свой позірк з аднаго гадарынца на другога, трэцяга, чацвёртага... А яны... Не, тады яны не крычэлі. Яны прасілі Яго: ідзі ад нас, ідзі прэч, ідзі падалей. Ідзі... Ягоны запытальны, злёгку быццам здзіўлены позірк спыняўся на кожным з іх, і тады чалавек адказваў на Ягонае нямое пытанне: "Ідзі. Ідзі прэч". Позірк спыніўся недзе над Янкавай галавой, затрымаўся і... апусціўся ніжэй, да Янкавых вачэй. Янка ведаў: трэба казаць, як старэйшыя, як усе, але словы коркам захраслі ў горле — не прапіхнуць. А калі пракаўтнуў нарэшце той даўкі камяк — Ягоны позірк быў ужо на іншых, і тыя гудзелі, як шэршні: "Ідзі. Ідзі. Ідзі". "Не хачу", — прашаптаў Янка, але яго ніхто не пачуў. Ды ён і сам не ведаў, чаго ён не хоча.

Рогат пакрысе суцішыўся. Янка плакаў. Ён і не заўважыў, як тыя, пры зваленым перуном дубе, суцішыліся.

— Хто дзе скавыча? — запытаў свінапас.

Янка заціснуў даланёй рот і прыліп, зліўся з парканам.

— Спаць пара, — сказаў свінапас.

— Праўда, — згадзіўся хтосьці.

— А памятаеце, як Ягоны вучань, той, самы здаравіла, сказаў, што Настаўнік прынёс нам праўду?

— Які Настаўнік?

— Яны Яго Настаўнікам завуць. Ягоныя вучні, каторыя паўсюль швэндаюцца за Ім. Цэлых дванаццаць налічыў сёння.

— Дык што, што Ён нам прынёс?

— Праўду...

— А на якую яна нам халеру, Ягоная праўда? Што мы ёй, паснедаем ці павячэраем?

— Няхай плыве разам са сваёй праўдай.

— Свіней угробіў, а праўду ўзамен — нішто сабе гандаль!

— Пастушкоў шкада — моцна мы ўсё ж іх... Жывыя яны там, не ведаеце?

— А хто іх...

— Мой жывы быў, — плюнуў пад ногі свінапас. — Я яму дома яшчэ падсыпаў, дык цяпер не ведаю.

— А куды падзеліся тыя шалёныя, якіх Ён да розуму давёў?

— Ліха іх ведае. Нашто яны табе?

— Ды так...

— З Ім хацелі пайсці. У ногі Яму кінуліся...

— Дзіва што! Гэтак адмучыліся...

— А Ён сказаў...

— Ды якой халеры табе да таго, што Ён там сказаў? Ягонымі словамі сыты не будзеш.

— Кажуць, вельмі прыгожа гаворыць... Нечуванае, кажуць, гаворыць...

— Ну і няхай... А свіней нам зглотаў!

— Да-а-а, свіней не вернеш...

— Ну, не апошнія ж. У хлявах яшчэ рохкаюць.

— Хіба гэта свінні? Во тыя былі!..

— Усялякія і цяпер ёсць. Толькі пільнаваць трэба лепш, чымсьці дзяцей. А то надумаецца яшчэ вярнуцца... Ад Яго чаго хочаш чакай. І чаго блындаецца па свеце — не сядзіцца Яму!

— Да-а-а, свінства пільнаваць трэба.

— А што, няма каму? У нас вунь...

Усе паглядзелі на свінапаса і пачціва прыціхлі. А той абвясціў:

— Дапільнуем! Падпаскаў я памяняю, пугі ім новыя дам — ажно пішчэць у мяне будуць разам з свіннямі. А цяпер — спаць!

— Ага, пойдзем, — загаварыў хтосьці паспешліва з цемры. — Толькі дазволь, начальнік, мне яшчэ сказаць.

— Што там у цябе?

— Я вось думаю, начальнік... Баба гэтая, канечне, дурная, у ейнай галаве, як у тым пустым свірне, але во што я падумаў. А каб мы Яго паклікалі да сябе, прылабунілі — быццам бы адумаліся і быццам Ён ужо нам патрэбны зрабіўся, а потым... А потым схапілі ды — у цямніцу, ланцугамі — па руках і нагах. І — парадак.

— А нашто Ён нам, лішні рот? — запытаў хтосьці непаразумела.

— А вось як апанаваў бы каго нячысты дух, мы б тады Яго і вывелі — лячы! Калі на каго праказа, таксама — лячы! Чары якія — лячы!

— Ну а што... Хм...

— Мужыкі, а я чуў, што Ён недзе там ваду ў віноператварыў!

— Ды ну? Не маніш?

— Не сысці мне з гэтага месца!

— І што, нармальнае віно? Моцнае?

— Адзін мне казаў, які быў на тым вяселлі: нічога лепшага ніколі не піў.

— Ух ты-ы-ы!.. Га? Ну, ты падумай! Якая моц!

— А можа, не такі Ён ужо і благі... Можа, дарма мы Яго так... Прыцёрліся б, можа, зжыліся б...

— Лёгкага хлеба захацелася? — насмешлівы свінапасаў голас, у якім, аднак, была не толькі кпіна, але й пагроза.

Прыціхлі.

— Дык жа, бачыш, віно — з вады...

— Дармавое было б...

— Ах вы-ы-ы!.. Ах, якія ж вы-ы-ы!.. Што ж вы за-а-а...

— Ды мы ж нічога.

— Мы ж Яго не пакінулі.

— Мы ж прагналі...

— Віна ім дармавога захацелася! А калі Ён з вас вярблюдоў ці шакалаў зробіць, тады што?

— Ды не. Дрэннага, кажуць, Ён не робіць.

— Ужо што-што, а дрэннага... Не, не чувалася.

— І свіней вашых не Ён патапіў?

— Але ж і нячыстую сілу затое выгнаў...

— А хто Яго прасіў?! Ты? Ты? Ты? — торкаў свінапас пальцам мужчынам у грудзі. — Ці, можа, я? Хто? Яго нават тыя шалёныя не прасілі, бо не ведалі, што яны шалёныя. Дык што Яму было да нас? Чаго Ён прыйшоў да нас? У Яго злыя духі прасіліся: "Пакінь нас! Што

(Працяг на стар. 11)

## З МАГІКАНАЎ МАСТАЦТВА

"Вечар памяці вялікага артыста" — так гаварылі пра імпрэзу, што адбылася ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі з нагоды юбілею Сямёна Дрэчына. Яму, народнаму артысту Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі СССР, знанаму салісту ды балетмайстру, споўнілася б 80. Яму не давялося дажыць да гэтай урачыстасці... Падчас юбілейнай вечарыны (арганізаванай і пастаўленай творчым пераемнікам С. Дрэчына — мастацкім кіраўніком Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі В. Дудкевічам) не было, аднак, таго гнятлівага адчування, што звычайна спараджае атмасфера аналагічных "мемарыяльных мерапрыемстваў". Бо поўнілася атмасфера жывым духам творчага таленту. Сапраўднага і рознабаковага.

Дынамічна, ярка, без перапынкаў і затрымак, праходзіла вечарына. Стракатай чарадою прайшлі па сцэне пастаноўкі С. Дрэчына — гэтыя маляўнічыя, дасціпныя, драматычныя, жартоўныя, вострахарактарныя абразкі, што дасюль упрыгожваюць праграмы Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі, спектаклі Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі, канцэрты нашага харэаграфічнага вучылішча, рэпертуар салістаў Львоўскага балета... Пяшчотная, цнатлівая "Пералёлачка", эталонны "Крыжачок", экзатычны танец "Неферціці", пікантнае "Аргенцінскае танга", прыгожае "Купалле", хрэстаматыйная агністая "Лявоніха"...

А колькі добрага было сказана пра "Артыста ласкаю Божай", які трымаў сваю публіку ў палоне, выходзячы на сцэну ў балетных спектаклях! Вядучы вечара У. Шаліхін згадваў, прынамсі, дуэт С. Дрэчына ў "Бахчысарайскім фантане" са славутай госцяй Г. Уланавай. Народная артыстка Украіны Н. Слабадзян з Львова зрабіла кранальнае вершаванае ўшанаванне юбіляра. Намеснік старшыні Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі А. Міхальцова выйшла на сцэну з густоўным букетам, які вельмі хацела б падараваць гэтаму таленавітаму і шчодраму чалавеку, але... Але даводзілася гаварыць пра яго ўжо ў прошлым часе, і таму асабліва пранікнёна гучалі ўспаміны В. Дудкевіча пра свайго духоўнага настаўніка і асабліва пранізліва ўспрымаліся словы ўдзячнасці ўсім, выказаныя маленькай элегантнай жанчынай у чорным — Ліліяй Васільеўнай Дрэчынай.

Прастору сцэны нібыта вянчаў вялікі прыгожы партрэт чалавека з адкрытым тварам, з рамантычным, звернутым некуды ўвышыню, позіркам. Чалавека з таго, адыходзячага пакалення, чый росквіт у мастацтве прыпаў на 30—40-я гады і доўжыўся да нашых дзён — як рэдкасны ўзор творчага даўгалецця і адданага служэння сцэне.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## РАНІШНІЯ ГОСЦІ "БАТЛЕЙКІ"



Дзень адкрыцця сезона ў Мінскім абласным тэатры лялек "Батлейка" (Маладзечна) варта было б назваць "раніцай адкрыцця сезона". Бо ўжо ад самага ранку батлеечнікі сустракалі гасцей — калег з Мінскага абласнога драматычнага тэатра, работнікаў гарадскога аддзела культуры, супрацоўнікаў Беларускага тэлебачання. Але самымі пачэснымі і шматлікімі гасцямі былі, вядома, дзеці. Яны падзялялі думку Віні Пуха пра тое, што ў госці зручней прыходзіць раніцай. І не памыляліся. Бо кожнага з іх чакалі не толькі прыязнасць і ўсмешка гаспадароў, але і "райская асалода" — пакуначак "Баўнці" або іншы ласунак. У гэтым батлеечнікам паспрыялі фундатары — прадстаўнікі вытворча-камерцыйнай фірмы "Ясь" (дырэктар Тамара Мядзведзева).

Разам з лялечнікамі дзеці адправіліся на пошукі чароўнага каменя — у аднайменным спектаклі па п'есе Валянціна Лукшы. Разам з сабакам Лайкай, катом Буркотам і Лесавікамі змагаліся з Ліхой Варажбіткай...

Дабро перамагло і на гэты раз. Дабро і дабрачыннасць. Варта нагадаць, хто быў у ліку самых жаданых гасцей "Батлейкі": чарнобыльскія дзеткі з санаторыя-прафлакторыя "Плёсы" і маленькія сябры гарадскога таварыства інвалідаў дзяцінства "Надзея".

**П. В–а.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Чароўны камень".*

Спадчына

# ГОРДЫ СВАІМ ПАХОДЖАННЕМ ЛІТВІН...

Рыхтуючы буклет для манаграфічнага фестывалю, прысвечанага творчасці Міхала Клеафаса Агінскага (а той фестываль у хуткім часе наладзіць аб'яднанне "Беларуская Капэла"), мы з музычным рэдактарам Наталляй Собалевай звярнулі ўвагу на цікавую крыніцу — мемуары Агінскага, выдадзеныя ў 1870—1875 гг. у Познані. Са старонак гэтага рэдкага (але, канешне, вядомага спецыялістам-гісторыкам) друку глядзіць на нас не той кампазітар-меладыст ды лірык, чый твор не ведае роўных па сваёй папулярнасці, а перш за ўсё — грамадзянін, палітык ды грамадскі дзеяч. Мне падалося неабходным пазнаёміць чытачоў з некаторымі фрагментамі чатырохтомніка Агінскага, дзе аўтар недвухсэнсоўна акрэслівае сваё этнічнае паходжанне, самасвядомасць і стаўленне да падзей 1794 года.

"Паходзячы з ліцьвінскага роду, я нарадзіўся ў Польшчы, у вёсцы маіх бацькоў, у сямі мілях ад Варшавы". (Pamiętniki Michala Ogińskiego o Polsce i polakach od roku 1788 aż do końca roku 1815. Poznań, 1870—1875. T. c. 168).

"Самыя знакамітыя роды ў Польшчы паходзяць пераважна з Літвы. Чартарыйскія, Радзівілы, Агінскія, Сапегі, Тышкевічы, Пацы, Сангушкі — гэта Ліцьвіны". (Цытаваны твор. Т. 3. С. 190).

"На працягу ўсяго гэтага канстытуцыйнага сойму прадстаўнікі Літвы бліскуча раскрыліся ў сваім найчысцейшым патрыятызме і бязмежнай самаахвярнасці дзеля дабра краю. Не саступалі яны ні колькасцю, ні талентамі каронным паслам, а прозвішчы Нямцэвіча, Вайсэнгофа, Матушэвіча, Солтана, Казіміра Сапегі, Ваўжэцкага і шмат іншых, запісаных у нацыянальныя архівы, пакінулі на іх глыбокі след адміністрацыйных талентаў, красамоўства і патрыятызму... Пачатак паўстання 1794 г. ажывіў вялікі патрыятычны энтузіязм Ліцьвінаў". (Там жа. С. 189.)

"Гордыя сваім паходжаннем, Ліцьвіны, хоць і злучылі свае правінцыі з Польшчаю, захавалі свае звычаі, свой грамадскі кодэкс, свае ўстановы, і ажно да апошняга падзелу соймы адбываліся па чарзе ў Варшаве і Гародні, было войска польскае і ліцьвінскае. Літва мела свае вышэйшыя трыбуналы, свае дыкастэрыі, сваіх міністраў, сваіх чыноўнікаў. Так моцна трымалася сваіх прэрагатываў, што незалежна ад намаганняў і прапаноў дзяржаўных дзеячаў, якія ведалі няёмкасць гэтага злоўжывання, нельга было схіліць Ліцьвінаў адрачыся ад іх". (С. 34—35.)

"Ліцьвіны, захоўваючы свой статут, захавалі права сваіх бацькоў, права, прыстасаванае да мясцовасці, да звычаяў і маралі народа". (т. 3 С. 38.)

"Праз колькі дзён пасля майго вяртання ў Вільню я пайшоў да генерала Ясінскага, каб засведчыць яму, што калі ён хоча даць мне 200 чалавек кавалерыі з добрым афіцэрам, на якога я мог бы разлічваць, то я адважыўся б злучыць з імі маіх стралкоў і ўтварыць перадавы атрад арміі, якая была тады бяздзейснаю, каб рухацца ажно да Мінска. Калі б мне ўдалося дайсці датуль без вялікага супраціўлення, то я здолеў бы дапасьці да Белай Русі, каб заклікаць там да паўстання нейкіх 12000 сялян з маіх родавых валоданняў, даўшы ім вольнасць, і атрымаць падмацаванне, якое толькі змог бы за кароткі час сабраць". (Т. 1. С. 321.)

"Я не быў дапушчаны, як ужо казаў, да тых таямніц, з якіх склалася рэвалюцыя; прызнаюся нават, што, ведаючы нашыя слабыя рэсурсы і велізарныя сілы, якія можна было выкарыстаць дзеля нашага задушэння, я не падманваў сябе дарэмнымі надзеямі і не суцяшаў сябе, што вынік будзе адпавядаць чаканням патрыётаў, але незалежна ад гэтага наважыўся не пакідаць край, дзяліць небяспеку з маімі суграмадзянамі і хутчэй загінуць са зброяй у руках, чым зняславіць сябе, ухіліўшыся ад удзелу ў патрыятычным уздыме і ў стане адчаю". (Там жа. С. 298.)

Разгорнуты каментар тут, бадай, залішні. Можна толькі спадзявацца, што пасля публікацыі гэтых тэкстаў больш не будзе пытання наконт "штучнага прывязвання" да нашай музычнай культуры "чарговага іншаземца-паляка". Бо нават сам Агінскі, як бачым, лічыў ды называў сябе літвінам, змагаўся і марыў пра адраджэнне Вялікага княства Літоўскага. Што, канешне ж, не выключала яго колішняй грамадзянскай прыналежнасці не толькі да княства, але да ўсёй Рэчы Паспалітай — дзяржавы, якая ў свой час называлася яшчэ й Польшчай. Аднак толькі ў этатычным (дзяржаўным), а не ў этнічным сэнсе ўжываў гэтую назву Агінскі, гэтаксама, дарэчы, як і іншыя ягоныя сучаснікі — жыхары Літвы-Беларусі.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

Тэатр

# "ЖЫВАЯ ПЛАНЕТА": ВЯРТАННЕ КАРНАВАЛУ

Жыхары Мінска змаглі ўбачыць спектакль "Беларускія вадэвілі", якім адкрыўся творчы сезон народнага тэатра "Жывая планета", што месціцца ў памяшканні Палаца культуры "Юнацтва". Спектакль пастаўлены па п'есах "Мікітаў лапаць" Міхася Чарота і "Прымакі" Янкі Купалы.

Яшчэ на першых рэпетыцыях кіраўнік і рэжысёр тэатра Артур Забалотнікаў прадэманстраваў новае прачытанне класічных тэкстаў, акцэнтаваў увагу на тым, што спектакль трэба ўспрымаць як шматпланавы твор. Адна з галоўных мэт спектакля — змусіць гледача выслабаніцца ад бытавой зашоранасці, калі дробязныя бытавыя праблемы і жаданні засланяюць сабой сапраўдныя пачуцці і імкненне да жыцця. На сцэне гэта перададзена праз шматлікія і някідкія пародыі на поп-маскультуру (у тым ліку на поп-фольккултуру), праз арганічную ўплеценасць элементаў розных форм тэатральнай і паратэатральнай творчасці (ад батлейкі да агітбрыгады). Непадрыхтаванаму гледачу было нават цяжка зразумець, дзе адбываецца проста гульня, пародыя, дзе лагодны гумар, дзе "сур'ёзная гаворка", а дзе проста сарказм.

Тэатр "Жывая планета", адзін з вядучых народных тэатраў краіны (сярод шматлікіх прэмій і іншых узнагарод згадаю толькі апошнюю — лаўрэат першай прэміі Рэспубліканскага фестывалю "Спадчына"), уяўляе сабой вельмі нават "аскетычную" структуру. Так, акцёры за сваю працу не атрымліваюць грошай, тэатр адмаўляецца ад супрацоўніцтва са спонсарамі і ад удзелу ў камерцыйных праектах (згаджаецца выязджаць у замежныя гастролі толькі ў выключных выпадках). Таму можна з упэўненасцю сказаць, што ў аўдыторыях, дзе з'яўляецца "Жывая планета", з'яўляецца і чыстае пачуццё прыгажосці (зразумела, у розных формах), да якой не прымешваецца кан'юнктура або эстэтычнае махлярства.

Перад спектаклем у той жа зале праходзіла нейкая дужа сур'ёзная канферэнцыя, удзельнікі якой працягвалі рэгістрацыю ў фае. Спектакль пачынаўся з "раёшнай часткі" — і ў публіку, што стаяла ў чаканні імпрэзы, уварваліся скамарохі, якія закруцілі ў вірлівых народных танцах і гульнях і разгубленых гледачоў, і адказных дзядзькоў з канферэнцыі. Ужо ў зале распачалася "гульня ў кірмаш", дзе ў акцёраў-скамарохаў, прачытаўшы верш або праспяваўшы песеньку, можна было вытаргаваць цукеркі, абаранкі, печыва. Амаль магічныя ўдары бубна, якія заклікалі акцёраў-скамарохаў на сцэну, разрэзвалі час і прастору на гульню ў рэальнасць і проста гульню на сцэне...



Сярод акцёраў, якія "ажыўлялі" кніжных герояў, варта адзначыць ігру Сержука Мінскевіча. Ён выконваў галоўныя ролі ў абедзвюх п'есах (Яўхім у "Мікітавым лапці" і Прымак Максім). Віртуозны жанглёр з лагемамі, дыскурсамі, канцэптамі, іншай квазіэстэтычнай набрыддзю, паспяховы паляўнічы за "дэманамі Масквела", рафінаваны скандаліст на навуковых канферэнцыях і адзін з заснавальнікаў постпостмадэрнавага транслагізму Сяржук, пераўвасобіўшыся ў вясковых мужыкоў, лётаў з пугай за дачкой і жонкай, сварыўся са сваёй і чужой радзінай, выклікаў экспрэсіўнай праставатасцю смех і слёзы ў гледачоў. Сусед па крэсле заўважыў: "Пэўна, хлопец толькі што з вёскі прыехаў"...

Аляксандру Самуленку праз вобраз Мікіты ўдалося перадаць пачуцці "маленькага" чалавека, які не можа дасягнуць сваёй мэты — узаемнасці ў каханні. Шчырасць пачуцця з вялікай доляй іроніі выяўлена ў адносінах паміж Зоськай (Ларыса Мікуліч) і Саўкам (Вадзім Целеш). Ніколі не ўпусцяць свайго, аднак шчыра жадаюць дабра сваім дзецям кабеты Дар'я (Света Байрамава) і Грыпіна (Алена Прышчэпава). Запомніліся гледачам мікраролі Брыя Байрамава, Сяргея Дзянісава, Віктара Крукоўскага (скамарохі). Захапляла ювелірная адточанасць масавых сцэн, якімі так славіцца тэатр.

У другой частцы спектакля — "Прымаках" — гледачы пазнаёміліся з рэзкім Трахімам (Вадзім Целеш), згоднай на кампраміс Даміцэляй (Святлана Байрамава), хітраватай Паланеяй (Ліка Метэ), абаяльнай Кацярынкай (Алена Зіневіч), энергічным Мацейкам (Аляксандр Тлусты), падхалімам соцкім (Мікалай Казлячка), маніякальна самаўпэўненым раднікам (Сяргей Прышчыц).

Праца тэатра "Жывая планета" на сённяшні дзень пачынае рабіцца актыўным эпіцэнтрам эстэтычнага поля ці не ўсяго горада. Мала хто з сучасных і самадзейных калектываў можа сабраць вялікую залу гледачоў і зрабіць кожнага з іх сутворцам. Цяжка працаваць на сцэне, аднак яшчэ складаней "кулуарная" дзея, у якой перамешваецца шматгадзінная напрацаванасць і няўрымслівая імправізацыя.

**Алесь ТУРОВІЧ**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

# КАЛЁКВІУМ З ХАЙНРЫХАМ НОЕМ

## ДА 75-ГОДДЗЯ БАЎХАЎЗА

У невялічкім гарадку Боргхарсце (Паўночны Рэйн-Вестфалія) жыве і працуе былы выпускнік сусветнавядомага БАЎХАЎЗа, вучань Васіля Кандзінскага Хайнрых Ной. Белы "мерсэдэс" імчаў нас на сустрэчу з мастаком па шляху, абапал якога плылі дбайна дагледжаныя нівы, цудоўнейшыя астраўкі прыроды. Міжволі думалася, што тут наўрад ці ўзнікла б у каго жаданне пераўтварыць нешта дзеля "светлай будучыні" без дазволу гаспадароў гэтай зямлі. І, вядома ж, зноў і зноў прыгадвалася гісторыя БАЎХАЎЗа, лёс яго выкладчыкаў, наша мастацтва 20-х гадоў, падабенства і рознасць ідэй: сёлета цывілізаваны свет адзначае 75-годдзе БАЎХАЎЗа, заснаванага германскім архітэктарам Вальтэрам Гропіўсам.

Назіраю наваколле: старая чырвоная дахаўка, "фахвэркі", гарманічнае суіснаванне новай пластыкі, дызайну разам з эстэтыкай мінулага. І лаўлю сябе на думцы, што тут пераемнасць традыцый большая, чым здавалася мне яшчэ гадоў дзесяць таму. Новае, узнікшае на пачатку стагоддзя, не стала разбуральным фактарам для помнікаў мінулага гэтай краіны, не знішчыла агульначалавечыя здабыткі. Мастацтва рэальнага авангарда імкнулася абудзіць жывую пераемнасць традыцый, без штучнасці і палітызацыі. Гэта была спроба адрадзіць прагу людзей да дасканалага, як бы тэорыі мастакоў-эксперыментатараў не падабаліся шырокаму колу.

Нашаму творчаму асяроддзю, як нікому, не хапае дыялога з тагачаснымі мастакамі, ведання эмацыянальнай матэрыі іх творчасці. Таталітарызм глушыў ідэі сцвярджальнікаў новага мастацтва, пускаў плёткі аб натуральнай яго смерці, арганізоўваў рэпрэсіі супраць мастакоў. Час не пакінуў занатаванага вопыту, імёны многіх аўтараў дарэмна шукаць у энцыклапедыях і на вокладках альбомных выданняў. Сінтэзаваны ідэолагамі пачварны вобраз мастака-наватара, архітэктара яшчэ не разбураны.

Я адчуваю важнасць моманту сустрэчы, бо ніякая выдавецкая прадукцыя не заменіць непасрэднага кантакту з чалавекам, настаўнікамі якога былі Васіль Кандзінскі, Ёзэф Альберс, Міс ван дэр Роэ і іншыя...

Вось і царкоўны шпіль Богхарста, які дамінуе над маленькім гарадком. Дом мастака. Мадэль светаўспрымання? З першых крокаў адчуваеш моцную энергію, уласцівую памяшканням, дзе плённа працуюць, а не імітуюць творчую дзейнасць.

Па лесвіцы спускаецца мастак. Найперш звяртаюць увагу ветлівыя, здаецца, абсалютна шчырыя вочы. Жывая ўсмешка на твары, вельмі энергічная паходка для чалавека 1911 года нараджэння. Звычайны чалавек, ні кроплі чыноўніцкага снабізму, уласцівага асобным нашым мастакам. Ёсць адчуванне, што бачыліся мы неаднойчы, і я прыйшоў, каб чарговы раз пачуць ад яго адказы на накопленыя праблемы. Вакол рэчы, зробленыя мастаком: графіка ў вялікіх рамах, вітражы, дробная пластыка, архітэктурныя праекты. Сам дом спраектаваны, каб было дастаткова светла і ўтульна. Усё функцыянальна падпарадкавана найлепшаму ўспрыманню твораў.

Займаем крэслы пластыкі БАЎХАЎЗа і пачынаем знаёмства. Нас прадставіла мастаку арганізатар сустрэчы спадарыня Хітвіх Шульцэ-Ветэндорф, чый партрэт працы Ноя я бачыў раней.

Доўга мастак з вялікай павагай распавядаў аб сваіх настаўніках-майстрах (такія адносіны да выкладчыкаў не выхаваны, на жаль, у нашага цяперашняга і былога студэнцтва). Асабліва вялікі ўплыў на Ноя аказалі ідэі Васіля Кандзінскага, добрая памяць пра якога не змяншаецца з пражытымі гадамі. Уразіла шырыня праблем, якія спрабавалі вырашаць навучэнцы разам з выкладчыкамі. Кола іх інтарэсаў выходзіла далёка за межы ўласна формаўтварэння, таму, відаць, і спадчына аказалася жыццяздольнай. Вялікае значэнне меў і дзяржаўны статус БАЎХАЎЗа; наўрад ці атрымаліся б такія выніковыя эксперыменты, абапіраючыся толькі на прыватную падтрымку, залежную ад рынкавай кан'юнктуры. Але менавіта дзяржаўны таталітарызм спыніў дзейнасць мастацкай камуны. Ідэі ж наватараў стагоддзя не зніклі і сёння, яны з'яўляюцца творчай глебай для мастакоў, дызайнераў, архітэктараў. Хайнрых Ной шкадуе, што зараз людзям бракуе пачуццяў. Імкненне да бестурботнага спажывання не стымулюе інтэлектуальную патрабавальнасць.



*Навальніца. 1946 г.*

Яго вельмі цікавяць краіны на ўсход ад Германіі. Але там ён ніколі не быў, ніколі не выстаўляўся (дарэчы, мінскі Дзяржаўны мастацкі музей плануе выставу Хайнрыха Ноя восенню наступнага года). І толькі асоба В. Кандзінскага была для баўхаўзаўцаў мостам да іншай ментальнасці.

Мастак прыгадваў і сваё дзяцінства: як цяжка давалася школьная адукацыя і як БАЎХАЎЗ абудзіў у ім энергію да вучобы, да творчай дзейнасці. Шкада, што шмат часу прайшло са студэнцкіх гадоў і цяжка падтрымліваць сувязі з аднакурснікамі. Складана траціць яму час і на працяг знаёмстваў з мастакамі. Галоўная задача — працаваць, бо вельмі багата яшчэ ідэй, праектаў.

Мае спадарожнікі тым часам адказвалі на пытанні каларыстычнага тэсту, вынайдзенага самім мастаком і апрабаванага на працягу дзесяцігоддзяў. На аснове вынікаў гэтага тэсту Ной стварае псіхалагічныя партрэты, якія складаюцца з дзвюх частак: тэксту і непасрэдна малюнка. Аб такой методыцы выдадзена мастаком кніга.

Было ў мяне пытанне аб стаўленні мастака да экспрэсіянізму. Гэты перыяд выклікаў на нашай кафедры мастацтвазнаўства ў Беларускай акадэміі мастацтваў неаднаразовыя дыскусіі. Але свет геаметрычнай пластыкі так захапіў і кіраваў зместам гутаркі, што гэтаму пытанню не знайшлося месца. Мастак дэманстраваў свае ілюстрацыі да музычных твораў, якія спецыяльна пішуцца і дасылаюцца яму кампазітарамі з розных краін свету; да лірычных вершаў Эдварда Мёрыке. Надзвычай важнае месца займае ў працы кожнае слова, яго адценне, суадносіны. І гэта адбіваецца ў колеры і пластыцы. Кожны элемент творчасці павінен несці сэнс, быць адлюстраваннем асобы.

Напрыканцы размовы мастак, акрамя альбомаў, падараваў мне копію свайго рукапісу



*Хайнрых Ной.*

"Хайнрых Ной і ідэі навучальнай майстэрні". Тут змешчаны тэарэтычныя прынцыпы дзейнасці, структуры, пабудаванай на вопыце БАЎХАЎЗа, зразумела, суадносна з новымі ўмовамі. Ноя цікавіць водгук на сваю творчасць з боку студэнтаў, мастакоў, крытыкаў з Беларусі.

Прыйшоў час развітвацца. Фатаграфуемся. Набытая ў мінскай камерцыйнай краме фотакамера ў найбольш адказныя моманты мае звычай да збояў. Але гэты раз яна не падводзіць. Хайнрых Ной доўга махае ўслед, аж пакуль было відаць яго з нашай машыны...

Праз некалькі дзён у мюнстэрскім Ландэсмузеі я бачыў вялікую рэтраспекцыю твораў Хайнрыха Ноя. Яна размясцілася па ўсім першым паверсе вялікага будынка. Тут былі студэнцкія малюнкі, рэалістычныя замалёўкі перыяду другой сусветнай вайны, пасляваеннае цытаванне матываў сваіх выкладчыкаў і той уласны стыль, які немагчыма зблытаць з іншымі. Ён знойдзены і пацверджаны, у ім жыццёвы стваральны шлях.

**Міхась БАРАЗНА**

# ГАДАРА

*(Пачатак на стар.8 )*

Табе да нас?!" А Ён? Добранькі! А Ён іх — у свіней! І свінні патанулі!

— Да-а-а, свінні патанулі...

— А вы хочаце паклікаць Яго! Ну, паклічце — Ён вас давядзе! — Свінапас паддаў камень нагой, шпурнуў яго і рушыў прэч. Мужчыны кінуліся следам:

— Не слухай ты нас, дурных.

— Мы што, мы — абы сказаць. Узбрыло ў галаву...

— Дык вось, — рэзка спыніўся свінапас, — няма чаго пераліваць з пустога ў парожняе. Марш па хатах! Заўтра будзеце ў мяне ўкалваць, каб дурное ў вашыя галовы не лезла.

— Добра-добра. Будзем. Толькі ты не злуйся.

Бацька ішоў да веснічак, і Янка ссунуўся на зямлю каля паркана, прытуліўся да яе, як туліцца да зямлі спуджаны заяц, гатовы ўсё ж у любую хвіліну бліснуць пятамі.

* * *

Янка вобмацкам прыціскаў лапушнік да Міцькавага цела там, дзе той паказваў, і яму здавалася, што ў яго таксама страшэнна баляць рукі-ногі. Хаця ніхто яго сёння і не лупцаваў. Яму сёння неяк пашэнціла ўнікнуць лупцоўкі.

— Не пайду дахаты, — енчыў Міцька. — Нізавошта не пайду. Што я яму зрабіў, свінапасу праклятаму? А тым усім? Як не раздзерлі на кавалкі... Самі паспрабавалі б утрымаць шалёны гурт.

— Не думай пра гэта, — параіў Янка, — не паправіш.

— Не паправіш, — хліпаў Міцька. — А ўсё Ён! І чаго прывалокся да нашых свіней? Столькі бяды нарабіў!

Янка прамаўчаў. Ён глядзеў у цемру і бачыў... Ягоныя вочы. Вялікія, спакойныя і... дакорлівыя. Цяпер у іх было не адно, а шмат пытанняў. Яны плылі адно за другім з Ягоных вачэй, і ні на аднае з іх Янка чамусьці не ўмеў адказаць.

— Хто яго прасіў сюды? — заенчыў зноў Міцька.

Янка ачуўся і злосна, быццам не хто іншы як Міцька перашкаджаў адказваць яму на тыя складаныя пытанні, крыкнуў:

— Ды сціхні ты!

Вочы зніклі. Быццам напалохаліся ягонага крыку. Янка з палёгкай уздыхнуў. Трывога адышла, ніхто ў яго болей ні аб чым не пытаўся і не трэ было пакутаваць над адказамі.

— Тыя б'юцца, ты крычыш, — падхапіўся знянацку Міцька. — Досыць ужо! Досы-ы-ць!

І — рынуўся стоць галавой уніз. Як яшчэ Янка паспеў падставіць яму нагу. Той паваліўся, а Янка схапіў сябра за крысо кашулі. Кашуля затрашчэла, але Міцьку ўтрымала. Міцька ляжаў ніцма на траве, скуголіў, енчыў і дзёр траву рукамі. Янка штурхануў яго ў бок:

— Досыць качацца — пайшлі!

— Куды? — ускінуў Міцька галаву. — Да свінапаса? Ненавіджу! Мне і раней за ім жыцця не было, а цяпер зусім заб'е. Другіх слоў не ведае, як толькі: "Здзяру скуру!" І за што яго толькі гэтак любяць?

— Любяць? Баяцца Таго, хто дэманаў выганяе, за сваіх свіней трасуцца — вось і любяць. Любоў гэткая...

Янка замоўк: свінапаса ён таксама не любіў і баяўся — б'ецца часта.

— Ну, ладна, пайшлі, — падняўся Янка. — У хату цябе мамка не пусціць — свінапаса пабаіцца, а ў хляве месца знойдзем. Паспіш. Там цёпла.

Яны паволі падымаліся на ўзгорак, дзе стаяла Янкава хата, якая ў цемры была падобная цяпер на нерухомага агромністага і страшнаватага звера. Янка раз-пораз спатыкаўся, і тады вада выплёхвалася з вядра на ягоныя парэпаныя ногі, апякала іх. Раптоўна яны як не зачапіліся за чалавека, які стаяў каля паркана і трымаўся за яго. Адхіснуліся і не далі лататы толькі таму, што Янка нёс ваду, а Міцька ледзьве валок ногі.

— Не бойцеся, — азваўся чалавек. — Я не зраблю вам благога.

Ягоны голас быў спакойны, трохі стомлены, але добры, хаця і зусім незнаёмы.

— Хто ты? — запытаў Янка і здрыгануўся ўсім целам — пазнаў незнаёмага. Па кудлатай галаве, па зарослым валасамі твары ён пазнаў гэтага чалавека, якога баяўся начамі, якім яго пужалі, калі ён каго не слухаўся, якога баяліся ўсе. Упершыню Янка быў гэтак блізка ад яго і мог разгледзець ягоны твар. Твару, уласна кажучы, і не было відаць — адно валассё, у якім дзесьці там, на глыбіні хаваліся вочы.

— Не бойцеся, — паўтарыў чалавек.

— Ты больш не б'ешся? — запытаў Янка дрыготкім голасам. — Ты... ужо... не шалёны?.. Ты больш не будзеш выць па начах?

Янка не ўбачыў, а адчуў, як чалавек недзе там, пад густым валассём, што гадамі расло на ягоным твары, як ён... усміхнуўся. І Янку чамусьці зноў захацелася заплакаць. Зусім без прычыны.

— А Ён куды пайшоў? — раптам немаведама навошта запытаў Янка. — Ён больш не вернецца?

— Не ведаю, — ціха адказаў чалавек. — Не ведаю. Напэўна, прыйдзе, але трэба, каб мы самі таго пажадалі.

— А свінапас? — запытаў Янка і адчуў, як побач уздрыгнуў Міцька.

Але чалавек быццам не пачуў яго — казаў далей:

— Вельмі трэба, каб мы пажадалі быць з Ім. Разам з вучнямі Ён паплыў ад нас, але я сэрцам чую: вернецца.

— А свінапас?! — паўтарыў сваё Янка.

— Горка, што мы не прынялі Яго. Вельмі горка. Але калі прымем — Ён вернецца. Ён сказаў нам: ідзіце і кажыце людзям, хто вылечыў вас. Мой сябра пайшоў. І я... пайду... Мне б толькі вады... Я вады шукаю...

Янка паспешліва падаў яму вядро з вадой. Чалавек доўга піў, адарваўся ад вядра, зноў нагнуўся, зноў піў, потым уздыхнуў:

— І вада наша смярдзючая, і паветра смярдзючае... Адно слова — Гадара...

— А свінапас?!

— Ды што ты заладзіў: свінапас ды свінапас... Іхні час мінаецца вельмі хутка, а час Справядлівага чакаюць вечнасць. Добра, хлопча, напаіў ты мяне — дзякуй. Да раніцы мне трэба выйсці з Гадарынскай зямлі, бо для многіх тут я яшчэ шалёны — забіць могуць. Мне ж яшчэ жыць трэба. Мне сведчыць трэба, як Ён таго хоча. Мне трэба набліжаць Ягоны час.

І чалавек ступіў у цемру. І праз некалькі крокаў яна атачыла, схавала яго — адно чуліся ягоныя спакойныя, упэўненыя крокі.

— Я з табой! — раптоўна гукнуў Міцька.

Крокі сціхлі, але чалавек не адзываўся — чакаў.

— Я з табой! — І Міцька, як сляпы выцягнуўшы наперад рукі, кінуўся следам. — Я з ім! — кінуў адно Янку паверх пляча, і пакуль той апамятаўся — Міцька знік з вачэй.

Іхнія крокі хутка расталі. Янка ўслухоўваўся ў цемру, углядаўся ў яе — і нічога не чуў, не бачыў. Раптоўна з процілеглага боку, ад магільніка данеслася ціхае, жаласнае выццё. Яго падхапіў мацнейшы голас, і яны зліліся ў адзін. Яны то заціхалі, то мацнелі, то заліваліся на лад нейкай балотнай птушкі, то пагрозліва пераходзілі ў воўчае выццё, то цішэлі і тады нагадвалі плач немаўляці, якое надоўга пакінулі ў зыбцы без нагляду.

# "ЗОРКІ" НА ВЕЧАРЫНУ

Нашы святы гукаюць ды выгукваюць нашы праблемы. Святкаванне акцёрскіх юбілеяў на сцэне Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы на каталіцкія Каляды 25 снежня мінулага года мела на ўвазе, мовячы вобразна, надаць бляску беларускім акцёрскім зоркам, зладзіўшы для іх і з іхнім чынным удзелам вечарыну "Калядныя зоркі". Бадай перад усімі расстараўся Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі (асабіста — сп. Антаніна Міхальцова); а вось мастацкі бок наўпрост залежаў ад... Магчыма, ад акцёрскіх магчымасцяў? Але буду шчыраю: самымі вабнымі падаліся звязкі-каментарыі пра юбіляраў вядучага Генадзя Давыдзькі; уражвалі цеплыня ды зацікаўленасць, з якою былі сабраны самыя разнастайныя звесткі з зорнага жыцця ў мастацтве ўдзельнікаў вечарыны. А канцэртныя нумары-віншаванні, у якіх выпала ўбачыць іншых драматычных артыстаў, на жаль, нічога не дадалі... Ні да ўшанаванняў, ні да мастацкіх вобразаў, якія яны стварылі на сцэнах сваіх тэатраў (Купалаўскага, Рускага, Тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі...). А то і разбуралі даўняе абаянне гэтых самых вобразаў...

Зрэшты, да гэтае тэмы мы вернемся ў бліжэйшых нумарах. А на здымках Віктара ДРАЧОВА — сапраўдныя, незалежныя і пераканаўчыя "калядныя зоркі". Нават калі ім выпала пачувацца такімі толькі на адну вечарыну...

**Ж. Л.**













Мартыралог

# ПАКУТНІКІ "ГУЛАГу"

У Рэспубліку Комі яны былі загнаны яшчэ да вайны. Іх вялі, іх везлі, іх гналі, як жывёлу, пад узмоцненым канвоем. Паміраць яны пачалі яшчэ ў дарозе. А потым адных прызначылі на спецпасяленне пад нагляд спецкамендатуры, і самых здаровых, працаздольных загналі ў зону, у лагеры. Нарыхтоўвалі лес, здабывалі вугаль і нафту. Узмоцненымі тэмпамі будавалі чыгунку ад Котласа да Варкуты. Хоць кожны чалавек быў пад канвоем, але страх перад зняволенымі не пакідаў карнікаў. Таму пры ўсіх лагерах (а лагеры размяшчаліся ад Котласа да Варкуты і ўглыб Комі-краю, у самых вярхоўях Вычагды і Пячоры) дыслацыраваліся так званыя войскі НКУС. Пры гэтых падручных войсках стварыліся ваенныя трыбуналы. Гэтыя ваенныя суды пры кожным лагеры працавалі несупынна, тамсям і кругласутачна. Праследаваліся пры гэтым тры мэты, тры задачы: каб бесперапынна судзіць і адлаведную частку нявольнікаў асуджаць да расстрэлу і тут жа расстрэльваць, гэтым самым трымаючы лагерны кантынгент у страху; каб колькасць працуючых, асабліва спецыялістаў, будаўнікоў чыгункі, не змяншалася ў сувязі з заканчэннем тэрміну, ваенныя трыбуналы несупынна дадавалі тэрмін пры патрэбе; каб кожны, каму прыклеены тытул "ворага народа", ужо ніколі не змог вярнуцца да нармальнага жыцця, ніколі не стаў паўнапраўным грамадзянінам, чалавекам. Нават для дзяцей "ворагаў народа", для ўсіх іх сваякоў усе шляхі, усе дарогі ў нармальнае жыццё былі перакрыты.

Ураджэнец Мсціслаўшчыны, я таксама прайшоў цярністымі шляхамі "ГУЛАГа". Арыштаваны ў канцы трыццатых гадоў за прыналежнасць да "контррэвалюцыйнай арганізацыі", адбываў зняволенне ў адным з лагераў аўтаномнай Рэспублікі Комі. Лёс мой склаўся так, што пасля вызвалення і наступнай рэабілітацыі я застаўся жыць і працаваць там жа, у Комі. У 1990 годзе выйшаў на заслужаны адпачынак. Што яшчэ пра сябе сказаць... У 1992 годзе ў Саснагорску, дзе я жыву, разам з яшчэ шаснаццаццю былымі палітычнымі вязнямі мы арганізавалі суполку ўсерасійскай арганізацыі "Мемарыял", старшынёй якой быў абраны я. Сярод нашых клопатаў — дапамога былым палітычным вязням, збор іх успамінаў, абнародаванне імёнаў тых, хто некалі трапіў у жорны бязлітаснай рэпрэсіўнай сталінскай машыны менавіта тут, у Комі. Даводзіцца шмат працаваць у розных архівах, весці перапіску і з былымі вязнямі, і з іх сем'ямі — дзецьмі і ўнукамі.

У спісе былых вязняў, які прапаную "ЛіМу", я выбраў толькі сваіх землякоў — ураджэнцаў Беларусі, якіх без усялякай віны судзілі ўжо ў лагеры паўторна, і якія ў пастсталінскія часы былі поўнасцю рэабілітаваны. Магчыма, у сяготага з чытачоў выкліча неўразуменне напісанне некаторых геаграфічных назваў, якімі памечаны месцы нараджэння асуджаных, але менавіта так яны былі пададзены ў дакументах.

Вось яны, гэтыя імёны:

**АНІШЧЫК Аляксей Сцяпанавіч**, 1912 года нараджэння, ураджэнец в. Мондзіна Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Асуджаны Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч.2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ВАЙНШТЭЙН Якаў Срулевіч**, 1880 г. н., ураджэнец г. Клецк БССР, зняволены Ухтпечлага. Тройкай НКУС па арт. 58 п. 10 і 58 п. 11 КК РСФСР і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**ГРЫНШТЭЙН Зяма Адамавіч**, 1923 г. н., ураджэнец г. Гомель БССР, зняволены Ухціжэмлага, у 1944 годзе Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 14 КК РСФСР асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі.

**КАВАЛЬЧУК Канстанцін Пятровіч**, 1899 г. н., ураджэнец в. Барычэўцы Мінскай вобласці, зняволены Ухціжэмлага. Прыгавораны ў 1941 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч.2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**КАЛАКУЦКІ Анатоль Георгіевіч**, 1917 г. н., ураджэнец г. Віцебска. Зняволены Севжэлдарлага. У 1941 годзе Ваенным Трыбуналам войск НКУС СССР пры Упраўленні Паўночна-Пячорскай чыгуначнай магістралі па арт. 58 п. 14 КК РСФСР асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі і на 3 гады паражэння ў правах.

**ГАЎРЫЛАЎ Фёдар Міхайлавіч**, 1893 г. н., ураджэнец с. Беліца Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. У 1945 г. Ваенным Трыбуналам войск НКУС будаўніцтва Паўночна-Пячорскай чыгуначнай магістралі па арт. 58 п. 10 ч.2 КК РСФСР асуджаны да 7 гадоў пазбаўлення волі і 3-х гадоў паражэння ў правах.

**АЗАРЭВІЧ Яўген Пятровіч**, 1925 г. н., ураджэнец г. Докшыцы Полацкай вобл., БССР. У 1947 годзе Ваенным Трыбуналам Паўночнага басейна па арт. 58 п. 10 ч. 1 КК РСФСР асуджаны да 7 гадоў пазбаўлення волі і на 3 гады паражэння ў правах.

**БАСКО Рыгор Іванавіч**, 1891 г. н., ураджэнец д. Кумікі Сямёнаўскага раёна БССР. У 1939 годзе выязной сесіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 1 КК РСФСР асуджаны да 8 гадоў пазбаўлення волі і на 3 гады паражэння ў правах.

**НАРУШЭВІЧ Мальвіна Іванаўна**, 1904 г. н., ураджэнка хутара Буоблішкі Маладзечанскай вобл. БССР. У 1948 годзе судовай калегіяй Вярхоўнага Суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР асуджана да 10 гадоў пазбаўлення волі і на 5 гадоў паражэння ў правах.

**МАЛАШКА Аляксандр Вікенцьевіч**, 1899 г. н., ураджэнец вёскі Залескі Гродзенскай вобл. Асуджаны Вярхоўным Судом Комі АССР па па арт. 58 п. 10 ч. 1 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і на 5 гадоў паражэння ў правах.

**ФАЛІТАР Канстанцін Францавіч**, 1898 г. н., ураджэнец вёскі Лялькаўшчына Маладзечанскай вобл. БССР. У 1948 г. Вярхоўным судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі і на 5 гадоў паражэння ў правах.

**МАЛЯЎКА Густаў Францавіч**, 1899 г. н., ураджэнец мястэчка Лужкі Полацкай вобл. Беларусі. У 1949 г. Вярхоўным Судом Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі.

**ЛАЦЯНКОЎ Цярэнцій Васільевіч**, 1907 г. н., ураджэнец сяла Лабыраўка Гомельскай вобл. У 1948 годзе лінейным судом Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі.

**ЦЯХАЕЎ Аляксандр Акімавіч**, 1907 г. н., ураджэнец сяла Сямёнаўка Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні. Лінейным судом Пячорскай чыгункі ў 1944 годзе па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі.

**БІНКІН Рыгор Барысавіч**, 1905 г. н., ураджэнец Гомельскай губерні Беларусі. У 1938 годзе Вярхоўным Судом Комі АССР другі раз па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР асуджаны да 8 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ФЕДАРОВІЧ Васіль Васільевіч**, 1895 г. н., ураджэнец в. Малая Рапаўка Капыльскага раёна, Беларусь. Асуджаны ў 1940 годзе Нянецкім акружным судом па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР да 5 гадоў пазбаўлення волі і 3 гады паражэння ў правах.

**ЭПШТЭЙН Лазар Мордухавіч**, 1899 г. н., ураджэнец г. Мінска. Асуджаны ў 1939 годзе Нянецкім акружным судом па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР да 5 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**СОРКІН Файвіш Іосіфавіч**, 1890 г. н., ураджэнец г. Віцебска. Асуджаны ў 1942 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**КАМЕКА Сяргей Яфімавіч**, 1888 г. н., ураджэнец г. Лепель. Асуджаны ў 1939 годзе Нянецкім акружным судом па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ПАЛТАРАЦКІ Якаў Іванавіч**, 1923 г. н., ураджэнец г. Полацка. Асуджаны ў 1943 годзе судовай калегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР пры Усцьвымлагу НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 і 58 п. 14 КК РСФСР да 7 гадоў пазбаўлення волі і 2-х гадоў паражэння ў правах.

**ПРАКОФ'ЕЎ Фёдар Сцяпанавіч**, 1915 г. н., ураджэнец г. Віцебска. Асуджаны ў 1943 годзе судовай калегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР пры Усцьвымлагу НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**НОВІК Іван Антонавіч**, 1922 г. н., ураджэнец в. Яськевічы Несвіжскага раёна Баранавіцкай вобласці. Асуджаны ў 1946 г. Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР да 8 гадоў пазбаўлення волі і 3 гады паражэння ў правах.

**ДРАЗДОЎСКІ Мітрафан Іосіфавіч**, 1898 г. н., ураджэнец мястэчка Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна Баранавіцкай вобл. Асуджаны ў 1946 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР да 8 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**ДЗЕЖАШЧ Фелікс Іосіфавіч**, 1902 г. н., ураджэнец г. Гродна. Асуджаны ў 1946 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР да 8 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**КАНКАЛОВІЧ Антон Ануфрыевіч**, 1904 г. н., ураджэнец вёскі Канкаловічы Баранавіцкай вобл. Асуджаны ў 1946 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**СЯЎРУК Міхаіл Васільевіч**, 1919 г. н., ураджэнец вёскі Сарогі Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Асуджаны ў 1946 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**МІХЕДЗЬКА Мацвей Іванавіч**, 1918 г. н., ураджэнец сяла Броннае Рэнінскага раёна Гомельскай вобл. Асуджаны ў 1943 годзе судовай калегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**МІСЮКЕВІЧ Андрэй Іванавіч**, 1921 г. н., ураджэнец вёскі Куляшы Васілішаўскага раёна Гродзенскай вобл. Асуджаны ў 1947 годзе спецлагсудом Ухціжэмлагу МУС па арт. 58 п. 10 ч. І КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ГЛУШАКОЎ Рыгор Рафаілавіч**, 1892 г. н., ураджэнец вёскі Вітунь Касцюковіцкага раёна, Беларусь. Асуджаны ў 1943 годзе судовай калегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР пры Ухціжэмлагу НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ЯРЫГА Аляксей Васільевіч**, 1893 г. н., ураджэнец вёскі Бабунічы Петрыкаўскага раёна Мінскай вобл. Асуджаны ў 1943 годзе судовай калегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР пры Ухціжэмлагу НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**Г. УСЦІЛОЎСКІ,**
**старшыня Саснагорскага таварыства "Мемарыял" (Рэспубліка Комі)**

*(Працяг будзе)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



Гістарыясофія

Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ

# МІФЫ І ГІСТОРЫЯ

## СТЭРЭАТЫПЫ

Прыкладам міфалагічнага мыслення могуць служыць стэрэатыпы. Стэрэатыпам увогуле называюць схематычныя, стандартызаваныя вобразы сацыяльных з'яў ці аб'ектаў, спрошчаныя ўяўленні аб пэўных постацях, грамадскіх, этнічных, рэлігійных групах, установах, краінах. Звычайна яны эмацыянальна афарбаваныя і валодаюць вялікай устойлівасцю. Стэрэатыпы — гэта звычайна прадузятыя ўяўленні, фальшывыя вобразы, "хадзячыя меркаванні", якія звязаны з групавымі (класавымі, расавымі, этнічнымі, рэлігійнымі) прымхамі.

Падобныя стэрэатыпы з'яўляюцца вынікам дагматызацыі гістарычнага міфа. Упершыню ў сацыялогію ўвёў гэты тэрмін амерыканскі публіцыст, выхадзец з Беларусі Уолтэр Ліпман у 1922 годзе.

Этнічныя, рэлігійныя, расавыя і іншыя стэрэатыпы не варта ацэньваць з пункту погляду сучасных настрояў, нельга разглядаць іх выключна праз прызму этнасу, расы, рэлігіі. Нельга патрабаваць ад нашых продкаў бясстрасных ацэнак — яны ў свой час актыўна не ўспрымалі ерэтыкоў ці "вядзьмарак".

Як сумясціць памяць аб рахунку крыўд, што існуюць паміж двума этнасамі? Патрэбна шчырае папярэджанне, з супрацьдзеяннем нацыянальнай нянавісці. Знешне гэта можа здацца квадратурай круга, але выйсце з гэтага зачараванага круга ёсць: чэсна ўявіць існаванне праблемы і выклікаць дыскусіі, каб яе развязаць.

Значыцца, выйсце адно — шчырае папярэджанне. Прыкладам такога шчырага папярэджання можа служыць разгляд змоўніцкай тэорыі гісторыі.

## ЗМОЎНІЦКАЯ ТЭОРЫЯ ГІСТОРЫІ

Прыхільнікі такой тэорыі рашучае значэнне ў гістарычным развіцці аддаюць змовам і адмаўляюць усе іншыя рухальныя фактары.

Змовы, папраўдзе, існавалі ўсюды і заўсёды. Успомнім змову супраць Юлія Цэзара з мэтаю ягонага забойства, змову асасінаў у часы Крыжовых паходаў на Блізкім Усходзе, змову тугаў-душыцеляў у Індыі... камору ў Неапалі, мафію, дзекабрыстаў. Усе гэтыя змовы былі звязаны з пэўнай мясцовасцю і часам.

Апроч сапраўдных змоў, існавалі і змовы ўяўныя. Надта доўгае жыццё прыпісвалі рыцарам-тампліерам, сябрам сакрэтных таварыстваў розэнкрэйцэраў, ілюмінатаў, масонаў. У сучаснай гісторыі змова з імкненнем пакарыць свет па чарзе прыпісвалася езуітам, масонам, сіёнскім мудрацам, Трэцяму Інтэрнацыяналу, а прыхільнікі ўпамянутай тэорыі лічаць, што імі ўсімі (і нават езуітамі) нібыта кіравалі габрэі. Для прыхільніка змоўніцкай тэорыі гісторыі ідэальным праціўнікам быў бы езуіт з семіцкімі рысамі твару, які насіў бы фартух масона і меў бы ў кішэні партбілет сябра кампартыі...

З'явілася нават мастацкая літаратура з раскрыццём падобных змоў — "Іосіф Бальзамо" і "Дваццаць год пасля таго" Дзюма, "Вечны жыд" Сю, "Судны дзень" Віктара Іванова, "У імя айца і сына" Івана Шаўцова, "Усё наперадзе" Васіля Бялова.

Змоўніцкая тэорыя дачакалася і свайго "Дон Кіхота" — пародый — "Сутарэнні Ватыкана" Андрэ Жыда і "Маятнік Фуко" Умберта Эко.

Узгаданыя вышэй аповесці і раманы прысвечаны толькі вымысленым змовам. Толькі такія ўяўныя змовы і леглі ў аснову змоўніцкай тэорыі гісторыі, якая абмяжоўвае сябе вывучэннем толькі іх. Прынясце такой тэорыі робіць непатрэбнай карпатлівую працу гісторыкаў па высвятленні прычын з'яў або абумоўленасці гістарычнага працэсу. Згодна ёй усё залежыць ад змоў, якімі тлумачыцца "ўсё" на свеце...

Людзі не любяць прызнавацца ва ўласных памылках, жадаюць прыпісваць іх іншым. Замест бачання гісторыі, у якой шмат што бывае вынікам супадзення ці збегу акалічнасцей, а іншым разам проста глупства, больш спакусліва ўявіць сабе, што намі кіруюць таямнічыя сілы, якія дзейнічаюць з карыслівым намерам... Чалавеку ў такіх умовах не трэба самому спрабаваць нешта зрабіць, каб паўплываць на ход падзей. Гэта тыпова фаталістычная тэорыя, якая нараджае ў чалавека пасіўныя адносіны да рэчаіснасці.

Змоўніцкая тэорыя гісторыі складае значную частку грамадскай свядомасці. У краінах з дыктатарскім стылем кіравання яна дазваляе аб'ядноўваць прыхільнікаў няспыннай барацьбы супраць уяўных праціўнікаў і развязвае супраць іх тэрор...

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ЛЕГЕНДЫ

Прадуктам міфічнага мыслення, які даволі часта сустракаецца, з'яўляюцца гістарычныя легенды. Гэта або ідэалізаваныя, або зацемненыя, насычаныя варожым стаўленнем вобразы гістарычных устаноў, з'яў, персанажаў.

Легенды і міфы гісторыі Беларусі падрабязна пералічаны мною ў шэрагу публікацый, у тым ліку ў артыкуле "Якой быць беларускай гістарычнай навуцы" ("Полымя", 1992, N 5), таму адсылаю цікаўных да гэтай працы: спашлюся на тыя легенды, на якія звярнулі ўвагу іншыя даследчыкі.

Так, Юры Туронак адзначае, што ў беларускай нацыянальна свядомай літаратуры ўладкаваўся міф адмоўных адносін нямецкіх акупацыйных улад у 1918 годзе да беларускай дзяржаўнасці. Прычынамі гэтаму з'яўляецца тое, што 25 лютага 1918 г. нямецкія жаўнеры скінулі беларускі нацыянальны штандар з будынка Народнага сакратарыята ў Менску і канфіскавалі касу гэтае ўстановы. Інцыдэнт гэты, як мяркуе навуковец, засланіў сабою станоўчыя ўчынкі камандуючага 10-й нямецкай арміяй Э. фон Фалькенгайна, які перадаў мясцоваму апарату ўлады ўсе краёвыя дзяржаўныя ўстановы і дазволіў пашырыць беларускую адукацыю...

Другім прыкладам легенды Ю. Туронак лічыць міф пра будаўніцтва беларускай дзяржавы пад нямецкай акупацыяй у 1941—1944 гадах, нібыта перарваны прыходам Чырвонай Арміі..

## ГІСТАРЫЧНАЯ АДУКАЦЫЯ І МІФЫ

Вялікі ўдзел у распаўсюджванні міфаў, легенд, стэрэатыпаў, як адзначалася вышэй, прымае гістарычная адукацыя. Нярэдка яны падтрымліваюцца свядома, з думкай аб выхаваўчым плёне. Не ўпэўнены, што такім чынам можна дасягнуць дыдактычных мэт. Хутчэй мае рацыю наш зямляк, выхадзец з Беларусі польскі пісьменнік Юзаф Ігнацы Крашэўскі, які ў творы "Літва. Старажытная гісторыя: законы, мова, вера, звычаі" пісаў паўтара стагоддзя таму назад: "Гісторыя настолькі значная, наколькі праўдзівая; становячыся служанкаю якой-небудзь думкі і пакорнай яе нявольніцай, яна страчвае сваё настаўніцкае і філасофскае значэнне".

У школьнай адукацыі цяжка пераконваць моладзь у няслушнасці міфаў, стэрэатыпаў, легенд. Міфалагічны спосаб мыслення характарызуе не толькі штодзённую гістарычную свядомасць, але жыве і ў літаратуры, мастацтве, сродках інфармацыі, у папулярна-навуковых і навуковых выданнях. Вакол нас свет, поўны міфаў. У гэтым заключаецца вонкавая цяжкасць праблемы.

Але ёсць і ўнутраныя цяжкасці працы па рацыянальным доказе няслушнасці міфаў. Яны звязаны з немінучым спрашчэннем выкладання, невялікай колькасцю гадзін, якія адводзяцца на выкладанне, абмежаванымі магчымасцямі ўспрымання вучнямі. Гэтае спрашчэнне з'яўляецца вытокам шмат якіх міфічных арыентацый адносна мінулага. Нічога больш не спрыяе міфам, чым няведанне. З гэтага выцякае відавочная выснова: спрашчэнне школьных ведаў не можа ісці надта далёка. Спрошчаныя веды вельмі лёгка могуць ператварыцца ў крыніцу міфаў, стэрэатыпаў і легенд. Так у мінулым адбывалася неаднойчы.

Другая выснова, якую можна зрабіць, такая: школьную гісторыю нельга арыентаваць аднабакова толькі на выхаваўчыя мэты, якія павінны быць прыстасаванымі да фарміруючых і пазнавальных мэт. Рацыянальнае тлумачэнне сутнасці міфаў патрабуе павышэння навуковага ўзроўню прадмета і большага акцэнтавання ўвагі на высокай гістарычнай культуры. Трэба фарміраваць у моладзі навуковыя адносіны ў дачыненні да мінулага, узбуджаць крытычнасць да надзённых гістарычных ведаў.

Тлумачэнне міфаў абцяжарваецца таму, што ёсць шмат спасылак на факты, пацверджаныя навукай, і тым ствараецца выгляд гістарычнай праўды.

Гістарычны факт шматзнакавы і валодае літаральным пластом, які выражаецца ў апісанні канкрэтнага здарэння, установы ці персанажа, і метафарычным пластом, які адносіцца да шырэйшага дыяпазону з'яў, які выражае прынятыя носьбітамі міфаў сінтэтычныя меркаванні і каштоўнасці.

Прыкладам можа служыць легенда пра словы палітрука Клачкова ля раз'езда Дубасекава ў канцы 1941 г. пры абароне Масквы. Гэтыя словы былі сказаны абаронцам пазіцый, але ж усе 28 абаронцаў, згодна афіцыйнай версіі, загінулі, — гэта значыць, што перадаць гэтыя словы журналісту, які апісаў подзвіг, ніхто не мог...

Гістарычны міф пагрозлівы не толькі ў сваім літаральным, але і ва ўласна метафарычным пласце. Узнікненне гістарычнага міфа звязваецца са спрашчэннем і абагульненнем фрагмента гісторыі (гэта можа быць працэс, з'ява, гістарычны факт), і гэтая працэдура выклікае, з аднаго боку, пэўнае накапленне ацэнкі толькі ў адным пункце (бачанне дадзенага гістарычнага перыяду праз прызму гэтага фрагмента), а, з другога боку, стварэнне пэўнага пазыўнога сігналу, які ва ўспрыманні чытачом быў бы роўным успрыманню акрэсленага знака (M. Jaskolski. Historia i mit historyczny w doktrynie politycznej // Historyka. T. XIV. — ст. 61).

Міфалагічнае мысленне носіць выбарачны, скарочаны і аднапамерны характар. Яно неаднаразова канцэнтруе ўвагу на дробных эпізодах, якім надае значэнне сімвалаў. Гэткае мысленне адсоўвае ў цень астатнія факты або ўцісквае іх у прынятыя схемы, паслугоўваецца простай шкалой ацэнак. Перавага аддаецца чорна-белым схемам ("добры — дрэнны", "герой — здраднік" і г. д.).

Пераадоленне міфаў патрабуе пераказу грамадству як можна больш поўных ведаў пра мінулае. Мы мусім бачыць гістарычную рэчаіснасць такой, якой яна была, а не такой, якой яна "павінна" быць. Нельга засяроджваць увагу толькі на адным, станоўчым ці адмоўным баку гістарычных з'яў. Трэба асвятляць іх усебакова, спосабам, што адпавядае патрабаванням прафесійнай навукі, а не прыстасаванню да сучасных палітычных мэт той ці іншай партыі ці грамадскага руху.

Патрэбна таксама змяніць спосаб прадстаўлення гістарычных персанажаў, як, дарэчы, гэта паспрабавалі зрабіць нацыянальна свядомыя беларускія даследчыкі мінулага Ю. Туронак і В. Кіпель (Ю. Туронак. Беларусь пад нямецкай акупацыяй; В. Кіпель. Беларусы ў ЗША). Дасюль гістарычныя персанажы маюць надта спрошчаны выгляд, яны схематычныя, аднапамерныя. Нам трэба паказваць асоб, што дзейнічалі ў мінулым, як людзей жывых, якія мелі пэўныя вартасці, але таксама і недахопы, якія паддаваліся пэўным слабасцям, рабілі памылкі і г. д.

Трэба таксама ўзбагаціць школьную шкалу ацэнак. Яны мусяць быць больш адцененымі, чым зараз. Перавагу пры гэтым трэба даваць не столькі першасным ацэнкам ("прагрэсіўны — рэакцыйны"), колькі параўнаўчым (напрыклад, "у параўнанні з...", "было гэта выйсце больш...").

Асобнай праблемай з'яўляецца карыстанне сімваламі. Здавён яны мелі вялізную ролю ў гістарычнай адукацыі, як у школе, так і па-за ёю. Дыдактычная гісторыя надае некаторым фактам, часамі "значным", часамі "другарадным", вялікае сімвалічнае значэнне. Іх апісваюць не толькі больш падрабязна, але таксама надта эмацыянальна. Дастаткова толькі ўспомніць світку К. Каліноўскага ці жэст Тадэвуша Рэйтана, дэпутата на сейм Рэчы Паспалітай ад Наваградчыны, які кінуўся на падлогу, жадаючы перашкодзіць іншым удзельнікам сейма ісці падпісваць бескарысныя для Рэчы Паспалітай дамовы...

## ВЕЛЬМІ НАСЫЧАНАЕ СІМВАЛАМІ ВЫКЛАДАННЕ НАВЕЙШАЙ ГІСТОРЫІ

Аперыраванне сімваламі прыносіць плён, але адначасна стварае і перашкоды на шляху да зразумення гістарычнага працэсу. У дыдактычна пададзеным вопісу гісторыі бывае часта парушанай структура гістарычнай рэчаіснасці, дэфармуюцца прапорцыі і суадносіны. Гэта датычыцца пачатковай адукацыі, у якой маюць перавагу выхаваўчыя мэты і якая моцна насычана міфічнымі элементамі. Ад іх цяжка вызваліць прывучаны ў дзяцінстве розум...

Такое становішча схіляе да пастановы пытання: ці мэтазгодна прадстаўляць факты-

*Працяг. Пачатак у нумары за 6.01.95 г.*

## "КАЛЯДКІ" ПРА КАЛЯДЫ



**Чатырнаццаць гадоў працуе пры Маладзечанскім музычным вучылішчы фальклорны ансамбль "Калядкі", створаны па ініцыятыве выкладчыка фальклору Зоі Францаўны Русель. Яна і сёння нястомна кіруе гэтым калектывам, усведамляючы, што тэарэтычных ведаў навучэнцам яўна недастаткова і толькі "жывы" фальклор можа памагчы адчуць глыбіню народных традыцый.**

**Склад ансамбля, па меры прыходу ў вучылішча новых дзяцей, перыядычна абнаўляецца. Выступае калектыў у школах, інтэрнатах, на прадпрыемствах роднага горада, знаёмячы гледачоў з рознымі абрадамі — валачобнымі, вясельнымі, каляндарнымі. Усе яны грунтуюцца на матэрыялах, сабраных у фальклорных экспедыцыях. Так, напрыклад, творчае супрацоўніцтва з фальклорным калектывам вёскі Шутавічы Смаргонскага раёна папоўніла рэпертуар "Калядак" многімі новымі песнямі.**

Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ



*На здымках: калядны абрад у выкананні ансамбля "Калядкі".*

*Фота аўтара*

## ВЯРНУЛАСЯ СВЯТА

**Калі быў СССР, то літаратары трох суседніх абласцей — Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай — часта збіраліся разам на розныя цікавыя мерапрыемствы. А потым па вядомых прычынах наступіла зацішша. І вельмі добра, што не надоўга! Зноў ажываюць творчыя сувязі паміж пісьменнікамі трох абласцей. Першымі працягнулі руку для поціску чарнігаўцы, якія запрасілі на шырока вядомае некалі свята "Над Дняпром, Дзяснoй і Сожам". Разам з гомельскімі і бранскімі пісьменнікамі ў сустрэчах са студэнтамі педінстытута імя Т. Шаўчэнкі і жыхарамі райцэнтра Рэпкі бралі самы актыўны ўдзел чарнігаўскія літаратары, кампазітары, спевакі.**

**Добрае свята вярнулася на славянскую зямлю. Для дружбы не існуюць мытні. Сёлета будзем чакаць і мы гасцей. Спадзяюся, што знойдзем і хлеб, і соль, і песні.**

Васіль ТКАЧОЎ,
адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў

## ШЛЯХІ ЧАЛАВЕЧЫЯ

**Так назваў прадмову да кнігі "Боты дзевяці салдат", выпушчанай выдавецтвам "Мастацкая літаратура", Якуб Лапатка. Змест гэтага зборніка склалі два раманы знакамітага сучаснага фінскага пісьменніка Пентці Хаанпяя, перакладзеныя на беларускую мову тым жа Я. Лапаткам. Твор, які даў назву кнізе, з элементамі гумару, што пераходзіць у сатыру. Аўтар па-свойму паказвае ваенныя падзеі, апісваючы прыгоды на фронце і ў тыле ўладальнікаў пары салдацкіх ботаў. У другім рамане "Балада пра трох Тэрапя" ўзнаўляецца жыццё прадстаўнікоў трох пакаленняў на хутары Тэрапя.**

сімвалы ў пачатковай школе? На нашу думку, страты ад гэтага значна большыя, чым магчымы плён. Таму нам здаецца вартым абмяжоўваць міфічна-сімвалічныя элементы ў навучанні гісторыі, але надаваць школьнаму характару навучання гісторыі больш навуковы характар.

Зразумела, гэта пацягне за сабою адмаўленне ад асвечаных традыцыяй фактаў-сімвалаў або адсуне іх на менш бачнае месца ў гістарычным выкладанні. Мы выказваемся за наданне школьнаму гістарычнаму выкладанню больш рэчавы характар з сапраўдным узважваннем у ім рацыянальных і эмацыянальных элементаў.

Карыснай зброяй у пераадоленні гістарычных міфаў можа быць крытычны аналіз выбраных міфаў, стэрэатыпаў, легенд. Зразумела, гэта больш магчыма рабіць у сярэдняй школе. Але і ў пачатковай школе ў адукацыю можна ўводзіць пэўныя элементы такога аналізу.

Так, напрыклад, "чорным" стэрэатыпам немцаў і Нямеччыны, што ўкараніліся ў нас з часоў Другой сусветнай вайны, можна было б супрацьпаставіць удзяленне ўвагі момантам збліжэння беларусаў і немцаў падчас прабывання апошніх на Беларусі як нацыянальнай меншасці на працягу стагоддзяў, паказу таго, як нямецкая мова дала пачатак пэўным словам беларускай мовы, таго, як лекары нямецкага паходжання лячылі мясцовае насельніцтва, а настаўнікі нямецкага паходжання вучылі дзяцей і г. д.

У сярэдняй школе можна было б аналізаваць "чорныя" і "белыя" легенды такіх асоб як Машэраў, Чарвякоў, Мяснікоў, Каліноўскі і інш. Такі аналіз дазволіў бы моладзі зразумець складаны і адначасова дынамічны характар гістарычных ведаў і яе ўсялякія, пазанавуковыя і навуковыя абумоўленасці. Гэта магло б прывіць моладзі крытыцызм да гістарычных меркаванняў, што знаходзяцца ва ўжытку, імкненне да выпрацоўкі ўласнага погляду на некаторыя гістарычныя і сучасныя з'явы і здарэнні.

## ПЕРААДОЛЕННЕ МІФАЎ

Пераадольваць гістарычныя міфы цяжка і складана. Справа ў тым, што існуюць гіпотэзы пра тое, што схільнасці паддавання гатовым узорам грамадскіх паводзін зваротна прапарцыянальныя ўзроўню ведаў і грамадскага вопыту асобы. Аднак міфы і стэрэатыпы грамадства перадае чалавеку стыхійна ці ў выглядзе свядомай перадачы, якая натхнёная адпаведнымі цэнтрамі, напрыклад, цэнтрамі ідэйна-выхаваўчага ўздзеяння, якія звязваюць акрэсленыя падзеі з трываласцю гэтых міфаў і стэрэатыпаў.

Можна таксама сцвярджаць, на падставе даследаванняў над фармаваннем грамадскімі рухамі таталітарнага і аўтарытарнага характару індывідуальнага чалавека (пачалі ў свой час Гордан Олпорт і Тэадор Адорна), што існуюць людзі, якія асабліва здольныя да пераймання і пераказу міфаў. Звязана гэта з існаваннем у іх пачуцця пагрозы, адчужэння, адасаблення, патрэбы бяспекі і аўтарытэту. Людзі з падобнай "аўтарытарнай", замкнёнай асабовасцю больш падрыхтаваныя за асоб з дэмакратычнай, адкрытай паставай да прыняцця гатовых узораў мыслення, паводзін. Яны праяўляюць большую схільнасць да абвостраных супрацьпастаўленняў і схематычнага стылю мыслення, а таксама да нецярпімых адносін да іншых вартасцей і іхніх прыхільнікаў.

Аднак брак шырокіх эмпірычных даследаванняў перашкаджае акрэсліць псіхічныя якасці асобы і грамадскай групы, якія спрыяюць працэсу міфалагізацыі гістарычнай свядомасці. Зрэшты, іх па-рознаму тлумачаць асобныя школы і псіхалагічна-сацыялагічныя тэорыі. У саміх гістарычных і паліталагічных даследаваннях свядомасці адзінкі і грамадскай групы слаба ўлічваецца праблема ірацыянальных матывацый палітычных паводзін і выхавання.

З'яве міфалагізацыі гістарычнай свядомасці напэўна спрыяюць адзінкі і грамадскія групы, якія слаба інфармаваныя аб становішчы мінулай і сучаснай рэчаіснасці, і недастатковы грамадскі вопыт. Гэта цесна звязана з псіхічнымі працэсамі забывання, фантазій, дэфармацыі памяці. Развіццё гэтага палягчаюць пэўныя асабістыя якасці чалавека, якія праяўляюцца ў схематычным стаўленні да грамадскай рэчаіснасці, варожасці ў адносінах да іншых вартасцей і перакананняў, у моцна ідэйна матываваных адносінах і выхаванні і г. д.

Таму вызваленне гістарычнай і палітычнай свядомасці жыхароў Беларусі з'яўляецца надта цяжкай задачай, грамадскім працэсам, які залежыць не толькі ад гісторыкаў і папулярызатараў гістарычных ведаў, але і ад самога грамадства не ў апошнюю чаргу. Яно патрабуе перабудовы псіхікі і змянення найбольш закасцянелых форм мыслення і дзеяння. Найперш трэба звярнуць увагу на тое, што ў розумы беларусаў на працягу дзесяцігоддзяў уводзіліся русіфікатарскія міфы гісторыі, якія моцна ўтрываліліся ў іх. Не менш уплыву зроблена з мэтай падпарадкавання камуністычнае дактрыне і яе трывалым міфам. Усё гэта варта ўлічваць у далейшай дэміфалагізацыі гісторыі.

Чалавек не можа жыць дзесь у іншым месцы, чым у свеце, у якім існуе гісторыя. Ён па сваёй натуры з'яўляецца гістарычнай істотай. Мы "наканаваны" на гісторыю. Таму мы мусім дбаць пра тое, каб свет нашых гістарычных уяўленняў быў пабудаваны з як мага найлепшага матэрыялу, а не з міфаў, стэрэатыпаў і легенд сумніўнага характару.

*Адраджэнне*

# БУДУЧЫНЯ — ЗА БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ

Так меркаваць даюць нам ўступныя экзамены па беларускай мове і літаратуры ў Брэсцкім педагагічным інстытуце. Над вынікамі іх разважаюць у адным з апошніх леташніх нумароў "Настаўніцкай газеты" прафесар, загадчык кафедры методыкі выкладання літаратуры і краязнаўства В. Ляшук і дацэнт кафедры славянскіх моў В. Пераход. Красамоўная назва іхняга артыкула — "Выпускнікі школ бачаць сваю краіну суверэннай, у якой дзяржаўная мова — беларуская".

Як сведчаць аўтары, "уступныя экзамены ў Брэсцкі педінстытут здавалі ці павінны былі здаваць усе абітурыенты. Па факультэтах і спецыяльнасцях гэта выглядала наступным чынам: аддзяленні "беларуская мова і літаратура" філалагічнага факультэта — беларуская мова вусна і пісьмова (дыктант), беларуская літаратура (вусна); аддзяленні беларуская, руская мовы і літаратуры народаў свету" — "беларуская мова і літаратура (вусна), беларуская і руская мова (дыктант) на выбар абітурыента; аддзяленні нямецкай і англійскай моваў з дадатковай спецыяльнасцю "беларуская мова і літаратура" — беларуская мова і літаратура (вусна) і беларуская мова (дыктант); аддзяленні руская мова і літаратуры народаў свету з дадатковай спецыяльнасцю "англійская мова" — беларуская мова пісьмова (дыктант); на спецыяльнасцях факультэта педагогіка і псіхалогія дашкольная — беларуская мова і літаратура пісьмова (дыктант); на спецыяльнасцях гістарычнага факультэта — беларуская літаратура (вусна) і беларуская мова пісьмова (дыктант); на спецыяльнасцях факультэтаў фізвыхавання, фізіка-матэматычнага і прыродазнаўства — беларуская мова і літаратура (вусна); на факультэце педагогіка пачатковага навучання — беларуская мова і літаратура (вусна), а на гэтым факультэце з дадатковай спецыяльнасцю "выяўленчае мастацтва" — беларуская мова пісьмова (дыктант)".

Наконт пытанняў па літаратуры. Паколькі, у апошнія чатыры гады Міністэрствам адукацыі рэкамендаваліся настаўнікам дзве праграмы, у якіх часам прапаноўваліся для вывучэння розныя творы, то ў білеты былі ўключаны творы з абедзвюх праграм, а ўжо абітурыент сам выбіраў, якія з іх разглядаць у сваіх адказах.

Думаецца, заслугоўвае ўвагі стаўленне да патрабаванняў па здачы пісьмовага экзамена, як сведчаць аўтары артыкула, "Тэксты дыктантаў былі падабраны ў асноўным з твораў мастацкай літаратуры, а таксама публіцыстыкі. Урыўкі з трылогіі Якуба Коласа "На ростанях", Івана Мележа "Людзі на балоце", У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім", Г. Далідовіча "Заходнікі", І. Чыгрынава "Плач перапёлкі", для гістарычнага факультэта — з навукова-папулярных нарысаў У. Арлова пра Ефрасінню Полацкую, М. Ткачова пра Усяслава Чарадзея, К. Цвіркі пра Тамаша Зана".

Якія ж вынікі прыёмнай кампаніі? На думку аўтараў, "найгалоўны (як ні дзіўна!) мае палітычнае значэнне. Выпускнікі школ, будучыня Рэспублікі Беларусь, бачаць сваю краіну суверэннай, дзяржаўную мову — беларускай. Таму сёння самымі прэстыжнымі педагагічнымі схільнасцямі з'яўляюцца тыя, дзе беларуская мова і літаратура — спецыяльнасць. Пра гэта сведчыць колькасць заяў, якія падалі выпускнікі школы на розныя факультэты. Калі ў цэлым конкурс заяў у педінстытуце складаў 2,5 чалавека на адно месца, то па аддзяленні беларускай мовы і літаратуры на 60 месцаў было пададзена 243 заявы, з іх 61 заява ад медалістаў. Быць настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры выказалі жаданне вясковыя і гарадскія юнакі і дзяўчаты. Выявілася выразная тэндэнцыя ў пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы. Яна пачынае гучаць не толькі ў час адказу абітурыента".

Аўтары артыкула звяртаюць увагу і яшчэ на адзін паказчык: "На аддзяленне беларуская, руская мовы і літаратуры народаў свету на 45 месцаў падалі 95 заяў, з іх 23 медалісты. Паказальны і сам характар падачы заяў. За два дні на спецыяльнасць "беларуская мова і літаратура" было пададзена 68 заяў, у той жа час як на спецыяльнасць "беларуская, руская мовы і літаратура народаў свету" толькі пад самы канец набору пачалі больш актыўна паступаць дакументы. Некаторыя пераходзілі на гэтую спецыяльнасць з аддзялення беларускай мовы і літаратуры".

Усё гэта, безумоўна, не можа не радаваць, паколькі намецілася тэндэнцыя, згодна якой маладое пакаленне расце нацыянальна свядомым і гатова (у самым лепшым значэнні гэтага слова) прысвяціць сябе служэнню Бацькаўшчыне, суверэннай беларускай дзяржаве. Праўда, як бачна з артыкула, ёсць і негатыўныя моманты. На жаль, часам лепшага жадае падрыхтоўка абітурыентаў. Гэта тычыцца і медалістаў. Выклікае трывогу і тое, што "ўсе экзаменатары прызнаюць слабую падрыхтоўку па беларускай мове і літаратуры выпускнікоў гімназіі N 1 Брэста, гімназій з раённых цэнтраў". А не сакрэт жа — на навучальныя ўстановы новага тыпу (тыя ж гімназіі, ліцэі) ствараліся дзеля таго, каб даваць выпускнікам больш высокую і разнастайную падрыхтоўку.

І ўсё ж, калі гаварыць у цэлым, дык экзамены ў Брэсцкім педінстытуце пераканалі — за беларускай мовай будучыня.

# "ЛЕГЕНДА ПРА КАЛЯДЫ"

Маляўнічыя прадстаўленні з такой назвай прайшлі ў Мінску напярэдадні свята ў Рэспубліканскім Палацы піянераў і школьнікаў. У яркім шоу задзейнічана каля двухсот удзельнікаў з розных калектываў палаца. Узорны тэатр лялек паказаў сваю новую работу "Нараджэнне Хрыста". Кіраўнік гэтага калектыву Леанід Андрэйчыкаў і госця з Амерыкі рэжысёр Нью-Йоркскага тэатра "Лэмс", што на Брадвеі, Каралін Росі-Конленд у кароткі тэрмін паставілі спектакль. Лялькі для яго таксама "прыехалі" з Брадвея.

На дзесяці святочных прадстаўленнях пабывалі больш за дзве тысячы школьнікаў. Гэта дзеці са шматдзетных сем'яў, дзеці-інваліды. Лялечны тэатр даў прадстаўленне ў дзіцячым гематалагічным цэнтры і ў чацвёртай дзіцячай клінічнай бальніцы.

Арганізаваць гэтыя калядныя спектаклі рэспубліканскаму Палацу піянераў і школьнікаў памаглі амерыканская гуманітарная арганізацыя "Сіціхоуп Інтэрнешнл", міжнародная дабрачынная арганізацыя "Надзея-Экспрэс" і жаночая валанцёрская ініцыятыва "Крок насустрач!"

**Аркадзь НІКАЛАЕЎ, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: Каралін Росі-Конленд на рэпетыцыі з акцёрамі лялечнага тэатра.*

*Фота аўтара*

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Ніне Загорскай з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці мужа.**

ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**
**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932–35) |
| І.Гурскі | (1935–41) |
| А.Куляшоў | (1945–46) |
| М.Горцаў | (1947–49) |
| П.Кавалёў | (1949–50) |
| В.Вітка | (1951–57) |
| М.Ткачоў | (1957–59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959–61) |
| Н.Пашкевіч | (1961–69) |
| Л.Прокша | (1969–72) |
| Х.Жычка | (1972–76) |
| А.Асіпенка | (1976–80) |
| А.Жук | (1980–86) |
| А.Вярцінскі | (1986–90) |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 10216.
Нумар падпісаны 12.1.1995 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

